МІКОЛА БАГАДЗЯЖ

# СЫНЫ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ



МІНСК «НАРОДНАЯ АСВЕТА» 2002

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
Б14

Рэцэнзент
Г.В. Штыхаў, д-р гіст. навук

**Багадзяж М.**
Б14 Сыны зямлі беларускай / М. Багадзяж. — Мн.: Нар. асвета, 2002. — 96 с.: іл.
ISBN 985-03-0995-4.

Што мы ведаем пра князя Мсціслава Храбрага? Іншая справа — Яраслаў Мудры, сын Рагнеды... Але ж і Мсціслаў Храбры — яе сын, якога праславілі ў сваіх творах і Баян і аўтар «Слова пра паход Ігаравы»... Пра Мсціслава Храбрага, Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага і іншых слынных сыноў зямлі беларускай распавядаецца ў гэтай кнізе.

Адрасуецца вучням сярэдніх і старэйшых класаў і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны.

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)

Навукова-папулярнае выданне

**Багадзяж** Мікалай Канстанцінавіч

**СЫНЫ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ**

Рэдактар *Л. А. Цімафеева.* Мастак *Г. С. Грак.* Мастацкі рэдактар *В. І. Казлоў.* Тэхнічны рэдактар *З. У. Раманкевіч.* Камп'ютэрная вёрстка *В. М. Міхайлавай.* Карэктары *З. М. Грышэлі, І. С. Яромчык.*

Здадзена ў набор 26.11.2002. Падпісана ў друк 03.12.2002. Папера афсетная. Фармат 84 x 108[1]/[32]. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 5,04. Умоўн. фарба-адбіт. 5,46. Ул.-выд. арк. 4,87. Тыраж 2000 экз. Заказ 3374.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Народная асвета» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 4 ад 08.09.2000. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». 225320, Баранавічы, Савецкая, 80.



ISBN 985-03-0995-4

*Прысвячаецца маёй маці*
*Анне Кірылаўне*

# АД АЎТАРА



*Напэўна, для даследчыка гісторыі няма нічога больш радаснага, чым тыя маленькія адкрыцці, што робяцца ім час ад часу пад маўклівымі зводамі архіваў і бібліятэк, сярод густога папяровага пылу і пажоўклых лістоў старажытных рукапісаў.*

*І сапраўды, з чым можна параўнаць той урачысты момант, калі ў небыццё ўдаецца адваяваць яшчэ адно імя, яшчэ адзін факт, той момант, калі наладжваецца нябачны кантакт паміж мінулым і цяперашнім, паміж табою і тваім продкам, які жыў некалькі стагоддзяў назад! Тады незразумелае раптам становіцца простым і ясным, ты ведаеш, чаму канкрэтная гістарычная асоба ў той ці іншай сітуацыі пачынала паводзіць сябе менавіта так, а не інакш, што яна магла думаць, на што разлічваць...*

*Кніга, якую вы зараз трымаеце ў руках, напоўнена такімі маленькімі адкрыццямі. І датычаць яны славутых сыноў Беларусі, пра якіх, здаецца, ужо ўсё вядома. І тым не менш шэраг новых, цікавейшых фактаў дапаўняе, дамалёўвае знаёмыя многім рысы герояў беларускай гісторыі.*

*Спадзяюся, што і вам, мае чытачы, такое блізкае знаёмства з нашымі славутымі прашчурамі дасць вялікае задавальненне. Што яны праз факты сваіх біяграфій навучаць вас высакароднасці, пачуццю ўласнага гонару, любві да Радзімы. Што дапамогуць знайсці выйсце з самых цяжкіх сітуацый сучаснасці, разабрацца ў пакутлівых думках, зразумець, што́ ў гэтым жыцці для чалавека самае важнае, дзеля чаго мы пушчаны ў свет.*

*Поспеху вам!*



# КНЯЗЬ-ВОЛАТ

985(?)–1036



Чым больш займаешся даследаваннем гісторыі, чым больш паглыбляешся ў крыніцы і гістарычную літаратуру, тым больш робіш нечаканых для сябе адкрыццяў. Прычым звязаны яны часцей за ўсё з падзеямі і асобамі, якіх, здаецца, ведаеш выдатна. Узяць хаця б гісторыю пра Рагнеду і яе дзяцей. Колькі ўжо напісана пра Ізяслава, у колькіх даследаваннях упамінаецца аб тым, што Яраслаў Мудры яе сын! А вось аб тым, што Мсціслаў Храбры таксама яе сын, не прыгадаў ніводнага разу ні адзін з беларускіх даследчыкаў. А гэты ж князь, якога апелі ў сваіх творах і залегендарны Баян, і аўтар «Слова пра паход Ігаравы», заслугоўвае не меншай, а, магчыма, нават большай увагі, чым яго браты.

Сведчаннем таго, што гэты славуты князь быў сынам Рагнеды, з'яўляюцца словы Радзівілаўскага летапісу: «Рогнѣд(ь), юже посади на Лыбеди, есть н(ъ)нѣ селце Предславино, от неяж(е) роди 4 с(ы)ны: Изяслава, Мьстислава, Ярослава, Всеволода и 2 дщери». Ды факт гэты і не з'яўляецца адкрыццём, бо пра яго выдатна ведалі і расійскія гісторыкі мінулых стагоддзяў, напрыклад, М. Карамзін і А. Нечвалодаў. Пішуць пра гэта і сучасныя рускія і ўкраінскія даследчыкі. Мы ж чамусьці забыліся пра аднаго з найбольш цікавых «унукаў Рагваложых».

Мсціслаў быў апошнім дзіцем Рагнеды. Нарадзіўся ён

не пазней 987 года. Аб дзяцінстве яго невядома нічога, але можна смела выказваць здагадку, што ён змалку вызначаўся адвагай і ваяўнічасцю. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што менавіта яго накіраваў Уладзімір на княжанне ў Цьмутаракань.

Княства гэта знаходзілася на самым далёкім ускрайку старажытнарускай дзяржавы. Яно размяшчалася на поўдні Крымскага паўвострава і заходняй часткі сучаснага Краснадарскага краю. Стольны горад княства Цьмутаракань стаяў на беразе Таманскага заліва (на яго месцы зараз знаходзіцца станіца Таманская). Горад гэты ў той час з'яўляўся важным стратэгічным пунктам, буйным гандлёвым портам. Насельніцтва княства было вельмі рознаэтнічным — славяне, готы, хазары, булгары, прадстаўнікі горскіх плямёнаў. Жыхары княства вызначаліся сваёю адвагаю, авантурызмам, ваяўнічасцю, маладзецтвам. Ды і нядзіўна, бо толькі такія людзі маглі выжыць у акружэнні варожых народаў.

Зразумела, што кіраваць такім княствам мог толькі той князь, які і сам меў тыя ж якасці характару. Падыходзіў Мсціслаў і па знешнасці. Летапісец пісаў: «Был же Мстислав дороден, краснолиц, с большими очами, храбр в сражениях, милостив, любил дружину без меры, имени своего для нее не щадил, ни в питье, ни в пище не отказывал им».

Мсціслаў узмацніў свае ўладанні. Ён перамог хазараў, якія жылі ў тыя часіны ў паўночнакаўказскіх стэпах. А ў 1016 годзе ў саюзе з візантыйцамі ён канчаткова разграміў Хазарскі каганат (царства) і ўзяў у палон іх кагана. Праз чатыры гады пачаліся канфлікты з касогамі (продкамі сучасных чэркесаў ды адыгейцаў). Цьмутараканцы выступілі ў паход. Князь касогаў Рэдзедзя даведаўся аб гэтым і павёў сваё войска насустрач. Спатканне адбылося ў горнай даліне ў заходніх адгор'ях Каўказскіх гор. Вось-вось варожыя войскі сыдуцца ў смяротнай бітве. Але тут Рэдзедзя прапанаваў: «Навошта нам губіць у бітве свае дружыны? Лепш сыдземся з табой ды памераемся сіламі самі. Калі адолееш ты, то возьмеш усе мае багацці — і жонку маю, і дзяцей маіх, і маю зямлю. Калі ж адолею я, то вазьму ўсё тваё». «Хай будзе так», — згадзіўся Мсціслаў. Князь касогаў выставіў яшчэ адну ўмову: «Але не зброяй будзем змагацца, а барацьбой».

Доўга змагаліся волаты. Але ў рэшце рэшт Рэдзедзя (які важыў значна больш) пачаў пераадольваць. І тады Мсціслаў звярнуўся да Багародзіцы. Ён паабяцаў, што калі адолее ворага, то пабудуе царкву ў яе гонар. І адразу пасля гэтага з апошніх сіл кінуў саперніка на зямлю. Потым выхапіў з-за халявы бота нож і зарэзаў яго.

Мсціслаў, згодна з дамоўленасцю, пайшоў у Касожскую зямлю. Ён далучыў яе да свайго княства, забраў усе багацці Рэдзедзі. Касогі былі вымушаны плаціць даніну. Дома ж, у Цьмутаракані, ён пабудаваў царкву.

У той час, калі Мсціслаў умацоўваў сваё княства, адбіваў напады суседзяў, хадзіў вайной на іх, на Русі ішла крывавая міжусобіца. Пасля смерці Уладзіміра яго сыны пачалі барацьбу за вялікакняжацкі прастол. Яны забівалі адзін аднаго, захоплівалі чужыя ўдзелы. На дапамогу ў гэтай барацьбе ўладзіміраўцы запрашалі іншаземцаў — хто варагаў, хто палякаў, хто печанегаў. У рэшце рэшт перамог Яраслаў. Ён стаў уладаром амаль усёй Русі. Незалежнасць захавалі толькі Полацкае і Цьмутараканскае княствы.

Мсціслаў патрабаваў ад Яраслава, каб той аддаў яму частку сваіх уладанняў. Ён лічыў, што мае права на частку зямель загінуўшых братоў. Яраслаў адмовіўся падзяліцца. І тады цьмутараканскі князь вырашыў дзейнічаць сілай. Ён узмацніў сваё войска палкамі касогаў і ў 1028 годзе выступіў у паход. Яго войска прайшло прычарнаморскімі стэпамі, а потым уздоўж Дняпра да Кіева. Але кіяўляне не ўпусцілі яго ў горад. Тады Мсціслаў адвёў сваё войска ў Чарнігаў і стаў чакаць Яраслава. Яраслаў жа ў гэты час знаходзіўся ў Ноўгарадзе. Ён вымушаны быў сабраць вялікае войска з наўгародцаў. Больш таго, наняў за морам дружыну варагаў. Кіраваў наёмнікамі Якун. Летапісец адзначаў, што гэты самы Якун быў апрануты ў «залаты» (залататканы) плашч. Заўважу, што менавіта на варагаў больш за ўсё спадзяваўся Яраслаў.

З гэтым войскам Яраслаў выступіў супраць Мсціслава. Той жа, даведаўшыся аб гэтым, павёў сваё войска насустрач. Сышліся ворагі позні́м вечарам ля мястэчка Ліствін (за некалькі дзесяткаў вёрст ад Чарнігава). Яраслаў размеркаваў свае войскі так, каб у цэнтры стаяла найбольш

баяздольная яго частка — варагі. Мсціслаў жа зрабіў інакш: у цэнтр ён паставіў севяран, якіх набраў у Чарнігаве. А свае войскі размясціў на флангах. Яго разлік быў просты да геніяльнасці: «Няхай варагі завязнуць у барацьбе з чарнігаўцамі. Мая ж дружына разаб'е тым часам наўгародцаў і ўдарыць па іх з бакоў». Але бітве перашкодзіла цемра.

Ноччу ж пайшоў буйны дождж, заблісkалі маланкі, загрымеў гром. Мсціслаў звярнуўся да сваіх ваяроў: «Пойдзем на іх. Яны наша здабыча». Ён разлічваў напасці на спячае войска Яраслава. Але той, пэўна, меў такія ж планы, бо яго войска таксама было пастроена да бою. Цяцівы лукаў намоклі, таму раці адразу пачалі рукапашную. У непрагляднай цемры пад праліўным дажджом загарэлася крывавая сеча. Звінелі аб варожыя шаломы мячы, трашчалі дрэўкі коп'яў, глуха стукаліся шчыты. З глотак ваяроў вырываліся хаканне ды ўскрыкі. Маланкі не столькі асвятлялі поле бою, колькі сляпілі. Увесь гэты шум заглушаў гром.

Рука летапісца вывела на старонках яго твора: «...І схапіліся севяране з варагамі, і працавалі варагі, секучы севяран, а затым пайшоў Мсціслаў з дружынай сваёю і пачаў сячы варагаў». Тыя не вытрымалі нечаканага ўдару з флангаў. Варагі былі разбіты і кінуліся ўцякаць. Якун нават кінуў свой «залаты» плашч, які, пэўна, моцна перашкаджаў яму. Бачачы гэтую карціну, пабег і Яраслаў. Прычым накіраваўся ён не ў Кіеў, а разам з ваярамі, што засталіся ў жывых, у Ноўгарад. Наёмнікі-варагі адтуль адразу адплылі на радзіму, а Яраслаў вагаўся — застацца тут ці накіравацца ўслед за варагамі.

Але Мсціслаў не збіраўся садзіцца на велікакняжацкі прастол. Ён прызнаваў, што Яраслаў мае больш правоў на яго. Пераможац прыслаў у Ноўгарад прапанову аб міры. У ёй гаварылася: «Садзіся ў сваім Кіеве ты, старэйшы брат, а мне хай будзе гэты бок Дняпра». Яраслаў не вельмі давяраў брату і паслаў у Кіеў сваіх пасаднікаў. Толькі праз год з'ехаліся яны і заключылі мір. Па гэтай дамове Яраславу належала заходняя частка дзяржавы з Кіевам, а Мсціславу ўсходняя — са сталіцай у Чарнігаве. У гэтым горадзе ён таксама пабудаваў царкву. Далей браты жылі паміж сабой

душа ў душу. Больш таго, у 1031 годзе яны разам выступілі супраць палякаў. Іх мэтай было вярнуць галіцкія землі, якія захапіў у свой час Баляслаў Храбры. Браты ажыццявілі свой намер. Да таго ж яны прывезлі з Польшчы шмат палонных і рассялілі іх у сваіх удзелах.

У 1035 годзе Мсціслава напаткала гора — памёр яго адзіны сын. А восенню наступнага года Мсціслаў паехаў на ловы. Там моцна застудзіўся і памёр. Так закончылася жыццё гэтага героя, якога па заслугах называлі «Князь-волат».

Тым, што ён быў у іх гісторыі, ганарацца і рускія, і ўкраінцы. І тыя і другія лічаць яго сваім героем. Толькі мы, беларусы, чамусьці забыліся пра тое, што малодшым сынам Рагнеды быў менавіта ён — князь цьмутараканскі Мсціслаў Храбры.






# ШЧЫТ ЗЯМЛІ ГАРАДЗЕНСКАЙ

## 1282–1326

Ён быў шчытом Панямоння ў адзін з самых цяжкіх перыядаў гісторыі нашага народа. У час, калі ён здабыў арэол непераможнага палкаводца, фактычна вырашалася пытанне: быць беларусам ці не быць, бо толькі з 1287 па 1306 гады рыцары-крыжаносцы зрабілі 130 паходаў на беларускія землі.

Кажуць, што эпоху вызначаюць дзеянні людзей тых часін. Некалькі дзесяцігоддзяў, на працягу якіх у Гародні кіраваў князь Давыд, смела можна назваць часам Давыда Гарадзенскага. Пры знаёмстве з яго жыццём з'яўляецца ўражанне, быццам гэта якісьці былінны або казачны персанаж, але яно памылковае, бо гэты мужны воін і таленавіты палкаводзец, які ні разу не пацярпеў паражэння, існаваў на самай справе.

Лёс гэтага чалавека яркі і нечаканы, падобны следу падаючай зоркі на начным небасхіле. І перадгісторыя яго не менш цікавая для нас, бо цесна звязана з імёнамі трох палкаводцаў і палітычных дзеячаў — Аляксандра Неўскага, Міндоўга, Даўмонта...

Так ужо здарылася, што Давыд з'явіўся на свет у

Пскове. Нальшанскі князь Даўмонт, яго бацька, быў адным з самых уплывовых людзей у Літве. Але ў 1263 годзе яго смяротна абразіў наваградскі князь Міндоўг. Іх жонкі былі сёстрамі. Калі Марта, жонка Міндоўга, памерла, той выклікаў яе сястру аплакваць нябожчыцу. З замка Міндоўга няшчаснай так і не давялося вярнуцца да мужа. Міндоўг абвясціў усім, што, згодна апошняму жаданню нябожчыцы, яе месца павінна заняць малодшая сястра.

Дарэмна ўзрушаны подласцю знатнага сваяка Даўмонт патрабаваў вярнуць яму жонку — Міндоўг лічыў сваё рашэнне законным.

Даўмонт затаіў смяротную крыўду і стаў чакаць магчымасці адпомсціць за свой зняважаны гонар. Ён выкарыстаў імкненне пляменніка Міндоўга князя Тройната захапіць прастол і ўступіў з ім у змову. Помста адбылася ў 1263 годзе, калі Міндоўг накіраваў усё сваё войска за Днепр супраць бранскага князя Рамана. Даўмонт таксама пайшоў у паход, але, выбраўшы зручны час, вярнуўся назад, кажучы: «Варажба паказвае, што мне не трэба ісці разам з вамі». Пасля гэтага ён са сваім атрадам шпарка паскакаў наўздагон Міндоўгу. Нагнаў ён свайго ворага ў той час, калі Міндоўг адпачываў, раскінуўшы шатры. Атрад Даўмонта з ходу атакаваў. У час бойкі Даўмонт уласнаручна забіў Міндоўга і двух яго сыноў.

Застацца пасля гэтага на раздзіраемай міжусобіцамі і барацьбой за ўладу радзіме ён не мог, таму ў 1266 годзе разам з усім сваім дваром і трыма сотнямі баяр «ад'ехаў» у Пскоў. Тут ён прыняў праваслаўе, атрымаў імя Цімафей і пасаду служылага князя. Пскавічы спачатку аднесліся да яго даволі насцярожана і толькі з цягам часу прызналі сваім. Гэтаму спрыялі поспехі, якіх дабілася пскоўскае войска пад кіраўніцтвам новага князя ў барацьбе з іх галоўным ворагам — крыжаносцамі. У бітвах з «бязбожнымі немцамі» цалкам раскрыліся палкаводчыя здольнасці Даўмонта. Яго становішча стала яшчэ больш моцным пасля шлюбу з дачкой наўгародскага князя Марыяй (дарэчы, яна была ўнучкай Аляксандра Неўскага).

Хлопчык Давыд, які з'явіўся ў хуткім часе ў іх сям'і, з маленства выхоўваўся як воін. Яго вучылі стральбе з лука, верхавой яздзе. Ён выдатна валодаў мячом, кап'ём, шэстапёрам. Жыццё «ля стрэмя бацькі» прывучыла яго да шматдзённых паходаў, да начоўкі ў любы час года, у лю-

бое надвор'е пад адкрытым небам. Цімафей-Даўмонт з нейкім трывожным прадчуваннем спяшаўся перадаць сыну ўсе свае веды, усё майстэрства. Ён быццам адчуваў, што Давыд хутка застанецца адзін.

У 1299 годзе па паўночнарускіх землях пранеслася эпідэмія чумы. Мор літаральна выкасіў насельніцтва гэтай тэрыторыі. Сярод тысяч памёршых былі і бацькі Давыда. Даўмонт, паміраючы, наказаў сыну ехаць на радзіму, і той выканаў запавет бацькі.

Давыд апынуўся ў Літве. Князь Гедымін, цудоўна разбіраючыся ў людзях, дальнабачны і мудры палітык, хутка звярнуў увагу на розум і незвычайныя ваенныя здольнасці юнака і даручыў яму пасаду каштэляна (каменданта) Гародні. Больш таго, крыху пазней ён выдае замуж за Давыда сваю дачку Бірутэ.

Той-сёй з даследчыкаў лічыць, што гэты шлюб быў заснаваны на ўзаемным разліку: быццам бы Давыд імкнуўся такім чынам заручыцца падтрымкай Гедыміна, а той, у сваю чаргу, пазбаўляўся ад небяспекі, што Давыд пачне барацьбу за Нальшанскія землі, якія належалі яго бацьку, ды да таго ж яшчэ хацеў наблізіць да сябе чалавека, за плячыма якога стаяў Пскоў. На наш погляд, усе гэтыя разважанні памылковыя. Па-першае, Давыд меў падтрымку Гедыміна яшчэ да шлюбу з Бірутэ. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, прызначэнне яго каштэлянам Гародні. Па-другое, у тыя (як, дарэчы, і ў шматлікія іншыя) часы і на Русі, і ў Заходняй Еўропе, і на Усходзе пры барацьбе за ўладу нават з кроўным сваяцтвам лічыліся вельмі мала. Аналы, хронікі і летапісы напоўнены паведамленнямі аб тым, як брат забіваў брата, сын бацьку, пляменнік дзядзьку.

Хутчэй за ўсё галоўнай прычынай гэтага шлюбу было каханне. Мабыць, Гедымін убачыў пачуцці двух маладых людзей і вырашыў не перашкаджаць закаханым. Так гэта было ці не, але і ў далейшым Гедымін аказваў Давыду перавагу нават перад сваімі братамі і сынамі.

Мудры палітык Гедымін не памыліўся ў выбары каштэляна. Гародня і гарадзенскія землі атрымалі надзейнага абаронцу. Крыжаносцы ўпершыню адчулі гэта ў 1305 годзе. Зімой таго года шматтысячнае рыцарскае войска пад кіраўніцтвам славутага комтура Конрада Ліхтэнхагена напала на Гародню, але неаднаразовыя іх спробы захапіць яе не ўвянчаліся поспехам. Праз два дні на дапамогу абложаным па-

дышлі войскі Гедыміна (якога апавясціў Давыд), і крыжакі былі разбіты. На наступны год спробу захапіць Гародню распавёў другі комтур — Эберхард фон Вірненбург з Кёнігсберга. Ён прывёў з сабою пад сцены Гародні сотню рыцараў і шэсць тысяч лёгкаўзброеных вершнікаў. Яны захапілі пасад — неўмацаваную рамесную частку горада. Узяць жа замак (гэта, фактычна, сам горад) так і не змаглі. Гарадзенцы, запёршыся за яго сценамі, мужна адбілі ўсе штурмы.

Не дабіліся поспехаў крыжакі і ў 1311 годзе. Можа скласціся ўражанне, што Давыд толькі адседжваўся за сценамі, адбіваючы раз-пораз напады рыцараў, але гэта не так. Былі ў Гарадзенскага каштэляна і паходы. Ён нават дапамагаў жыхарам іншых гарадоў. Напрыклад, менавіта да яго паслалі з просьбай аб дапамозе жыхары Наваградка, калі восенню 1314 года іх горад спрабавалі захапіць крыжакі пад кіраўніцтвам Генрыха фон Плоцке.

Невялічкі атрад Давыда, які складаўся з дружыннікаў і купкі гарадзенскіх апалчэнцаў, падышоў да горада ў той час, калі рыцары, зняўшы цяжкія даспехі і спешыўшыся, у чарговы раз караскаліся па схілах узвышша да муроў Наваградскага замка. Абаронцы замка засыпалі ворагаў коп'ямі, стрэламі з лукаў і арбалетаў, закідвалі камянямі, спускалі па схілах «каткі» — таўшчэзныя, усаджаныя цвікамі, бярвёны. Уся ўвага крыжаносцаў была сканцэнтравана на замку, таму яны не адразу заўважылі і зразумелі, што адбываецца ў іх лагеры.

А Давыд не стаў увязвацца ў адкрыты бой, а перабіў ахову і захапіў лагер. У яго рукі трапіла велізарная здабыча — 1500 баявых коней, правіянт, абоз, даспехі. Гарадзенцы знішчылі ўсё, што не змаглі захапіць з сабою, і... зніклі. Што ж заставалася рабіць крыжаносцам? Кінуўшы параненых і аслабленых паплечнікаў, яны накіраваліся дадому. Але ў дарозе іх чакалі новыя выпрабаванні. Атрад Давыда знішчыў усе склады з правіянтам, пакінутыя рыцарамі на стаянках (каб харчавацца пры звяртанні). Спробы ж рыцараў здабыць ежу і фураж для коней, якія засталіся, скончваліся няўдачамі. Марадзёраў знішчалі лятучыя атрады гарадзенцаў, што назіралі за адступленнем ворагаў. Давялося крыжаносцам з'есці апошніх коней, а потым перайсці на лісце ды карэньчыкі. Доўгі шасцітыднёвы шлях дамоў адолелі толькі нешматлікія рэшткі былога магутнага войска.

Ведаючы, што лепшая абарона — нападзенне, Давыд нярэдка сам наносіў крыжаносцам моцныя ўдары. Так, вясной 1319 года, выкарыстаўшы разліў рэчак, ён з 800 вершнікамі пераадолеў адлегласць па бязлюдных мясцінах і ўварваўся ў адну з багацейшых абласцей Прусіі Вагендорф, прайшоўшы па ёй «з агнём і мячом». Яго войска з багацейшымі трафеямі і вялікай колькасцю палонных вярнулася ў Гародню.

Давыд разумеў, што барацьба з крыжаносцамі патрабуе аб'яднання сіл. Таму ён аказваў дапамогу любому суседу, каму пагражалі псы-рыцары. Калі ў 1322 годзе крыжаносцы напалі на Пскоў, яго жыхары «послаша гонцы до князя Давыдка». З яго дапамогай напад рыцараў быў адбіты.

Але на наступны год дацкія рыцары (не зважаючы на мірны дагавор) зноў пайшлі на пскавічоў, захапілі Гдоў, дзе забілі рускіх купцоў і ўзялі ў палон пскоўскіх рыбакоў, якія лавілі рыбу ў Нарве. Пскавічы і на гэты раз былі вымушаны звярнуцца па дапамогу да Давыда. Яго войска разам з пскоўскім адбіла націск датчан, выгнаўшы іх з захопленай зямлі, а затым зрабіла набег на паўночную Эстонію, дайшоўшы амаль да Рэвеля. Апісваючы іх дзеянні, нямецкі храніст занёс на старонкі сваёй кнігі: «Рускія з Пскова з дапамогай літоўцаў (ён меў на ўвазе войска Давыда. — *М.Б.*) спустошылі зямлю караля Даніі і забілі каля 5 тысяч чалавек».

У маі таго ж года нямецкія рыцары аблажылі Пскоў, але праз тры дні знялі аблогу і адышлі. Праз два месяцы іх войска зноў апынулася пад сценамі гэтага горада. Прычым, як пісаў летапісец, яны «со всем умыслом», «в силе тяжце», «приехаша в кораблях и в лодках и на конях, с пороки и городы (аблажныя вежы. — *М.Б.*)». Пскавічы зноў паслалі ганцоў у Гародню.

Імкнучыся што б там ні было захапіць Пскоў, рыцары пакінулі за сваёй спінай Ізборск. «Сядзеўшы» ў ім служылы пскоўскі князь Астафій, сабраўшы ізборцаў, напаў на немцаў з тылу і «ово (адных. — *М.Б.*) избиша, а инши в реце истопиша». У гэты час «приспе князь Давыд из Литвы с людьми своими». Гэта вырашыла вынік аблогі. Рыцары былі разгромлены і «ўбежаша со стыдом и срамом».

Каб зразумець, з якой хуткасцю Давыд сабраў і прывёў праз лясы і балоты войска, удакладняю: аблога Пскова працягвалася 18 дзён.

Крыжаносцы не без падставы бачылі ў Давыдзе Гарадзенскім свайго найбольш небяспечнага ворага і, не маючы моцы знішчыць яго, вырашылі адпомсціць інакш. У сакавіку 1324 года тры нямецкія рыцары, маючы пры сабе больш за шэсцьсот воінаў, таемна прабраліся да маёнтка Давыда і спалілі яго. Яны забілі звыш трох дзесяткаў жыхароў, захапілі коней і жывёлу. Сярод загінуўшых была і жонка гарадзенскага каштэляна. У адплату за гэта Давыд абрушыўся, як смерч, на Мазовію, дзе напалову разбіў рыцарскія войскі, а ў 1326 годзе ён з небывалай да таго колькасцю войска (1200 вершнікаў і атрад саюзнага польскага войска) распачынае паход на Брандэнбург.

Летапісец расказвае, што яны рабілі ў нямецкай зямлі тое ж, што крыжакі ў нас. Шлях саюзнага войска вызначаўся дымам палаючых рыцарскіх замкаў. Давыд са сваімі воямі дайшоў да Франкфурта-на-Одэры, пранікнуўшы, нібы востры кінжал, у самы цэнтр Германіі. Здавалася, яшчэ некалькі дзён, яшчэ адзін удар, і Брандэнбург — сталіца драпежнага Тэўтонскага ордэна — будзе ўзяты. Саюзнікі захапілі б яго, але... Давыд быў забіты ў сваім шатры. Яго забойца — польскі рыцар Анджэй Гост, які ўдарыў кінжалам у спіну князя. Дакладна невядома, што схіліла яго да гэтага. Хутчэй за ўсё ён быў падкуплены крыжаносцамі.

Князь Давыд загінуў у самым росквіце сваёй дзейнасці. Магчыма, каб не было гэтага здрадніцкага ўдару, ён скончыў бы з ненавісным ордэнам... Хто ведае?

Але як бы там ні было, а на працягу чвэрці стагоддзя ён умела абараняў беларускую зямлю. Людзі былі ўпэўнены ў заўтрашнім дні. Яны смела сеялі хлеб, не баючыся, што ўраджай дастанецца ворагу; нараджалі дзяцей, не баючыся, што тыя, не паспеўшы вырасці, памруць ад варожага мяча.

Князь Давыд загінуў непераможным. За сваё жыццё ён не прайграў ніводнай бітвы. Яго лёс у гэтым падобны на лёс яго прадзеда — Аляксандра Неўскага. Той таксама ўсё жыццё змагаўся з крыжаносцамі, не прайграўшы ніводнай бітвы, і быў па-здрадніцку забіты (атручаны).



# КНЯЗЬ-РАТАБОРАЦ

## КАЛЯ 1460–1530



Ці то з прычыны геаграфічнага становішча Беларусі, ці з-за наканавання лёсу насельніцтва нашай зямлі вымушана было год за годам, стагоддзе за стагоддзем адбіваць няспынныя напады ворагаў. Гісторыя беларускага народа ведае і велізарныя перамогі і не менш буйныя паражэнні. Да нядаўняга часу нас вучылі, што нібыта галоўную ролю ў гісторыі адыгрываюць народныя масы, а не асобы. Але ці так гэта? Сапраўды, вывучка, узбраенне і колькасць войска іграюць вялікую ролю, аднак не меншае, а, на наш погляд, нават большае значэнне мае той, хто ўзначальвае гэта войска, яго майстэрства, веды і талент.

Адным з палкаводцаў, якім мог бы ганарыцца любы народ без сумнення, быў гетман Вялікага княства Літоўскага князь Канстанцін Астрожскі.

Паходзіў Канстанцін са знатнага роду. Яго продкі былі пінскімі і тураўскімі ўдзельнымі князямі. Прозвішча яны атрымалі па назве мясцовага горада Астрога, якім валодаў прапрапрадзед Канстанціна. Дарэчы, і сам гетман меў шмат зямель у тых мясцінах. Але не толькі на Валыні, а і на Беларусі. Адны маёнткі ён атрымаў у якасці пасагу за жонкай, слуцкай князёўнай Аляксандрай, другія — як узнагароду за ратную службу.

Нарадзіўся Канстанцін прыблізна каля 1460 года (дакладная дата яго нараджэння невядома). Гетманам стаў у 1497 годзе. Атрымаў жа ён гетманскую пасаду па рэкамендацыі свайго папярэдніка. Польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі так апісаў гэтую падзею: «...Гетман літоўскі, Пётр Белы, старац, паважаемы дваром і любімы народам, лежачы на смяротным ложы, сказаў журботнаму Аляксандру (тагачаснаму вялікаму князю літоўскаму): «Князь Астрожскі, Канстанцін, можа замяніць мяне айчыне, будучы ўпрыгожаны вартасцямі рэдкімі». Аналізуючы гэту сітуацыю, можна сцвярджаць, што Канстанцін ужо тады быў добра вядомы, бо пасада, на якую яго прызначылі, з'яўлялася адной з важнейшых у княстве. Пацвердзіў праз некалькі стагоддзяў вышэйпрыведзеную характарыстыку рускі гісторык Карамзін: «...Сей муж имел весьма скромную наружность, малый рост, но великую душу...» Ідэалагічны вораг Астрожскага папскі легат Пізон (якога нельга западозрыць у перабольшванні) у адным з пісьмаў да папы рымскага прыгадваў Канстанціна: «Дома — добразычлівы Нума, у сражэннях — Рамул».

У 1499 годзе войскі Маскоўскага княства парушылі перамір'е і ў чарговы раз абрынуліся на землі Вялікага княства Літоўскага. Аўтар «Хронікі літоўскай і жамойцкай» запісаў: «...Великий князь Московский большого разширения панства (дзяржавы. — *М.Б.*) своего прагнучи, не стерегучи перемиря, нашол причину таковую на Литву, иж Александер, великий князь литовский, дочцѣ его, Еленѣ, которая была с ним, не збудовал церкви, русской на Виленском замку... Царь московский о церковь с Литвою разорвал примире... змовился с Мецликером, царем перекопским, и з швагером своим Стэфаном, воеводою волоским, и поднес войну против литовским паном». Былі ў Івана III і іншыя зачэпкі — нежаданне Аляксандра называць яго царом (Іван пачаў лічыць сябе ім пасля жаніцьбы на дачцэ візантыйскага імператара Зоі (Соф'і) Палеолаг) і непрызнанне дыпламатамі Аляксандра тытула маскоўскага князя «Государь всея Руси».

Войскі Маскоўскага княства захапілі Сяргейск, Мшчэнск, Бранск, Пуціўль, і толькі пасля гэтага Іван III афіцыйна аб'явіў вайну. Паведамленне пра гэта ўразіла Аляксандра і яго акружэнне. Пачаліся спрэчкі, соймы.

Войска збіралася аж да вясны, і толькі ў канцы яе Астрожскі хутка рушыў на Дарагабуж, дзе спыніліся ў гэты час галоўныя сілы рускіх пад кіраўніцтвам баярына Даніїла Шэні.

Рашучая бітва адбылася 7 ліпеня на Міцькіным полі ля невялічкай, але бурнай і глыбокай рэчкі Ведраша. Нягледзячы на тое што сілы былі няроўныя (Астрожскі прыйшоў з трыццаціпяцітысячным войскам, а маскоўскае налічвала толькі конніцы 40 тысяч ды яшчэ пяхоту), аўтар «Хронікі літоўскай...» пісаў: «...Константин... хотячи с Москвою звести битву, тягнул з войскам своим двѣ милѣ тѣсным лѣсом и дорогою болотною, а гды вышли на поле ровное, хорошее, ушиковшися (стаміўшыся. — *М.Б.*), поткалися з Москвою, где много люду з абодвух сторон пало. А Москва, уступивши назад и переправшися чрез рѣку Ведрошу к своему великому войску, мало вси зараз тылу не подали, бо надѣялися боли люду литовского з лѣсу до Литвы прибыты. А гды Литва до реки Ведроши прискочила, обачивши Москва, же войско литовское малое, за раз скочила до Литвы, а оскочивши около, поразили их наполовину».

І тыя і другія змагаліся адчайна, перамога хілілася на бок то адных, то другіх. Канчатковы вынік бітвы вырашыў засадны полк маскавіцян. Войска Вялікага княства Літоўскага было разбіта. Каля 8 тысяч ваяроў загінулі на полі бітвы, яшчэ больш патанула пры ўцёках (бо ворагі знішчылі масты, па якіх можна было адступіць), больш як 5 тысяч чалавек трапілі ў палон і сярод іх было мноства князёў, знатных паноў, а таксама паранены Канстанцін Астрожскі. Гарматы і ўвесь абоз перайшлі ў рукі пераможцаў. Скутага па руках і нагах Астрожскага прывезлі да Івана III. Пэўна, і ў Маскоўскай зямлі ведалі князя Астрожскага, бо Іван III загадаў: «...Его в нужде не нужно держати и поити и кормити довольно: иным князям и панам кормити по полуденге на день, а Острозскому по четыре алтына на день». Ужо гэта сведчыць аб павазе да князя. Больш таго, Іван III прапанаваў Канстанціну перайсці да яго на службу. Не атрымаўшы згоды, «...неволею тяжцею до присяги в вѣрности примусил». Пагроза пажыццёвага зняволення падзейнічала. Разумеючы, што з турмы не вырвешся, Канстанцін згадзіўся на службу маскоўскаму князю і быў накіраваны ваяводай у Волагду. На новай

службе ён «...великие битвы над татарами одерживал и выигрывал». Праз сем гадоў у яго з'явілася магчымасць збегчы з ганаровага палону. А можа ён палічыў, што цалкам адпрацаваў — адзмагаўся, і збег. Летапісец за ўвесь той год пазначыў на старонках свайго твора толькі адну падзею, якую палічыў вартай увагі: «Року 1507. Князь Константин Острозский, гетман В. кЛ з вязеня московского выйшол, а был в вязеню сроком през лѣт сѣм от оной пораженки на Ведроши за Александра короля взятый». Праўда, Аляксандра ён ужо не застаў. Той памёр у 1506 годзе, і на яго месца — на Віленскі і Кракаўскі троны (бо Аляксандр у 1501 годзе быў абраны каралём польскім) — заступіў яго малодшы брат Жыгімонт I.

Становішча краіны, уладу над якой узваліў на плечы 43-гадовы кароль і вялікі князь, было вельмі складаным. Шляхта патрабавала ад князя абароны іх правоў, даходы казны з кожным годам падалі. Дваццаць шэсць магнацкіх родаў, якія валодалі трэцяй часткай зямлі дзяржавы, не без падстаў лічылі сябе не менш магутнымі, чым Жыгімонт. Да ўсяго гэтага дабаўляліся пастаянныя крывавыя бойкі паміж шляхецкімі групоўкамі. А галоўнае — краіну спустошвалі войны з маскоўскім княствам і амаль няспынныя напады татар. Дайшло да таго, што, каб утаймаваць агрэсіўнасць крымскіх ханаў, ад іх пачалі адкупляцца. Для збору сродкаў на гэтыя штогадовыя «памінкі» ўвялі спецыяльны падатак, які так і называўся «ардыншчына».

Зварот на радзіму Канстанціна Астрожскага выклікаў вялікую радасць Жыгімонта. Той не без падстаў спадзяваўся на вайсковы вопыт і здольнасці князя. Астрожскага зноў прызначаюць гетманам Вялікага княства Літоўскага.

Татары амаль адразу адчулі на сабе яго «руку». Так, у змешчанай у «Гісторыі беларускай крэўскай кнігі» В. Ластоўскага хронікі гаворыцца: «Таго ж року... (1512. — *М.Б.*) Литва и Поляцы войско Татарское на Лопушне побили. Над Литвою был гетманом князь Константин Острозский, а над Поляками Миколай Каменецкий. Там, пишуть, Татаровъ збитых двацать чотыры тисечи от малого войска Польского и Литовского, бо, яко пишуть кроникаре, иж Польского и Литовского войска большей, не было толко шесть тысечей, гдѣ значна ласка Божя, была, кгды ж шеснадцать тысячей вязневъ отгромили и корысти вели-

кие, коней Татарских около 10 тысечей взяли...» Крыху іншую лічбу знішчаных татар — 25 тысяч — называе аўтар «Хронікі літоўскай і жамойцкай». Ён жа ўзгадвае аб тым, што «...сам цар (хан. — *М.Б.*) татарский Мендли Гирей ушол в малой дружинѣ». Паражэнне татар было настолькі вялікім, што «цар Перекопъскии с королем згоды потребовалъ и, для упэвненья покою, сына, своего Дзалалѣдына до Литвы в заклад дал».

Але спакойнага жыцця краіна так і не атрымала. Маскоўскі князь Васілій III (сын Івана III) пачаў новую вайну за гэтак званыя «искони руские земли» — тэрыторыі Беларусі і Украіны, якія ўваходзілі ў той час у склад Вялікага княства Літоўскага. У студзені 1513 года незлічоныя раці маскоўскага войска абложылі Смаленск і ў хуткім часе ўзялі яго. У гэты ж час войскі маскоўскага князя захапілі і спустошылі Капыльскую, Тураўскую і Мазырскую землі, рабавалі гарады Слуцк, Мсціслаўль, Крычаў і інш. Між тым Жыгімонт I і яго вяльможы не прадпрымалі ніякіх дзеянняў, што выклікала вялікае нездавальненне насельніцтва — усе патрабавалі, каб урад паслаў войскі для абароны айчыны. Гэта падзейнічала. Неўзабаве па Вялікім княстве Літоўскім збіраюцца войскі. Разумеючы, што іх недастаткова для сур'ёзнага адпору, запрашаюць наймітаў з Германіі і Маравіі. З Польшчы прыбывае атрад латнікаў пад кіраўніцтвам ваяводы Свярчкоўскага.

У пачатку лета Жыгімонт рушыў у паход. Але карысці ад гэтага было мала, бо рускія войскі імкнуліся пазбегнуць бітвы з ім, працягваючы спустошваць тэрыторыю беларуска-літоўскай дзяржавы. Такім чынам ваяводы князя Васілія III разлічвалі нанесці больш страт варожай ім дзяржаве і спадзяваліся прымусіць Жыгімонта прасіць аб заключэнні міру. Вялікі князь Маскоўскі мог разлічваць на гэта яшчэ і таму, што намаганнямі яго дыпламатаў склалася шырокая кааліцыя краін, якія марылі аб раздзеле паміж імі тэрыторый Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. У яе, акрамя Маскоўскага княства, увайшлі Свяшчэнная Рымская імперыя, Данія, Валахія, Саксонія, Брандэнбург.

Тры месяцы Жыгімонт блукаў па беларускіх лясах і балотах, ганяючыся за маскоўскім воінствам. А потым вырашыў сам зрабіць напад на гарады, якія належалі маскоўскаму князю. Захапіўшы Тарапец і Дарагабуж, ён

разлічваў накіраваць войскі на Маскву, але войскі Васілія III, застаўшыся за яго спінаю, пачалі яшчэ мацней пустошыць тэрыторыі Беларусі, і Жыгімонт вымушаны быў павярнуць назад. Спыніўся ён у Барысаве.

Васілій жа, «...учувши о малом войску при кралю Жигмонтѣ в Борисов, зараз послал до оного войска своего, которого бы выправил 80 000 на пустошение Литвы, абы просто до Борисова на Жигимонта, короля полского, тягнули, и остатняго, шчастя оточавши, волную битву скоштова, альбо отступивши войско полское и литовское з самим королем до Москвы, як быдло, пригнали». Як бачым, Васілій быў настолькі ўпэўнены ў перамозе, што нават разлічваў узяць у палон усё варожае войска. Ды яно і не дзіўна, бо Жыгімонт пакінуў пры сабе толькі 4 тысячы чалавек, а астатніх пад началам Астрожскага «...з Борисова послалъ противъ войска Московского». А было ў яго войску, па меркаванню П.Д. Бранцава, аўтара выдадзенай у канцы мінулага стагоддзя «Истории литовского государства с древнейших времен», 35 тысяч. Па даных кандыдата гістарычных навук Г. Сагановіча, выказаных ім у змешчаным у газеце «Чырвоная змена» артыкуле «Там, дзе вілася Крапіўна», усяго 25. Аўтар жа «Хронікі літоўскай і жамойцкай» паведаміў: «...не ровно было Москвы у пять крат большей нежли Литвы».

Поўную надзею на поспех давалі перагаворы, што завязаліся паміж маскоўскім ваяводаю Міхалам Глінскім (які перабег за 6 гадоў да гэтага з Беларусі ў Маскву) і Жыгімонтам. Глінскі адчуваў сябе пакрыўджаным Васіліем, бо Смаленск быў узяты ў немалой ступені дзякуючы менавіта яму, а абяцаная пасада кіраўніка гэтым горадам была аддадзена другому. Таму ён і пайшоў да Жыгімонта. Але адзін са слуг здрадзіў яму. Глінскага дагналі, закавалі ў кайданы і адправілі да Васілія III. Рускія ж войскі засталіся без камандуючага. Ваявода Чэлядзін і Булгакаў-Галіца больш займаліся вырашэннем пытання, хто з іх больш галоўны, чым падрыхтоўкай да будучай бітвы.

Першыя сутычкі перадавых атрадаў адбыліся на берагах рэчак Бярэзіны і Бабра. «И там всю московскую стражу побили и много живых поймали», — канстатаваў летапісец. Такі ж вынік мела і сутычка ля рэчкі Дровi.

Маскоўскія ваяводы сабралі ўсе свае сілы разам. Канстанцін Астрожскі «...нашол ...войско московское за Оршею городом, за Днепром, на рецэ Крапивне». Добра ўсведамляючы сваё становішча, Канстанцін пачынае з ворагамі перагаворы і тым жа часам наводзіць «мосты з плытов и з шугалѣев, през которые мосты дѣло и гаковницы (артылерыю. — *М.Б.*) в цѣлости перепроводили». Па іх жа перайшла і пяхота, а конніца «...просто през Днепр в брод под Оршею парадным шиком и веселым сердцем охотно переправились всѣ в целости, толко еден утонул». У войску ж маскоўскага князя «...в трубы и бубны свои ударили, прапорцы и хоругвы свои бучне распустивши скочили на Литву обсес». Пачалася жахлівая сеча. Гетман змагаўся ў першых радах і заклікаў сваіх вояў «...да бою, же сором утѣкати, бо маете ли гинуты по лѣсах и дорогах, то лѣпше на пляцу лечи з несмертельною славою!» Раптам конніца Астрожскага завагалася і пачала адыходзіць. Маскоўскае войска кінулася наўздагон. Здавалася, вось-вось і яны ўрубяцца, бы ядро з гарматы, у спіны бягучых ад іх «паноў». Але тыя раптам расступіліся, і на маскавіцян, што ўжо амаль святкавалі перамогу, глянулі жаролы гармат. Знішчальны залп ва ўпор літаральна знёс пярэднія рады наступаючых. Тыя, хто застаўся ў жывых, пачалі заварочваць коней і праз некалькі хвілін пабеглі назад. Прагрымелі яшчэ залпы, а затым наўздагон ім кінулася конніца Астрожскага. Некалькі вёрст гналі яны ворагаў. Астрожскі цалкам разлічыўся за паражэнне, нанесенае яму.

У маскоўскім войску загінулі дзесяткі тысяч ваяроў. Адны крыніцы называюць 30 тысяч, другія — 35 тысяч. Стрыйкоўскі ж, наогул, вызначае лічбу 40 тысяч. Прычым тут жа дадае, што гэта, акрамя тых, хто патануў у рэчцы Крапіўне. Аб гэтых патануўшых пры ўцёках прыгадваюць Бранцаў і Герберштэйн. І той, і другі пішуць, што рака спыніла сваё цячэнне ў выніку вялікай колькасці маскоўскіх людзей, якія кідаліся з крутога берага і танулі ў яе хвалях. У палон трапілі ваяводы Чэлядзін, Булгакаў-Галіца і яшчэ шэсць ваявод, ды дзяцей баярскіх больш як 500. Захоплены быў таксама ўвесь абоз і артылерыя ворага.

Перамога над маскоўскім войскам атрымала велізарнае міжнароднае значэнне. Уражаныя гэтай падзеяй, кіраўнікі дзяржаў-саюзнікаў Васілія зразумелі, што ба-

рацьба будзе вельмі цяжкай, і іх саюз пачаў распадацца. Нават крымскія татары і тыя два гады не адважваліся нападаць на землі Вялікага княства Літоўскага. У выніку далейшых ваенных дзеянняў былі адваяваны ўсе землі і гарады, захопленыя маскоўскім князем у пачатку вайны, за выключэннем Смаленска.

3 снежня 1513 года войска Канстанціна Астрожскага з трыумфам увайшло ў Вільню. Яно вяло з сабою палонных ваяявод, баяр, князёў. Жыгімонт «...войско распустил, границу жалнѣрами осадивши, а князя Константина с триумфом в Вильно вдячне приймовал и до Острога, ударовавши, отпустил».

У кнізе В. Ластоўскага прыводзіцца змест «Пахвалы князю Астрожскаму» з так званага «Кароткага кіеўскага летапісу». У ёй Астрожскага прыраўноўваюць да вялікага індыйскага цара Пора, які змагаўся з войскам Аляксандра Македонскага, і да персанажа з «Біблii» Авеля, сына Ровама, «які ваяваў з дзесяцьма каленамі Ізраіля і пабіў сільных людзей за адзін дзень пяцьсот тысяч». У «Пахвале...» гаворыцца: «Яго наследаваў Астрожскі, які пабіў ... не за цэлы дзень, а за тры гадзіны 80 тысяч». Пахвала канчаецца слаўленнем, якое па рытмічнай будове нагадвае «Слова аб палку Ігаравым»:

«Гетману его хороброму князю
Константину Ивановичу Острозскому
дай, Боже, здорове, и щасте вперед лепшее:
как нынѣе побѣедил силу великую московскую
абы так побивал силную рать татарскую,
проливаючы кровь ихъ басурманскую».

Гетман не адразу паехаў на радзіму. Ён спачатку адбудаваў зруйнаваныя праваслаўныя цэрквы св. Міколы і св. Тройцы. І гэта нягледзячы на пастанову, якая забараняла будаваць і аднаўляць праваслаўныя храмы на тэрыторыі княства. Тым, як і наогул прыхільнасцю да праваслаўя, ён выклікаў варожыя да сябе адносіны канцлера Альбрэхта Гаштольта — аднаго з найбольш уплывовых саноўнікаў княства, заўзятага каталіка.

Здаецца, можна было б спачываць на лаўрах, грэючыся ў праменях сваёй славы, на пасадах гетмана і віленскага кашталяна змагацца за праваслаўе і на свае сродкі буда-

ваць храмы ў Беларусі і Літве, можна матэрыяльна дапамагаць майстру лекарскіх навук Францыску Скарыне ў наладжванні друкарні, але доўг перад радзімай і суайчыннікамі патрабуе ад яго працягваць барацьбу з ворагамі. І галоўнай справай на гэты час становіцца схватка з тымі, пажаданнем разбіць якіх скончвалася «Пахвала...», — татарамі. Толькі на два гады пакінулі яны ў спакоі нашу шматпакутную зямлю, а затым зноў пачалі свае набегі. Зноў палілася кроў, запалалі вёскі і гарады, зноў тысячы захопленых імі жыхароў накіроўваліся ў Крым, дзе распрадаваліся, быццам быдла, гандлярам усяго Міжземнамор'я. І зноў войска пад кіраўніцтвам гетмана Астрожскага выходзіла ім насустрач і перамагала «басурманаў».

Той-сёй з даследчыкаў сцвярджае, што менавіта Астрожскі вінаваты ў страшэнным разгроме кароннага (польскага) войска, якое адбылося ў 1521 годзе ля горада Сокала. Так, сапраўды, ён удзельнічаў у гэтай бітве. Так, татары ў той раз перамаглі. Так, польскае войска было разбіта ўшчэнт. Але чаму? Паслухаем жа летапісца: «Татаре, вышовши Белскую, Лубянскую и Хелминскую землю звоевавши, поразили у Соколя поляков, бо не хотели слухати рады здоровой князя Константина Острозского, который был з литвою и русью (так у той час называлі беларусаў. — *М.Б.*) на помочь полякам пришол. А войско литовское не отнесло жадного ущербѣку, бо Константин на лѣвом скрыдлѣ стоячи з своими литвой и русью, з шанцев албо обозу выходячи, татар от себя отбивали и печь отогнали». Гэтыя словы сведчаць аб тым, што загубілі польскае войска самаўпэўненасць і фанабэрыстасць іх ваяводы. Той зрабіў па-свойму і быў разбіты, а войска Вялікага княства Літоўскага, выкарыстаўшы драбіны з абозу ў якасці прыкрыцця, пераўтварылі свае пазіцыі ў своеасаблівую палявую крэпасць, у якой не толькі самі выратаваліся, але, без сумнення, нанеслі немалы ўрон татарам.

На гэты раз цярпенне насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, асабліва тых, хто жыў на поўдні краіны, скончылася. Вырашана было ў рэшце рэшт расправіцца з ненавіснымі крымчакамі. «Татаре, гды великие шкоды починили в Польше, в Руси, в Литве частыми своими утирчками (набегамі. — *М.Б.*) зараз панове Литвы и Руси засобиралися против им охотнее з рыцарством своим, литовским,

руским, волынским, а найпервѣй Константин Острозский гетман литовский, Юрый Семенович, князь Слуцкий, Иван и Александр княж Вишневецкие, Андрей Немѣрович, воевода киевский, которые гоняли татар за Киев миль 40, аж на Олшаницу, которых было с царевичем Малаем 24 000 и которых за помочию божею Литва и Русь с Волынцами сщасливе наголову всех поразили, и полону звязаного христианского обоих станов з Руси, Подоля и Подгоря 80 000 отгромили, и добытки и здобычи отняли, а татар на пляцу положили всех 24 000, ...сам Малай царевич, утекаючи от двух литвинов, зостал поиманым». Пасля ўсяго, што нарабілі татары, гнеў на іх быў настолькі вялікі, што Астрожскі загадаў распрануць палоннага царэвіча і «стрэлами нашпиковати».

Але і пасля гэтай перамогі набегі крымскіх татар, хоць і не такія моцныя, працягваліся і спынены былі толькі пасля таго, як беларуска-літоўскае войска пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага разбіла іх 20-тысячнае войска.

На жаль, няшмат гадоў пасля гэтага пражыў гетман. Ён памёр у Вільні ў час эпідэміі, якая захінула чорным крылом нашу зямлю ў 1530 годзе. Павага да яго як да абаронца зямлі нашай і абаронца веры праваслаўнай была настолькі вялікай, што пахавалі князя Канстанціна Астрожскага ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

Усё жыццё яго было аддадзена вернаму служэнню радзіме, няспыннай барацьбе з яе ворагамі. Гэта аб ім сказаў М.М. Карамзін: «В самом деле никто не служил Литве и Польше усерднее Острожского, брата Россиян в Церкви, но страшного врага их в поле. Смелый, бодрый, славолюбивый сей Вождь одушевил слабые полки Литовские: знатнейшие паны и рядовые воины охотно шли с ним в битву». Гэтыя словы, на наш погляд, найлепшая характарыстыка і эпітафія князю-ратаборцу.





# АХВЯРА СТРАСЦЕЙ

## 1470–1536

Чалавек жыве і дзейнічае ў адпаведным гістарычным асяроддзі. Яно фарміруе яго светапогляд, кіруе ўчынкамі, накладвае адбітак на характар. Пры знаёмстве з дзейнасцю таго ці іншага дзеяча мінулага неабходна ўлічваць усе гэтыя фактары. Менавіта іх меў на ўвазе славуты рускі паэт К. Рылееў, калі казаў пра аднаго нашага земляка:

> «Хвалы бы он вечной был в мире
> достоин,
> Когда бы не буря страстей».

Аўтар гэтых радкоў без сумнення меў на ўвазе не толькі асабістыя страсці героя свайго твора, але і тыя, што бушавалі вакол яго. Страсці эпохі, страсці, якія бударажылі думкі людзей таго часу, страсці, якія прымушалі думаць і дзейнічаць менавіта так, як было прынята ў тыя даўнія часы.

Паэма, з якой узята вышэйпрыведзеная цытата, прысвечана бурнаму, поўнаму самых неверагодных падзей і здарэнняў жыццю чалавека, які навечна ўвайшоў у гісторыю як Беларусі, так і Расіі. Яна прысвечана Міхалу Глінскаму.

Паходжанне роду Глінскіх губляецца ў Залатой Ардзе. Менавіта адтуль выехаў у Прыдняпроўе пасля бітвы на

Куліковым полі сын хана Мамая Мансур-Карыят. Яго нашчадкі прынялі праваслаўе і атрымалі прозвішча Глінскія (ад аднаго з дараваных ім гарадкоў). У хуткім часе яны падпарадкаваліся Вітаўту. Прадстаўнікі гэтага роду займалі высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. Маёнткі, якія яны выслужылі, ставілі гэты род па багаццю і магутнасці ў адзін шэраг з нашчадкамі Уладзіміра і Гедыміна. Глінскія валодалі велізарнымі плошчамі зямлі на Палтаўшчыне, маёнткамі на Кіеўшчыне і Тураўшчыне. У апошнім з іх убачыў свет Міхал. Адбылося гэта ў 1470 годзе.

Ужо ў дзіцячым узросце княжыч праявіў незвычайныя здольнасці да навукі. Таму бацька вырашыў, што хатняй адукацыі яго нашчадку недастаткова і накіраваў сына за мяжу.

Міхал Глінскі вучыўся ў Італіі. Пад уплывам мясцовых святароў ён перайшоў у каталіцтва. Пасля заканчэння вучобы княжыч вырашыў паспрабаваць сябе ў ваеннай справе. Амаль дванаццаць гадоў ваяваў ён у Еўропе. Служыў у Іспаніі, у саксонскага курфюрста Альбрэхта, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліяна І. На баку апошняга ваяваў у Італіі. У час гэтай кампаніі ён паказаў сябе з найлепшага боку. Яго ваенныя таленты і асабістая адвага настолькі ўразілі імператара, які і да гэтага ставіўся да нашага земляка з вялікай сімпатыяй, што той надаў Міхалу тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі. Вялікай карысці гэта нашаму герою, які быў ужо князем па паходжанню, не прынесла. Аднак гонару і пыхлівасці дадала.

Хутка пасля гэтага адукаваны, валодаючы мноствам моў, пабачыўшы свет, набыўшы ваенную славу, Міхал Глінскі вярнуўся на радзіму. Знаходзячыся пры двары вялікага князя Аляксандра, у 1498 годзе атрымлівае ўсвяцкае намесніцтва. Праз два гады, на пачатку зімы 1500 года, прызначаецца дворным маршалкам замест Рыгора Астрыковіча, які трапіў у палон да ваяроў маскоўскага князя падчас бітвы на Вядрошы. У канцы наступнага года атрымлівае яшчэ і мерацкае намесніцтва. Пасада дворнага маршалка дазваляе хутка палепшыць свой дабрабыт шляхам атрымання новых зямель і маёнткаў. Наш зямляк выкарыстаў гэту магчымасць.

Потым пачаў «умацоўваць» свой тыл. Карыстаючыся ўплывам на Аляксандра, дабіваецца высокіх дзяржаўных пасад для сваіх братоў. Іван атрымаў ваяводства ў Кіеве, Васіль — у Бярэсці. Аднак новаспечаны вяльможа займаўся ў гэты час не толькі асабістымі справамі. Ён, акрамя ўсяго іншага, выкарыстаў вопыт, які набыў падчас вайсковай службы ў еўрапейскіх уладароў. Міхал спрабуе правесці рэарганізацыю арміі. Стварае першыя гусарскія эскадроны — цяжкую панцырную кавалерыю.

Вокамгненнае ўзвышэнне Глінскага і тое, што Аляксандр цалкам падпаў пад яго ўплыў, не спадабалася іншым магнатам. Не задаволены яны былі і палітычнымі поглядамі Міхала. Справа ў тым, што ён выступаў за неабмежаваную манархію. Таму настройваў Аляксандра супраць паноў рады, падбухторваў ліквідаваць гэты орган улады, бо паны рады абмяжоўвалі ўладу князя — без іх згоды ніводнае рашэнне не магло быць ажыццёўлена, ні адзін закон не прымаўся. Але галоўнае, што рухала магнатамі, — асабістыя амбіцыі. Іх крыўдзіла і тое, што князь усё больш і больш часу праводзіць са сваім новым сябрам. І тое, што ён толькі з Міхалам абмяркоўвае свае сардэчныя і сямейныя праблемы. Асабліва іх крыўдзіла тая ўвага, якую аказвалі «гэтаму выскачку» іншаземныя ўладары. Міхал састаяў у асабістай перапісцы з імператарам Максіміліянам. Крымскі хан Менглі-Гірэй называў яго ў граматах сваім братам. Не да паноў рады, а да князёў Міхала, Івана ды Васіля Глінскіх прыслаў у 1501 годзе пасольства з багатымі падарункамі хан Заволжскай Арды Шых Ахмат. Гэта іх, а не паноў рады, прасіў Шых Ахмат замовіць слоўца перад каралём польскім (Аляксандр якраз у гэтым годзе быў каранаваны на польскі прастол), зрабіць так, каб кароль падтрымаў яго, Шых Ахмата, ва ўнутрыардынскай барацьбе.

Паны рады пайшлі на змову. Узначаліў змоўшчыкаў ваявода трокскі і маршалак земскі Ян Забярэзінскі. Ю. Вольф у працы «Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага ад канца XIV стагоддзя» даў гэтаму пану кароткую, але красамоўную характарыстыку: «Амбіцыйны ды сквапны да ўлады...» Змоўшчыкі пачалі распаўсюджваць плёткі, паклёпы. Сцвярджалі, быццам Міхал таемна перапісваецца з Масквой, жадае адасобіць Кіеўшчыну і нават... авало-

даць велікакняжацкім прастолам. Увесь гэты бруд уводзіўся ў вушы Аляксандру. Аднак той не дае гэтаму веры. Тады вырашылі прымяніць радыкальныя меры — забіць Глінскага. Міхалу стала вядома аб намерах змоўшчыкаў. Ён звяртаецца да караля са скаргай. Абвінавачвае Забярэзінскага ў тым, што той наняў забойцаў. Паведамляе, што мае сведку. Аднак абвінавачаны клянецца-божыцца ў тым, што нічога такога не было. Аляксандру ж не да грызні паміж яго прыдворнымі. У яго няма ні сіл, ні жадання разбірацца ва ўсіх дэталях гэтага канфлікту. У яго моцна пахіснулася здароўе. Адбіліся на яго здароўі і вечныя спрэчкі з магнатамі Вялікага княства Літоўскага, і амаль няспынныя набегі татар, і кровапралітныя войны з цесцем — маскоўскім вялікім князем Іванам III. Ды і польская шляхта папсавала нямала крыві. Але больш за ўсё паўплывала на стан здароўя Аляксандра тая нянавісць, якую мелі і палякі, і жыхары Вялікага княства Літоўскага да яго жонкі — маскоўскай князёўны Алены. Аб узроўні гэтай нянавісці можа сведчыць хаця б той факт, што палякі каранавалі Аляксандра, а вось яго жонку каранаваць адмовіліся наадрэз.

Што б там ні было, але кароль марыў толькі аб спакоі. Ён загадаў Міхалу і Яну памірыцца і жыць у згодзе. Аднак Забярэзінскі не супакойваўся. Ды і Глінскі не збіраўся даваць крыўду. Яго гарачая ўсходняя кроў «кіпела» пры адным толькі ўспаміне аб тых, хто нагаворваў на яго і хто збіраўся падаслаць забойцаў. Ён працягвае патрабаваць прыняць меры супраць яго ворагаў. У рэшце рэшт кароль загадаў пазбавіць некаторых змоўшчыкаў — Ільінскага (зяця Забярэзінскага) і Варфаламея (брата віленскага біскупа) пасад. Гэтыя дзеянні раз'юшылі змоўшчыкаў. На Брэсцкім сойме 1506 года Міхала Глінскага зноў абвінавачваюць у дзяржаўнай здрадзе. Галоўным абвінаваўцам (дакладней кажучы, паклёпнікам) выступае ўсё той жа Забярэзінскі. Цярпенне караля лопаецца — ён разганяе сойм. Забярэзінскі пазбаўляецца пасад.

Гэтыя падзеі прывялі да ўсеагульных хваляванняў. Становішча ў дзяржаве ўскладняецца. У наступным годзе Аляксандр вымушаны быў склікаць сойм. Ён адбыўся ў Радоме. Дэлегаты засыпалі свайго ўладара папрокамі. Асабліва моцна крытыкаваў дзеянні караля віленскі біскуп

(пэўна, узыграла асабістая крыўда за брата). Ён скончыў сваё выступленне не словам «амэн», як гэта адпавядае яго пасадзе, а ледзь не праклёнам. Усклікнуў: «Ты кляўся перад святым крыжам не парушаць прывілеі шляхты, а зараз забыў гэтую клятву. Бог цябе пакарае як клятвапарушальніка». Аляксандр, які і без таго знаходзіўся апошні час на мяжы нервовага зрыву, не вытрымаў. Езуіт А. Каяловіч, які напісаў «Гісторыю Літвы ў 1677 годзе» і польскі гісторык М. Стрыйкоўскі ў адзін голас сцвярджаюць, што караля адразу пасля гэтых слоў разбіў параліч. Так гэта ці не — сказаць цяжка. Аднак дакладна вядома, што неўзабаве пасля Радомскага сойма кароль моцна захварэў.

Чуткі аб гэтым разнесліся з хуткасцю маланкі. Той-сёй з суседзяў вырашыў выкарыстаць момант. Першымі пачалі дзейнічаць крымскія татары. Хан Менглі-Гірэй паслаў на землі Вялікага княства Літоўскага сваіх сыноў Біці-Гірэя і Бурната з трыццацітысячным войскам. Крымчакі пранесліся па беларускай зямлі, нібы вогненны ўраган. Яны пакідалі за сваёй спінай толькі вогнішчы і целы забітых. Спустошылі Слонім, Ваўкавыск. Пераправіліся цераз Нёман і пачалі разбураць Міншчыну. Частка іх трымала ў аблозе Слуцк. Узнікла пагроза, што яны накіруюцца да Вільні.

Аляксандр аб'явіў аб зборы ў сталіцы княства паспалітага рушэння (шляхецкага войска, якое склікалася падчас ваеннай небяспекі для дзяржавы). Аднак на заклік адгукнуліся толькі 3 тысячы чалавек, ды і тыя заявілі, што не выступяць у паход без караля. З-за гэтага хворы Аляксандр быў вымушаны прыехаць з Польшчы. Дзякуючы яго намаганням колькасць войск была даведзена да 7 тысяч. З гэтымі сіламі «...король... велми хорыи рушился з Вилни до Лиды...». Аднак стан яго здароўя яшчэ больш пагоршыўся. Кароль напісаў тастамент, па якому велікакняжацкі і каралеўскі прастолы наследаваў ягоны брат Жыгімонт. Перадаў кіраўніцтва войскам гетману Станіславу Кішку і князю Міхалу Глінскаму. Сябе ж загадаў на насілках аднесці ў Вільню.

А тым часам татары аблажылі Наваградак. Запылалі вёскі, маёнткі, палілася кроў. Шляхта зразумела неабходнасць рашучых дзеянняў і пачала збірацца ў Лідзе. Хутка войска абаронцаў павялічылася да 10 тысяч чалавек. Усе

гэтыя ваяры былі конныя і добра ўзброеныя. Яны нанеслі татарам некалькі паражэнняў, ачысцілі наваколле Навагрудка. Тыя татары, якія засталіся жывымі, уцякалі да Клецка, ля якога размясціўся іх асноўны лагер — кош. Яны паведамілі царэвічам аб набліжэнні варожага войска.

Над ваярамі з Вялікага княства Літоўскага нібы раскінуў свае крылы злы рок. Яны толькі-толькі разлучыліся з хворым каралём. А тут і новага кіраўніка скруціла хвароба. Захварэў Кішка. Прычым так, што «...иж для хворобы свое и на коня ехати не мог». Гетман загадаў вазіць сябе на возе. Аднак і гэты спосаб прычыняў яму невыносны боль. Узначаліць войска прапанавалі князю Глінскаму. Усе разумелі, што толькі Міхал з яго вялікім ваенным вопытам, рашучасцю і энергіяй зможа адолець ворага. А калі прайграе, дык і з гэтага можна выгадаць. Лёгка будзе пакончыць з ненавісным любімцам Аляксандра.

5 жніўня 1506 года войскі Міхала падышлі да Клецка і спыніліся на беразе рэчкі Лані. З узгорка ўбачылі татар, якія чакалі іх на супрацьлеглым беразе. Пачалася бітва. Паколькі пераправа была вельмі нязручнай, то больш чым тры гадзіны біліся цераз рэчку. Гучалі стрэлы. Над вадой з шыпеннем праносіліся хмары стрэл. У гэты ж час ваяры Глінскага зрабілі дзве гаці. Першымі вырваліся на процілеглы бераг харугвы левай рукі. Татары абрынуліся на іх. Пачалася крывавая сеча. У гэты час Міхал Глінскі на чале харугваў правай рукі перайшоў па другой гаці і ўдарыў татарам у фланг. Націск ваяроў Глінскага быў настолькі моцным, а ўдар настолькі нечаканым, што татарскія палкі былі раздзелены на дзве часткі. Затым пачалося бязлітаснае знішчэнне і тых, хто апынуўся паміж двух крылаў войска Міхала, і тых, хто кінуўся наўцёкі. Татар наўздагон seклі, рэзалі, калолі, стралялі. Гналі іх дваццаць вёрст, аж да ракі Цепры. Воды яе і забалочаныя берагі, паводле летапісу Быхаўца, сталі магілай для большай часткі беглякоў. Аўтар гэтага летапісу сцвярджае, што войскі Вялікага княства Літоўскага пераязджалі верхам, пераходзілі пешшу па мёртвых целах татар і іх коней. Рэшткі крымчакоў, якім удалося пазбегнуць смерці на полі бітвы і ў водах рэчкі, накіраваліся дадому. Аднак іх перахоплівалі і білі па ўсяму зваротнаму шляху. Так што да Крыма дабралася вельмі мала.

Пераможцы ж «вярнуліся ... у Клецк, ведучы за сабою многа палонных, і напоўнілі рукі золатам і серабром, і зброяй, і адзеннем, і ўзялі коней многа (30 тысяч. — *М.Б.*)». З ардынскага палону было вызвалена 40 тысяч чалавек. Вестка аб перамозе разнеслася па ўсім краі. Даведаўся пра яе і Аляксандр. Аднак доўга радавацца перамозе над ворагам ён не змог. Бо 9 жніўня караля і вялікага князя не стала.

Гэта адразу змяніла становішча Глінскага. Яго нядобразычліўцы, якія спачатку прыціхлі, зноў пачалі мянціць языкамі. Зноў пайшлі плёткі. Казалі, быццам Міхал жадае захапіць велікакняжацкі прастол. Калі б у яго сапраўды быў такі намер, то ў тых абставінах ён мог лёгка ажыццявіць яго. Ён стаяў на чале вялікага войска. Аўтарытэт яго пасля бліскучай перамогі ўзрос незвычайна. Шэраг суседніх валадароў знаходзіліся ў сяброўскіх адносінах з ім. Аднак князь не жадаў пачынаць братазабойную барацьбу. Ён свята шанаваў запавет нябожчыка Аляксандра. Таму выехаў з 800 вершнікамі ганаровай варты насустрач Жыгімонту. Дарэчы, ахоўвалі каралевіча толькі 200 ваяроў. Адразу пасля сустрэчы Глінскі расказаў аб абвінавачваннях супраць яго. Растлумачыў іх недарэчнасць. Потым суправаджаў Жыгімонта да Вільні. Удзельнічаў у цырымоніі ўзвядзення на вялікае княжанне. Нават ездзіў з ім на каранацыю ў Польшчу.

Аднак новы вялікі князь не толькі не наблізіў Міхала да сябе, не выказаў яму павагі, а, наадварот, пачаў аддаляць. Глінскага пазбавілі гетманскай булавы, потым адабралі бельскае намесніцтва. Яшчэ крыху пазней забіраюць пасаду дворнага маршалка. А ў брата Івана адабралі ваяводства ў Кіеве і далі значна менш прэстыжнае ў Навагрудку. Міхал пакрыўдзіўся. Гонар патрабуе дзейнічаць. А тут яшчэ неўтаймоўны Забярэзінскі зноў пачаў паліваць яго імя брудам. У якіх толькі смяротных грахах не абвінавачваў ён свайго ворага! І ў імкненні да вярхоўнай улады, і ў тым, што менавіта Глінскі вінаваты ў вайне паміж Аляксандрам і Іванам III, нават у тым, што быццам бы Міхал атруціў Аляксандра. Ён выкарыстаў у сваіх мэтах і тое, што Васіля пазбавілі кіеўскага ваяводства. Сцвярджаў, што гэта зроблена для таго, каб прадухіліць спробу аддзялення Кіеўшчыны, якую быццам бы збіраліся ажыццявіць Міхал са сваімі сваякамі.

Глінскі разлаваўся і патрабаваў суда над паклёпнікам. Аднак кароль адмовіўся выканаць яго патрабаванне. Міхал

звяртаецца за дапамогай да венгерскага караля (брата Жыгімонта) і да крымскага хана. Аднак і іх заступніцтва не падапамагае, Міхал едзе ў Кракаў. Спрабуе зноў дабіцца паразумення з каралём. Усё марна. Тады раз'юшаны князь кідае такія словы: «Адважуся на такую справу, пра якую ты, кароль, і я потым пашкадуем». Той не звярнуў аніякай увагі і на гэта.

Міхал вяртаецца ў Тураў у свой маёнтак. Там пачынае абдумваць план помсты. Збірае вакол сябе сваякоў і сяброў. Яшчэ раз патрабуе ад Жыгімонта поўнага задавальнення сваіх прэтэнзій. Прызначыў тэрмін.

Чуткі пра гэтыя падзеі дасягнулі Масквы. У ёй заўжды добра ведалі ўсё, што адбываецца ў заходняга суседа. Новы маскоўскі вялікі князь Васілій III прыслаў у Тураў вопытнага дзяка Мікіту Губу Маклакова. Той запрасіў Глінскіх на маскоўскую службу. Прапанаваў ім ад імя Васілія абарону, міласць, жалаванне. Паведаміў, што яго вялікі князь абяцае пакінуць ім усе гарады, якія яны змогуць захапіць. Аднак браты захоўвалі прыстойнасць. Яны чакалі рашучага каралеўскага адказу на іх патрабаванні. Не дачакаліся.

І вось атрад у 800 вершнікаў выступіў на Гродна. Недалёка ад гэтага горада знаходзіўся маёнтак таго, па чыёй міласці Міхал «...с тое неласки королевское маючи сэрцэ скраванае», — Яна Забярэзінскага. Яго захапілі 2 лютага 1508 года ў першай гадзіне ночы. Паднялі з ложка ў адной кашулі. Засеклі. Глінскі загадаў: «...стяти Турчыну своему слузе, голову его (Забярэзінскага. — *М.Б.*) через мѣсто Городно по древцу нести казал, потом в озеро в колку милях укинено».

Чуткі аб гэтай падзеі разнесліся вельмі хутка. Адны спалохаліся, другія злараднічалі, трэція ўхвалялі дзеянні Міхала. А іншыя рыхтаваліся да абароны ад яго. Вільня зачыніла свае вароты. Коўна захапіць мяцежнікі не змаглі. Аднак полымя мяцяжу распаўсюджвалася. Спрыяла гэтаму тое, што Глінскі абвясціў сябе барацьбітом за поўную незалежнасць ад Польшчы. А яшчэ больш тое, што абяцаў абараняць правы праваслаўных. Для Жыгімонта ж гэта выступленне было нібы гром з яснага неба. Ён якраз планаваў пачаць вайну з Масквой. Разлічваў выкарыстаць абвастрэнне адносін Васілія III з удзельнымі суседзямі. А тут — мяцеж у сваёй дзяржаве. Кароль вырашыў выйграць

час, каб сабраць войскі. Паабяцаў выслаць свайго прадстаўніка. Запэўніў, што «ўсякую ўправу ўчыніць у іх справах». Глінскія згадзіліся. Аднак паставілі адну ўмову — весці перамовы яны будуць толькі з Альбрэхтам Гаштольдам. Абавязаліся чакаць яго да Сабарнай нядзелі (12 сакавіка). Яны ўсё яшчэ спадзяваліся на справядлівы разбор сваёй справы. Аднак Жыгімонт нават не адказаў ім. А вось з Масквы зноў прыслалі дзяка. Мяцежнікі зразумелі, што абяцанні караля так і застануцца абяцаннямі, і ў маі 1508 года прысягнулі Васілію III. І адразу пасля гэтага прадоўжылі ваенныя дзеянні.

Яны захапілі Гомель і Крычаў, Капыль і Клецк, аблажылі Оўруч. Мазыр здаўся без бою. Мазырскі ваявода Якуб Івашэнцаў быў сваяком Глінскім, таму загадаў адчыніць браму. Аднак галоўную задачу — захоп Мінска і Слуцка — выканаць не ўдалося.

Міхал сам накіраваўся да Слуцка. Ён... пасватаўся да маладой удавы слуцкага князя Сямёна Анастасіі. Аднак тая выдатна разумела, што жаніха цікавіла не яна, а багацці роду Алелькавічаў, і галоўнае — горад, які ўяўляў сабой моцную фартэцыю, і адмовіла. Тады Глінскі паспрабаваў захапіць Слуцк. Узяў яго ў аблогу. Спустошыў усё наваколле. Неаднойчы яго войскі кідаліся на штурм. З вялікімі стратамі адкочваліся назад. Спрабавалі запаліць умацаванні з дапамогай прымётаў. І гэта не атрымалася. Анастасія не раз ужо кіравала абаронай горада ад татар. Яна не толькі адбівала з-за сцен іх напады, але брала верх і ў чыстым полі. Гарнізон і жыхары Слуцка стаялі за сваю княгіню сцяной. У рэшце рэшт «жаніх» зняў аблогу і адышоў.

Не ўдалося ўзяць і Мінск. Праўда, быў заняты шэраг невялікіх гарадоў. Аднак мяцежнікі страчвалі ініцыятыву. Маскоўскі князь прыслаў ім на дапамогу войскі. Але яго ваяводы дзейнічалі нерашуча, імкнуліся пазбегнуць сутычак з войскамі Жыгімонта. А тым часам кароль сабраў сілы. У маі 1508 года ён быў у Брэсце, потым у Слоніме. У пачатку чэрвеня яго войскі выйшлі да Дняпра недалёка ад Оршы, якую якраз аблажылі Глінскі і маскоўскія атрады. Тыдзень стаялі арміі адна супраць адной. Потым маскоўскія ваяводы адвялі сваіх ваяроў і накіраваліся да Вязьмы. Міхал зразумеў, што за яго спінай вядзецца вялікая палітычная гульня і разлічваць на дапамогу маскоўс-

кага войска не выпадае. Зразумеў ён і тое, што мяцежнікі без знешняй падтрымкі перамагчы не змогуць. Таму ён спыніў мяцеж, распусціў сваіх людзей і з братамі і шэрагам прыспешнікаў пакінуў радзіму.

Беглякі знайшлі прытулак у Маскве. Васілій III прыняў іх вельмі цёпла. Пры яго двары ўтварылася вялікая група, якая мела назву «Литва дворовая». Міхал Глінскі атрымаў гарады Яраславец і Бароўск, а Васіль з Іванам — Медынь. Маскоўскі ўладар вельмі даражыў нашым земляком. Ён разлічваў з дапамогаю Міхала заваяваць усю «Литву», а таксама спадзяваўся на сувязі з тымі прыхільнікамі князя, якія засталіся на радзіме і займалі высокія дзяржаўныя пасады. Памятаў і пра яго сяброўскія адносіны з шэрагам уладароў. Таму паказваў сваю «ласку». Глінскі абжыўся ў Маскве. У хуткім часе ў яго жыцці адбылася вялікая падзея — ён ажаніўся з дачкой яшчэ аднаго выхадца з Вялікага княства Літоўскага Івана Абаленскага. Такім чынам, наш герой парадніўся з нашчадкамі Гедыміна. Праз пэўны час у сям'і Міхала з'явіўся прадаўжальнік роду. Сына назвалі Васілём.

Здавалася б, усё ўладзілася выдатна. Аднак атмасфера маскоўскага двара прыгнятае нашага земляка. Ён вельмі адрозніваецца ад двароў тых заходнееўрапейскіх уладароў, пры якіх неаднойчы давялося бываць і жыць Міхалу. Пры двары Васілія III ставілі за галоўнае не заслугі чалавека і не яго здольнасці, а паходжанне. Ад прыдворных патрабавалі не ініцыятывы, а рабскай пакоры, безагаворачнай паслухмянасці, сабачай адданасці. Глінскі ж заўжды быў праўдзівы, адкрыты. Да таго ж меў гарачы нораў. У глыбіні душы яго тлела крыўда і на Васілія III, і на яго ваявод, таму што тыя не выканалі свае абавязкі і не дапамаглі ў барацьбе. Лічыў, што больш страціў, чым займеў. Без сумнення неаднойчы прыходзілі да яго думкі аб тым, што ён памыліўся, калі даверыўся маскоўскаму вялікаму князю. Аднак ён гнаў іх. Спадзяваўся на тое, што зможа праявіць сябе ў ваеннай справе і заняць адпаведную пасаду. Магчымасці для гэтага былі.

Васілій III пастаянна намагаўся захапіць Смаленск. Першыя дзве яго спробы былі беспаспяховымі. Зразумеўшы, што ў адзіночку яго дзяржаве не адолець магутнага суседа, маскоўскі князь пачаў шукаць саюзнікаў. А ў гэты

час іншы еўрапейскі ўладар — імператар Максіміліян — збіраў хаўрус, з якім разлічваў разарваць на часткі і Польшчу, і Вялікае княства Літоўскае. Да яго далучыліся Тэўтонскі ордэн, Данія, Брандэнбург, Саксонія, Валахія. Імператар знайшоў агульную мову і з Маскоўскім княствам. У дагаворы, які заключылі паміж сабою саюзнікі, абгаворваліся ў першую чаргу пытанні аб тэрытарыяльных дамаганнях і ваеннай узаемадапамозе.

30 мая 1514 года маскоўскія раці выступілі ў паход на Смаленск. Вакол горада стала ў аблогу 80-тысячнае войска. Кіраваў ім сам Васілій. На муры горада абрынуліся ядры 300 гармат. Адзін з маскоўскіх летапісцаў так апісвае бачанае ім: «...Ад гарматнага і пішчальнага груку, людскога крыку і ляманту... зямля дрыжэла, і адзін аднаго не бачыў, не чуў, і ўвесь горад у полымі і куродыме ледзь не ўздымаўся». Аднак смаляне адбівалі ўсе прыступы. Пасля прапанавалі пачаць перамовы. Маскоўскі князь з радасцю згадзіўся на гэта. Ён абяцаў гараджанам захаваць усе іх вольнасці, кіраваць горадам «по старине», «не вступаться» ў вотчыны баяр і манастыроў, гарантаваў свабодны выезд усім, хто не пажадае застацца. Вёў перамовы з абаронцамі Міхал Глінскі. Васілій III абяцаў яму, што ў выпадку поспеху прызначыць яго ваяводай Смаленска. Глінскі паручыўся за маскоўскага князя. Смаленск здаўся.

І тут жа маскоўскі ўладар паказаў сваю двурушнасць. Ён не толькі не выканаў абяцанне, якое даў Міхалу, але яшчэ і пасмяяўся з яго: «Навошта табе горад? Я аддаю табе ўсю Літву». Глінскі ледзь-ледзь стрымаўся, каб не адказаць яму ў тым жа тоне. Аднак пакляўся ў душы, што адпомсціць і за абразу, і за падман. Не ў першы раз ён са шкадаваннем успомніў словы, якія кінуў калісьці Жыгімонту. Тады ён папярэджваў, што прыйдзе час, калі і ён, і кароль будуць шкадаваць аб тым, што не знайшлі паразумення. Міхал даўно ўжо шкадаваў аб зробленым. Але і Жыгімонт даўно разабраўся ў гэтай справе. Зразумеў, што ў тым выпадку памыляўся ён. Запрашаў да сябе на службу.

Міхал вагаўся. Зараз жа рашыў канчаткова. Тым больш, што падвярнуўся выпадак лёгка здзейсніць задуманае. Яго паслалі на чале войска, якое рухалася ў глыб Беларусі. З маршу збегчы з купкай верных людзей будзе няцяжка. І

Глінскі пасылае ўперад сябе вернага чалавека — шляхціца Трэпку, які павінен быў паведаміць літоўцам аб рашэнні князя. Аднак Трэпку перахапілі. Дапыталі. Падчас катавання ён выдаў планы Глінскага. Міхала схапілі, закавалі ў кайданы і павезлі ў стаўку Васілія, якая размяшчалася ў Дарагабужы. Раз'юшаны маскоўскі ўладар паабяцаў-прыгразіў: «Злахітры, я ўчыню табе вартае пакаранне, па заслугах». На што Міхал з годнасцю адказаў: «Не прызнаю абвінавачванне ў злахітрасці, бо калі б застаўся верны сваім абяцанням, дык меў бы ўва мне самага вернага з усіх слуг. Але калі ты не выконваеш абяцанні, а акрамя таго, ты з мяне насміхаешся, дык мне асабліва шкада, што я не мог выканаць таго, што задумаў супраць цябе. Смерць я заўжды зневажаў і без жаху сустрэну яе хаця б з тае прычыны, каб не бачыць твайго твару, тыран».

Васілій III загадаў адвезці Глінскага ў Маскву і кінуць у турму. Ён, пэўна, меркаваў пакараць сваю ахвяру падчас святкавання перамогі. Аднак яшчэ ў дарозе Міхала дагнала вестка аб тым, што войска, якое пасля яго арышту ўзначалілі ваяводы М. Булгакаў-Галіца і І. Чэлядзін, ушчэнт разбіта на беразе маленькай рэчкі Крапіўны. І што паражэнне гэта, без сумнення, прывядзе да перамогі Вялікага княства Літоўскага ў вайне. Яму нясцерпна захацелася жыць. Хаця б для таго, каб калі не ўбачыць, дык хоць пачуць весткі аб далейшых падзеях. І ён прыдумаў хітры ход: прызнаўся, што яшчэ ў маладосці, падчас вучобы ў Італіі, перайшоў у каталіцкую веру, а зараз выказвае жаданне вярнуцца да веры бацькоў. Узрадаваны «прасвятленнем» нашага земляка, мітрапаліт маскоўскі Варлаам дабіўся адмены для «аблуднай авечкі» смяротнай кары. Пачаў апякаць вязня і праз пэўны час перахрысціў. За гэты час Міхал даведаўся, што вестка аб паражэнні маскоўскай раці пад Оршай настолькі ўразіла свет, настолькі падняла прэстыж Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, што кааліцыя, якая склалася супраць іх, развалілася. Краіна была вызвалена ад знішчэння.

Што ж, жыццё Міхал вырataваў. Аднак волі не атрымаў. Кайданы на руках і нагах, прыцемкі, вільгаць, пацукі, закрытае кратамі акенца амаль пад столлю. Дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам... Часам здавалася, што там, за сценамі турмы, пра яго забыліся, што ён так і

не ўбачыць чыстага неба. Аднак адбыўся цуд. Праз дзесяць гадоў Міхал зноў апынуўся на волі. І зноў стаў прыдворным вялікага князя. Гэта здарылася дзякуючы жанчыне. Справа ў тым, што Васілій III закахаўся ў пляменніцу Міхала, дачку Васіля Алену. Ён загадаў пастрыгчы ў манахіні сваю жонку Саламею Сабураву (ад якой за 21 год не дачакаўся дзіцяці) і ажаніўся з дачкой былога берасцейскага ваяводы. Па яе настойлівых просьбах і быў вызвалены з цямніцы Міхал. Быламу вязню вярнулі ўсе званні, далі гарады Рапалаў, Юр'евіц, Старадуб. Зноў удзельнічае ён у ваенных паходах. Зноў стаў адным з бліжэйшых да вялікага князя людзей.

Здаюцца дзіўнымі такія адносіны да таго, каго 10 гадоў трымалі ў цямніцы. Маскоўскі князь, зразумела, не забыўся аб даўняй спробе Глінскага здрадзіць. Можна меркаваць, што гэта вынік дзеянняў Алены. Выдатна вядома, як кахаў Васілій III «абраную лепоты ради ее лица и благообразия возраста» жонку. І як імкнуўся выканаць яе капрызы. Ён нават не раз парушаў з-за яе традыцыі. Ды і Міхал імкнецца дапамагчы і дзеяннямі, і парадамі быламу ворагу, які нечакана стаў родзічам. Гэта было заўважана. І менавіта яго прызначыў паміраючы ўладар галоўным апекуном малалетняга сына Івана. Менавіта Глінскаму даручыў узначаліць тых самых «бояр немногих», якім «...приказа беречи его (Івана. — *М.Б.*) до пятнадцати лет...». Пэўна спадзяваўся, што Міхал з яго адвагай, розумам, энергічнасцю і асцярожнасцю зможа абараніць і сваю пляменніцу, і яе сына ад замахаў на іх жыццё з боку магутнай удзельна-княжацкай арыстакратыі і баярства.

Кіраўніцтва краінай фактычна перайшло ў рукі прызначаных нябожчыкам апекуноў. Старэйшым сярод іх быў Міхал. Ён з годнасцю выконваў запавет. Дзякуючы намаганням апякунскага савета, малалетняга Івана паспяшаліся каранаваць. Зроблена гэта было з-за небяспекі спроб захапіць велікакняжацкі прастол.

Аднак у Маскве шмат хто быў незадаволены такім становішчам. Членаў Баярскай думы — вышэйшага органа дзяржаўнай улады, які складаўся з найбольш радавітых прадстаўнікоў кіруючых вярхоў княства, — адсунулі на другі план. Іх гонар быў закрануты тым, што імі кіруюць «чужаземцы ды худародныя».

Магчыма Глінскі з паплечнікамі змог бы справіцца з незадаволенымі, уціхамірыць іх. Але перашкодзіў сямейны канфлікт. Справа ў тым, што Алена завяла сабе фаварыта — князя Івана Аўчыну-Целяпнёва-Абаленскага. Міхал, без сумнення, і сам не быў святым. Пра яго юнацкія амурныя паходжанні ў свой час шмат расказвалі. Аднак тут размова ішла аб удаве і маці вялікіх князёў. Міхал неаднойчы перасцерагаў Алену. Паводле слоў М.М. Карамзіна, ён «...смело и твердо говорил племяннице об стыде распутства, всегда гнусного, еще гнуснейшего на троне, где народ ищет добродетели, оправдывающей власть самодержавную».

З другога боку на Алену ўплываў фаварыт, які, дарэчы, з'яўляўся адным з самых знатных прадстаўнікоў Баярскай думы. Яна апынулася перад альтэрнатывай. Калі выбраць дзядзьку, то можна быць спакойнай за сваё жыццё. Але прыйдзецца развітацца з каханкам. А галоўнае — давядзецца зміырыцца са становішчам княгіні на ўдовіным удзеле (як прадугледжваў тастамент) і падпарадкоўвацца апякунскаму савету. Калі ж даверыцца фаварыту, то стане паўнапраўнай уладаркай. Аднак для гэтага трэба пазбавіцца ад дзядзькі. Як жа гэта зрабіць? Іван падказаў план і прапанаваў дапамогу...

Па Маскве папаўзлі плёткі, што Міхал Глінскі атруціў Васілія III. Што збіраецца выдаць сям'ю вялікага князя палякам. Што імкнецца захапіць велікакняжацкі прастол. Вельмі знаёмыя абвінавачванні. Ці не так? Зразумела, што ўсё гэта выдумкі баяр. Аднак ім трэба была толькі прычына, каб пазбавіцца ад непажаданага Глінскага і разагнаць апякунскі савет. Абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе, Міхал зноў апынуўся ў той жа цямніцы, у якой сядзеў раней. Больш з яе ён не выйшаў. М.М. Карамзін напісаў пра яго: «Муж, знаменитый в Европе пылкими страстями, счастьем и бедствием, вельможа и предатель двух государств, помилованный Василием для Елены и замученный Еленою, достойный гибели изменника и славы великодушного страдальца в одной и той же темнице».



# Атлант кальвінізму

1515–1565



У апошні час усё мацней разгараюцца спрэчкі аб тым, якая рэлігія з'яўляецца нацыянальнай для беларусаў. Праваслаўная? Каталіцкая? Уніяцкая? Спрачальнікі спасылаюцца на тыя ці іншыя перыяды гісторыі нашага народа. І забываюць пры гэтым, што ідэя штучнага стварэння нацыянальнай рэлігіі, якую яны праводзяць зараз, не новая. Гісторыя паўтараецца, і, гартаючы яе старонкі, мы можам са здзіўленнем даведацца аб тым, што быў час, калі шырокае распаўсюджанне на нашай зямлі атрымаў кальвінізм. Не меншае здзіўленне недасведчанага чытача выклікае той факт, што асноўным цэнтрам кальвінізму ў Вялікім княстве Літоўскім (у якое тады ўваходзіла Беларусь) быў Нясвіж. А яго тагачасны гаспадар Мікалай Радзівіл Чорны быў галоўнай апорай гэтай рэлігійнай плыні.

Нарадзіўся Мікалай у 1515 годзе ў Нясвіжы. Горад гэты з'яўляўся пасагам яго маці Ганны Кішкі. Бацька ж яго быў каштэлян троцкі і маршалак літоўскі Ян Мікалай Радзівіл, празваны Барадатым. Дзяцінства хлопчыка прайшло тут жа. У родным палацы атрымаў ён і першапачатковую (прычым даволі грунтоўную) адукацыю. Працягваў яе Мікалай за мяжой. Пэўна, у гэты час ён пазнаёміўся з рэфармізмам, які меў тады шырокае распаўсюджанне ў За-

ходняй Еўропе. Хутчэй за ўсё, менавіта тады стаў наш зямляк шчырым прыхільнікам вучэння Лютэра.

Родзічы Мікалая займалі ў гэты час шэраг вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасад у Вялікім княстве Літоўскім. Але і без іх дапамогі ён мог бы зрабіць бліскучую кар'еру. Юнак вызначаўся сваёй вучонасцю і дыпламатычнымі здольнасцямі. У 1544 годзе ён атрымлівае пасаду маршалка земскага. А ў 1547 годзе, у час адной з дыпламатычных паездак да германскага імператара Карла V, Мікалай Радзівіл удастойваецца ад яго тытула «Князь Рымскай імперыі на Алыцы і Нясвіжы». Тытул гэты распаўсюджваўся і на нашчадкаў. Праўда, на радзіме ён не даваў ніякіх правоў. Аднак затое надаваў больш вагі ў вачах шляхты.

Яшчэ больш узвысіўся род Радзівілаў пасля шлюбу стрыечнай сястры Мікалая Барбары з вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам. Той у 1548 годзе стаў каралём польскім. Нягледзячы на адчайнае супраціўленне польскай шляхты, яго жонка была каранавана. Праўда, прабыла яна каралевай нядоўга. Праз некалькі месяцаў пасля гэтай падзеі Барбара памерла. Па адной версіі смерць была выклікана хваробай — ракам страўніка. Па другой — каралеву атруцілі. Мікалай Чорны з родным братам Барбары Мікалаем Рудым пачынаюць сваё дазнанне. Даказаць яны нічога не змаглі. Але думкі аб магчымасці гвалтоўнай смерці іх сястры развеяны не былі. Яшчэ больш узмацніліся іх падазрэнні пасля таго, як браты Мікалая даведаліся аб словах урача Грацыяна (урач гэты быў адным з прыбліжаных каралевы Боны). Грацыян выказаў меркаванне, што каралева атруцілася выпадкова, у выніку празмернага ўжывання лекаў ад бясплоддзя.

Гэтая падзея яшчэ больш настроіла Мікалая Радзівіла Чорнага супраць палякаў. Ён даўно выношваў планы аддзялення Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы і прыкладаў усе сілы, каб разарваць саюз, які звязваў абедзве дзяржавы. Доўгі час Мікалай разлічваў зрабіць гэта з дапамогай Жыгімонта Аўгуста. Таму падтрымліваў з ім самыя цесныя сувязі. Каралю ж, які вызначаўся безыніцыятыўнасцю, бесхарактарнасцю, слабаволлем, падабалася цвёрдасць, упартасць, рашучасць братоў Радзівілаў. Ён бачыў у іх тыя рысы, якіх яму так не хапала. Менавіта з-за гэтага ён прагнуў сябраваць з роднымі яго жонкі-нябожчыцы. Мярку-

ючы па ўсім, ён яшчэ і крыху зайздросціў Чорнаму. У таго ж якраз у гэты час жонка нарадзіла першае дзіця — сына, які па сямейнай традыцыі атрымаў імя Мікалай.

Праз пэўны час Мікалай Чорны зразумеў, што нават яго ўплыў на караля не падштурхне таго да рашучых дзеянняў. Жыгімонт Аўтуст ніколі не адмовіцца ад польскай кароны і не дазволіць Вялікаму княству Літоўскаму стаць цалкам самастойнай дзяржавай. Мікалай Радзівіл вырашыў разлічваць на свае сілы. Радзівілы ў тыя часы былі найбольш багатым і магутным родам у княстве. Так, напрыклад, у коннае войска яны выстаўлялі 930 вершнікаў і роднасныя ім Осцікавічы — 337. Гэта атрымліваецца больш, чым Гальшанскія, Сапегі, Кішкі, Слуцкія, Лукомскія, разам узятыя. Такім чынам, Мікалай і яго прыхільнікі трымалі пад кантролем большую частку дзяржавы. Сам жа Радзівіл Чорны займаў пасады ваяводы віленскага і канцлера вялікага літоўскага, гэта значыць, меў вышэйшую пасаду пасля вялікага князя. Больш таго, у 1551 годзе Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў права на захаванне ў Нясвіжскім палацы архіва Вялікага княства Літоўскага.

У сваёй барацьбе за незалежнасць княства ён вырашыў выкарыстаць і рэфарматарскі рух, які ахапіў у той час Еўропу (а разам з ёю і Беларусь). Прычым удзельнічалі ў гэтым руху людзі самых розных саслоўяў. Асобы дзяржаўнага розуму бачылі ў ім адзіны спосаб пазбегнуць замежнага рэлігійнага ўплыву. Яны разумелі, што каталіцызм нясе апалячванне. Праваслаўе ж, на іх погляд, вяло да абрусення. І гэта сапраўды адбывалася так, бо тыя, хто належаў да гэтых веравызнанняў, міжволі шукалі падтрымку ў Польшчы або Маскоўскім княстве. Рэальны ідэалагічны грунт, які б з'яўляўся апорай незалежнасці, на іх думку, магла даць рэфарматарская царква.

Мікалай Чорны звярнуўся да кальвінізму. Ён пачаў усімі спосабамі апекаваць гэтае рэлігійнае цячэнне. У 1555 годзе ён сам прыняў вучэнне Кальвіна. Шэраг іншых магнатаў (хто ад чыстага сэрца, хто з разлікам, а хто імкнучыся патрапіць духу моды) узялі з яго прыклад. І яго паслядоўнікі павольна пачалі пашыраць рух кальвіністаў па Вялікаму княству Літоўскаму. Яны арганізавалі не толькі сотні ніжэйшых кальвінісцкіх школ у гарадах і мястэчках княства, але і гімназіі ў Вільні, Слуцку, Наваградку, Няс-

віжы, Віцебску... Разам з тым усюды будаваліся кальвініскія зборы — будынкі для набажэнства. Толькі Мікалай Чорны адкрыў іх 132. Што праўда, то праўда, дзейнічаў ён часам для дасягнення сваіх мэт і іншымі метадамі — адбіраў у вернікаў касцёлы і цэрквы, ператвараў іх у кальвінісцкія зборы. Разбураў прыдарожныя крыжы (за што быў аднойчы нават асуджаны).

У Нясвіжы ў гэты час збіраўся цвет рэфармацыі. Горад стаў фактычна другой сталіцай княства і галоўным цэнтрам кальвіністаў. Для прапаганды гэтых ідэй, для дзейнасці адкрытых ім збораў Радзівілы запрашалі прапаведнікаў кальвінізму з Еўропы, галоўным чынам з Польшчы. Адным з такіх дзеячаў, запрошаных у 1558 годзе ў Вільню, быў Сымон Будны. У хуткім часе яго перавялі ў Клецк. А яшчэ праз два гады гаспадар Нясвіжа адкрыў у горадзе друкарню. Арганізаваць выпуск кніг на сродкі таго ж Радзівіла павінны былі нясвіжскі староста М. Кавячынскі, кальвінісцкі прапаведнік з гэтага ж горада Л. Крышкоўскі і прапаведнік з Клецка С. Будны.

Паколькі пратэстантызм у Еўропе змагаўся і за права весці набажэнства не на латыні, а на нацыянальных мовах, то гэтага дабіваліся і кальвіністы Вялікага княства Літоўскага. Прычым яны, нароўні з вызваленнем ад латыні, ставілі пытанне і аб вызваленні набажэнстваў ад царкоўнаславянскай мовы, або, як тады казалі, «ад царкоўнай баўгаршчызны». Вось з гэтай мэтай для прапаганды кальвінізму сярод беларускага насельніцтва княства і была надрукавана ў Нясвіжы першая беларускамоўная кніжка на нашай зямлі. Гэта славуты «Катэхізіс», выпушчаны Сымонам Будным у 1562 годзе. «Катэхізіс» прызначаўся «...для простого народу руського и для хрестыянских дѣток руских». Выдадзена была ў гэтай жа друкарні і кніга «О оправдании грѣшного человѣка перед Богом».

Думка аб неабходнасці панавання роднай мовы знайшла шчырых прыхільнікаў сярод дробнай шляхты і баярства. Але сярод знаці беларускага паходжання вялікай прыхільнасці «да простай мовы» не было. Датычыць гэта і Мікалая Чорнага. Нездарма ж выдадзеная ў 1563 годзе яго коштам і ў яго друкарні «Біблія» надрукавана была на польскай мове. В. Ластоўскі ў сваёй «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» так ахарактарызаваў гэту сітуацыю:

«Польская мова, пад мажнай апекай Радзівілаў, Кішкаў, Глебавічаў і іншых, выцясняе мову простую».

Як бы там ні было, але для пашырэння кальвінісцкіх ідэй выкарыстоўвалася найлепшае друкарскае абсталяванне тых часоў. Вынікі ўсебаковай дзейнасці Мікалая Радзівіла Чорнага і яго паплечнікаў былі даволі адчувальныя. Рэфарматарскі рух у Вялікім княстве Літоўскім распачаўся, фактычна, у 40-х гадах XVI стагоддзя. У наступным дзесяцігоддзі ён атрымаў шырокае распаўсюджанне. Так, першы кальвінісцкі збор, які адкрыў Радзівіл Чорны ў Вільні, пачаў дзейнічаць у 1553 годзе. Сам Мікалай перайшоў у кальвінізм у 1555 годзе. У 1557 годзе сабраўся ўстаноўчы сінод беларуска-літоўскіх кальвіністаў. А ўжо ў 1563 годзе на Віленскім сойме яны дамагаліся ад Жыгімонта II Аўгуста прывілеі аб раўнапраўі ўсіх веравызнанняў. Гэта прывілея ў рэшце рэшт зраўноўвала ў правах з католікамі прадстаўнікоў шляхецтва і баярства «ўсякай праваслаўнай веры», а гэта значыць і прадстаўнікоў усіх плыняў пратэстантызму.

Што ж выклікала такое захапленне кальвінізмам? Магнаты дабіваліся вызвалення ад умяшання царквы ў свецкія справы. Для таго ж секулярызацыя царкоўных уладанняў давала ім магчымасць авалодаць землямі, якія належалі каталіцкім кляштарам. Дробная шляхта разлічвала, па-першае, атрымаць тое-сёе з багаццяў каталіцкага духавенства, а, па-другое, кальвінізм адмяняў мноства царкоўных свят. Яны маглі б у такім выпадку прымушаць сялян працаваць і ў гэтыя дні. Адмена большасці святочных (гэта значыць непрацоўных) дзён прыйшлася даспадобы гандлярам і гарадскім рамеснікам. Ім, да таго ж, падабалася таннасць царкваў кальвіністаў. Ніжэйшае ж духавенства імкнулася да незалежнасці ад вярхоўных улад. Найбольш коратка і ясна ахарактарызаваў прычыны такога хуткага пашырэння рэфарматарскіх ідэй і поглядаў В. Ластоўскі: «...у нас яны знайшлі вельмі падатны для сябе грунт: у грамадстве было агульнае незадавальненне справамі веры і царквы».

Здавалася, што да дасягнення поўнай палітычнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага ўжо блізка. Але перашкодзілі гэтаму заваёўніцкія планы Івана Грознага. У 1558 годзе цар Іван IV распачаў вайну за заваяванне Прыбалтыкі. На гэтай тэрыторыі ў той час існавалі Рыжская

архіепіскапія, Лівонскі рыцарскі ордэн, дэрптскае і рэвельскае епіскапствы. Лівонію раздзіралі міжусобныя войны. Таму войскі Івана Грознага дасягнулі вялікіх поспехаў. Але супраць вайны выступіла частка маскоўскіх баяр. Іван IV вырашыў «сваімі метадамі» дасягнуць адзінства думак. На час «разбору» ён заключыў перамір'е. Выкарыстаўшы гэты момант, Лівонскі ордэн прынёс прысягу на вернасць каралю Жыгімонту II Аўгусту. Іван Грозны раз'юшыўся. Як гэта? У яго з-пад носа сцягнулі такі спакуслівы кавалак? Паколькі Жыгімонт II Аўгуст быў адначасова і вялікім князем Літоўскім, то «пакрыўджаны» цар кінуў свае войскі на Беларусь.

Запалалі гарады і вёскі. У студзені 1563 года маскоўскія раці захапілі Полацк. Разрабаваўшы і разбурыўшы яго, рускія войскі накіраваліся далей. Але былі разбіты войскамі Вялікага княства Літоўскага. Пасля гэтага пачаліся перагаворы з царом. Для таго каб заключыць мір, ішлі на любыя ўмовы. Згодны былі і на тое, каб аддаць Івану IV усе захопленыя ім тэрыторыі. Нават Полацк. Для абмеркавання гэтага пытання ў Маскве ў 1566 годзе сабраўся земскі сабор. Яго ўдзельнікі выказаліся за працяг вайны. У гэтай сітуацыі ўрад Вялікага княства Літоўскага быў вымушаны пайсці на аб'яднанне з Каралеўствам Польскім. Аб'яднанне гэта адбылося на федэральнай аснове. Дзяржава атрымала назву Рэч Паспалітая.

Змяненне знешнепалітычнай сітуацыі прывяло да змяненняў суадносін унутры краіны. Усе намаганні былых палітычных і рэлігійных ворагаў былі кінуты на выратаванне радзімы. У гэтых умовах княства не толькі не магло парваць путы, якія звязвалі яго з Польшчай, але і вымушана было пайсці на больш цесны саюз. На сваё шчасце (калі можна так сказаць), Мікалай Радзівіл Чорны не дажыў да падзеі, якая азначала канчатковы крах яго мары, — да Люблінскай уніі 1569 года. Ён памёр у 1565 годзе.

Пасля ж заканчэння Лівонскай вайны прадаўжальнікаў яго спраў не знайшлося. Хто загінуў, хто памёр, хто змяніў погляды. Дзеці яго перайшлі ў каталіцызм.



# СВЯТЛЕЙШЫ ПІЛІГРЫМ

1549–1616



У цэнтры невялічкага беларускага горада Нясвіжа пятае стагоддзе ўзвышаецца першы на тэрыторыі нашай рэспублікі і адзін з першых у Еўропе помнікаў архітэктуры стылю барока — фарны (былы езуіцкі) касцёл. Унутры яго знаходзяцца некалькі ўмураваных у сцяну надмагільных помнікаў. На адным, зробленым са звычайнага мясцовага пясчаніку, можна разгледзець выяву пілігрыма з посахам у руцэ і шыракаполым капелюшом за плячыма. На дарозе за яго спінай, нібы кінутыя за непатрэбнасцю, ляжаць зброя і адзнакі рыцарскай годнасці. Над гэтым барэльефам надпіс-эпітафія на лацінскай мове, у якой гаворыцца пра тое, што перад тварам смерці любы чалавек — не рыцар, а толькі пілігрым.

Непадалёку ад барэльефа размешчаны ўваход у сутарэнне касцёла, у радавы склеп, дзе і зараз стаіць труна аўтара прыведзенай эпітафіі, які асэнсоўваў сябе перад сустрэчай з вечнасцю не прадстаўніком аднаго з буйнейшых магнацкіх родаў нашай зямлі, не князем, а простым чалавекам, пілігрымам. Тут пакояцца астанкі князя Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі.

Нарадзіўся ён у 1549 годзе тут жа, у Нясвіжы, у драў-

лянын замку славутага апекуна беларускіх кальвіністаў Мікалая Радзівіла Чорнага. Імя Мікалай хлопчык атрымаў па сямейнай традыцыі, бо ў ёй існаваў звычай называць так першага прадстаўніка новага пакалення. Мянушку ж звязваюць з польскім каралём, які гасцяваў у яго бацькоў. Той аднойчы пачуў дзіцячы плач, што даносіўся са святліцы (а дакладней сказаць — басавіты роў). Зайшоўшы ў пакой, яго вялікасць убачыў пакінутага ўсімі хлопчыка ў люльцы, паклікаў служанку і загадаў ёй неадкладна супакоіць «сіротку». Гэта выпадковае слова так і прыліпла да немаўляці на ўсё жыццё. Справа ў тым, што Радзівілы заўжды дабаўлялі да аднолькавых імёнаў прадстаўнікоў свайго роду мянушкі, нібы прыраўноўваючы сябе гэтым да пануючых у Еўропе дынастый.

Адукацыя Мікалая праходзіла спачатку ў пратэстанцкай гімназіі, створанай яго бацькам, а затым, як і ў шматлікіх іншых прадстаўнікоў дваранскай знаці, у Еўропе. Сіротка «грыз граніт навукі» ў Германіі, у Цюрынгенскім і Страсбургскім універсітэтах, затым — у Лейпцыгскім. Пасля гэтага, «удакладняючы свае веды», наш зямляк шмат падарожнічаў па Заходняй Еўропе. Ён пабываў у Аўстрыі, Францыі, Італіі. У час падарожжа Мікалай пазнаёміўся з папскім нунцыем кардыналам Камелоні і езуіцкім прапаведнікам Пятром Скаргай. Неўзабаве ён раптоўна здраджвае веры бацькоў і, «адрокшыся публічна ад памылак кальвіністкай ерасі», прымае ў 1567 годзе каталіцкую веру. Існуе сцвярджэнне, быццам гэта адбылося пад уплывам красамоўства Скаргі. Што ж, хітры езуіт мог паўплываць на юнака, але хутчэй за ўсё Сіротка перайшоў у каталіцызм не з прычыны змянення рэлігійных поглядаў, а па разліку. Справа ў тым, што буйная феадальная знаць падтрымлівала рэфармацыйны рух галоўным чынам з-за патрабавання секулярызацыі землеўладанняў манастыроў. Магнаты спадзяваліся, папершае, знішчыць такім шляхам сваіх канкурэнтаў — вышэйшае духавенства, а па-другое, прыбраць манастырскія землі ў свае рукі.

Сіротка ж, напэўна, зразумеў марнасць гэтых спадзяванняў у Вялікім княстве Літоўскім і рашыў далучыцца да каталіцкай царквы, больш багатай і магутнай, чым раздзіраемы дагматычнымі спрэчкамі рэфармацыйны рух. Успомнім, што так жа зрабіў і лідэр французскіх гугенотаў

Генрых Наварскі, які жыў у той жа час. Ён адказаў тым, хто папракаў яго здрадай, наступнымі словамі: «Парыж каштуе імшы». Успомнім, што дзякуючы пераходу ў каталіцызм, ён узышоў на прастол Францыі і што французы да гэтых часоў лічаць Генрыха IV адным з лепшых сваіх каралёў. Пра Анры IV (так па-французску гучыць імя гэтага манарха) у народзе да нашага часу складаецца шмат песень, баек, анекдотаў, паданняў.

Але і тыя, хто сцвярджаюць, быццам Сіротка змяніў веру дзеля таго, каб атрымаць тытул князя, таксама памыляюцца. Яны не ўлічваюць, што гэты тытул быў атрыманы раней, у 1547 годзе, бацькам Сіроткі.

Мікалай Крыштаф быў прыняты ў рады мальтыйскіх рыцараў, адзін з яго братоў (усе яны таксама перайшлі ў каталіцызм) атрымаў званне біскупа, а ў хуткім часе і кардынала. Гэта сведчыць толькі аб тым, наколькі высока ацаніў Ватыкан схіленне Радзівілаў да каталіцызму. Галоўнае ж, на мой погляд, што прыдбаў Сіротка — гэта магчымасць карыстацца «скарбніцай» каталіцкай царквы. Асабліва шырока выкарыстаў ён гэту магчымасць пасля таго, як у 1570 годзе атрымаў у спадчыну Нясвіж.

Мікалай Крыштаф распачаў у сваім маяраце шырокае будаўніцтва. У горадзе ўзводзіцца шэраг архітэктурных комплексаў — бенедыктынскі, дамініканскі і езуіцкі манастыры з касцёламі (Сіротка выгнаў з горада кальвіністаў). Будынак кальвінісцкай гімназіі пераабсталёўваецца і ператвараецца ў езуіцкі калегіум. Для ажыццяўлення ўсіх гэтых спраў у Нясвіж запрошаны таленавітыя еўрапейскія архітэктары. Так, для ўзвядзення езуіцкага касцёла з Італіі прыехаў славуты майстар Ян Марыя Бернардоні. Ён жа кіраваў і будаўніцтвам мураванага палаца, узведзенага замест былога драўлянага. Нясвіж прыгажэў на вачах.

Каб умацаваць сваё становішча, Сіротка вёў жыццё стараннага католіка, актыўна дапамагаў езуітам у іх барацьбе з рэфармацыйным рухам і праваслаўем. Каб ніхто і нішто не нагадвала яму аб кальвінісцкім мінулым яго бацькоў і яго самога, ён, не шкадуючы золата, скупіў «ерэтычныя» кнігі, выпушчаныя ў друкарнях, апякаемых яго бацькам, і загадаў спаліць іх на адным з пляцаў Вільні. У нясвіжскай друкарні з гэтага часу пачалі выпускацца кнігі толькі на лацінскай і польскай мовах.

Актыўна займаўся Сіротка і палітычнай дзейнасцю. Ужо на наступны год пасля сваёй вандроўкі па Еўропе (1566—1568) атрымаў пасаду маршалка надворнага літоўскага. У час выбараў новага караля на віленскім сойме 1574 года ён падтрымліваў кандыдатуру французскага прынца Генрыха Валуа. Таму не выклікае здзіўлення, што ў складзе дэлегацыі, якая накіроўвалася запрасіць Генрыха на прастол, быў і Мікалай Крыштаф. Ён жа праз некалькі тыдняў пасля вяртання дадому зноў вымушаны быў ехаць у Парыж, каб пераканаць збегшага караля вярнуцца. Як вядома, угаварыць караля-бегляка так і не ўдалося, і перад шляхецтвам Рэчы Паспалітай паўстала задача выбраць новага манарха. Цяжкія для краіны часы бескаралеўя ўскладняліся яшчэ і тым, што яна ўжо доўгі час ваявала.

Аднак вернемся да 1558 года, калі Іван Грозны пачаў вайну за тэрыторыю Лівонскай канфедэрацыі дзяржаў (якая складалася з Лівонскага ордэна, Рыжскага, Дзерпцкага, Эзель-Вікскага і Курляндскага архіепіскапстваў) і за выхад да Балтыйскага мора. На першым этапе вайны рускія войскі дасягнулі вялікіх поспехаў, але паміж ваюючымі бакамі з-за прыдворнай барацьбы было заключана перамір'е. Скарыстаўшы гэта, ордэн і рыжскі архіепіскап прапанавалі польскаму каралю Жыгімонту II Аўгусту перайсці пад яго пратэктарат. У тым жа годзе ў Вільні быў падпісаны дагавор. Іван Грозны вырашыў усё ж такі завалодаць гэтымі землямі. Яго войскі ў 1563 годзе ўзялі горад Полацк, дзе распачалі жахлівую разню насельніцтва, і збіраліся захапіць Вільню і Рыгу, але ў 1564 годзе пацярпелі шэраг паражэнняў, і баявыя дзеянні прыпыніліся. Небяспека з усходу з'явілася адной з прычын заключэння ў 1569 годзе Люблінскай уніі, якая аб'яднала Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае і Польшчу ў адзіную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

Іван Грозны адразу адчуў, наколькі небяспечны для яго гэты саюз, і павёў перагаворы з германскім імператарам Максіміліянам. Ён разлічваў, што імператар падтрымае яго ў планах размену Люблінскай уніі. Больш таго, пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста ён выставіў сваю кандыдатуру сойму, які выбіраў новага караля.

Нягледзячы на тое што сярод часткі дэлегатаў ён знай-

шоў падтрымку, пасля спрэчак, якія цягнуліся некалькі гадоў, вырашана было запрасіць на прастол трансільванца Стэфана Баторыя. Той пачаў правіць Рэччу Паспалітай у 1576 годзе. Ён укамплектаваў і ўзброіў моцную армію і ў 1579 годзе перайшоў у наступленне. Вельмі хутка быў вызвалены Полацк, затым заняты Вялікія Лукі, і ў жніўні 1581 года войскі Рэчы Паспалітай аблажылі Пскоў, разлічваючы ў выпадку яго захопу накіравацца на Ноўгарад і Маскву. Пскоў быў першакласнай для тых часоў крэпасцю, а яго гарнізон і жыхары горада вырашылі не здавацца. Пратаптаўшыся з марнымі спробамі захапіць горад да студзеня 1582 года, Баторый вымушаны быў пайсці на мірныя перагаворы, па якіх Полацк і Лівонія адыходзілі да Рэчы Паспалітай, а захопленыя Баторыем рускія землі былі вернуты цару Івану IV.

Сіротка падтрымліваў унутраную і знешнюю палітыку Стэфана Баторыя. У 1579 годзе ў час адной з бітваў Мікалай Крыштаф быў цяжка паранены ў галаву і часова пакінуў службу. Папраўляючы сваё здароўе, ён лячыўся на лепшых курортах Германіі і Італіі. Пэўна, тады ў яго з'явілася думка пабываць на Усходнім Міжземнамор'і.

Падарожжа пачалося 16 верасня 1585 года, а 8 снежня наш зямляк ужо быў у Венецыі. Але, гледзячы па ўсяму, Мікалай Крыштаф не вельмі спяшаўся пабываць у Святой зямлі, бо адплыў у яе толькі 17 красавіка наступнага года. У дарозе ён вёў дзённік, дзе занатоўваў усе свае ўражанні ад падарожжа. Цікава, што рэлігійныя інтарэсы ў гэтых запісах адыходзяць на другі план. Больш цікавілі падарожніка канкрэтныя з'явы і падзеі, а не біблейскія паданні.

Апісваючы храмы, палацы, руіны, ён у першую чаргу расказвае аб іх месцазнаходжанні, выглядзе і матэрыяле, з якога яны зроблены, прычым даволі часта параўноўвае ўбачаныя пабудовы з італьянскімі і французскімі. Сіротка неаднойчы абвяргаў тыя ці іншыя сцвярджэнні з Біблii. Так, убачыўшы крыніцу, у якой быццам бы апостал Філіп хрысціў еўнуха царыцы Кандацэі, ён заўважыў: «...крыніца з цеснай скалы выходзіць і такая бедная, што абедзвюх ног не было б чым паліць. Таму хутчэй трэба казаць, што святы апостал толькі галаву яму паліў і так яго ахрысціў». Марна Сіротка шукаў саляную статую жонкі Лота на берагах Мёртвага мора. Але наколькі ўразіла яго прыгажосць

гэтага мора! З якой паэтычнасцю, інакш не скажаш, апісаў ён убачанае: «Гэта мора... сярністае, мае і каменні навокал сябе, якія, калі іх запаляць, гараць, як дрэва... Іосіф Флавій праўдзіва гэта возера апісвае, а асабліва тое, што тройчы яно змяняецца за дзень; гэта я добра бачыў, бо зранку вада была чарнаватай, да паўдня, калі сонца яго нагрэе (бо там моцная жара), дык блакітнявее ўся вада накшталт блакітнага сукна, надвячорку ж, перад захадам сонца, калі сонечная жара спадзе, вада становіцца чырванаватай або рудой, бы яе з глінай змяшалі».

Нават пры наведанні Іерусалімскага храма магілы Гасподняй Сіротка звярнуў увагу не столькі на старажытную архітэктуру, колькі на надмагільныя пліты гістарычных асоб — кіраўнікоў крыжаносцаў. Але больш за ўсё цікавілі яго прыродныя ўмовы і гаспадарка тых месцаў, дзе ён пабываў. На Крыце, напрыклад, ён занатаваў у свой дзённік: «...бачыў там і тое, як бавоўну сеюць, ад чаго прыбыткі дзіўныя штогод ідуць, бо караблі адтуль нічога іншага не бяруць, акрамя солі і бавоўны, як і той карабель, на якім мы сюды ўпершыню прыплылі...» Шмат пісаў Сіротка і аб дзівосных жывёлах. Сярод прыцягнуўшых яго ўвагу былі хамелеон, кракадзілы, страусы, бегемоты.

Пасля Палесціны Мікалай Крыштаф пабываў у Сірыі, Ліване, Егіпце. У Егіпце ён агледзеў сфінкса, піраміды, пячоры са старажытнымі пахаваннямі. Там Сіротка ўбачыў мноства забальзаміраваных чалавечых цел і зацікавіўся саставам, пры дапамозе якога робяцца муміі: «Штосьці асаблівае гэта павінна быць, бо і зараз, праз тысячы гадоў і больш, як гісторыя піша, не дазволіла малейшай частцы згніць». Вялікую ўвагу нашага земляка выклікала паліўное земляробства. Ён адзначыў вялікае значэнне разліваў Ніла для гаспадарчай дзейнасці краіны.

Апісаў Сіротка і народныя звычаі, і святы, і адносіны паміж рознымі народамі. Ён даволі часта нагадваў аб жорсткім стаўленні турэцкіх чыноўнікаў да жыхароў пакораных Турцыяй народаў, аб рознагалоссях паміж туркамі і арабамі.

Як любы іншы падарожнік, Сіротка набыў у наведаных ім краінах такія-сякія «сувеніры». Сярод іх былі некалькі паўлінаў, два леапарды, дзікія козы. Усе гэтыя

дзівы прызначаліся для заапарка ў Нясвіжы. Для ўпрыгожвання ж палаца везліся дзве муміі.

У кастрычніку 1584 года Сіротка са сваімі спадарожнікамі накіраваўся ў зваротны шлях. Карабель, на якім ён адплыў з Александрыі, трапіў у моцны шторм. Экіпаж быў упэўнены, што гэта бяда адбылася з-за мумій. Іх выкінулі ў мора. Непрыемнасці працягваліся і на сушы. У Італіі падарожнікаў абрабавалі. Рабаўнікі забралі ўсё каштоўнае, не пакінуўшы падарожніку нічога. Сіротка вымушаны быў займаць грошы, каб дабрацца хаця б да Рыма. Там ён выправіў сваё становішча. Яго зноў выручыла царква. У гэтым горадзе ён затрымаўся, каб пабываць на прыёме ў папы, сустрэцца з кіраўнікамі мальтыйскага ордэна ў палацы ў Балонні, а затым накіраваўся на радзіму.

Тут ён працягваў тое ж жыццё, што і да паломніцтва. Зноў піры, балі, паляванні. Зноў палітычная дзейнасць. У 1590 годзе ён атрымлівае пасаду трокскага ваяводы і тады ж пачынае апрацоўваць свой дарожны дзённік, ператвараючы яго ў кнігу, і да 1595 года робіць канчатковы варыянт. Сваё імкненне напісаць кнігу Сіротка тлумачыць жаданнем пашырыць кругагляд землякоў. Ён падкрэслівае, што піша аб убачаным, а не прачытаным у кнігах іншых падарожнікаў. Разам з тым Мікалай Крыштаф падрабязна знаёміцца з існаваўшай у той час літаратурай аб Блізкім Усходзе. У яго кнізе мноства спасылак на гэту літаратуру, але ён не слепа перапісвае іншых аўтараў, а аналізуе прачытанае. Даволі часта ён выказвае нязгоду з тым ці іншым аўтарам. Так, у кнізе манаха Кердэна ён сустрэў недарэчнае выказванне аб бегемоце і заўважыў: «Кердэн піша, што такой велічыні гэты звер бывае, што слана можа цалкам праглынуць, але, каб ён мог з'есці слана, гэта немагчыма».

Кніга, названая «Podroz do Ziemli Swietoj, Syrii i Egiptu», выйшла з друку ў 1601 годзе і на працягу некалькіх стагоддзяў карысталася вялікім попытам. Аб гэтым можа сведчыць тое, што яна вытрымала 19 перавыданняў на польскай, нямецкай, лацінскай і рускай мовах.

Напружаная праца над кнігай не адрывала, аднак, Сіротку ні ад забаў, ні ад спраў. Ён працягваў барацьбу з рэфарматарствам і праваслаўем. Здзіўляешся, як гэта ўсё

можна было паспець за адно жыццё. Проста цяжка паверыць, што гэта той самы «паломнік», які правёў у Егіпце ў чатыры разы больш часу, чым у Палесціне, што гэта той самы аўтар, які на старонках сваёй кнігі неаднаразова абвяргаў тыя ці іншыя выказванні Біблii, але гэта так. Больш таго, Сіротка ў якасці даверанай асобы караля прысутнічаў на царкоўным саборы 1596 года ў Брэсце і выступаў на ім ад свайго імя і ад імя караля з патрабаваннем прыняць рашэнне аб аб'яднанні праваслаўнай і каталіцкай цэркваў у Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам папы рымскага, аб утварэнні уніяцкай царквы. І ён жа, цудоўна разумеючы, што уніяцтва — малодшы брат каталіцтва, аказваў прыхільнікам новай веры ўсялякую дапамогу. З яго лёгкай рукі каля Нясвіжа быў заснаваны уніяцкі манастыр...

Якую з дзвюх сваіх іпастасей лічыў галоўнай, сапраўднай сам князь Радзівіл? Ён даў адказ на гэтае пытанне перад самай канчынай.

28 лютага 1616 года па нясвіжскіх вуліцах рухалася маўклівая працэсія. У сваё апошняе падарожжа накіроўваўся князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка. Шлях быў невялікі — з радавога палаца ў Езуіцкі касцёл, у радавы склеп, створаны па загаду нябожчыка.

Апошняе жаданне князя Радзівіла было старанна выканана — ён быў пахаваны апранутым у простае адзенне і захутаным у плашч пілігрыма...





# МЯЦЕЖНЫ ГЕТМАН

## 1612–1655



Прадузятасць — вельмі небяспечная з'ява. Асабліва калі яна праяўляецца ў гісторыкаў ці літаратараў. Калі ўжо адны ці другія створаць які-небудзь стэрэатып, то змяніць яго будзе вельмі цяжка. Сярод ахвяр такога стэрэатыпу ёсць і нашы землякі. Аднаго з іх, напрыклад, малявалі толькі чорнымі фарбамі і польскія, і большасць савецкіх даследчыкаў. Асабліва ж зняславілі яго з-за рамана таленавітага польскага пісьменніка Г. Сянкевіча «Патоп» і фільма, які быў пастаўлены па гэтаму раману. Калі прыгадваеш імя Януша Радзівіла, то амаль заўсёды чуеш: «А, Януш-здраднік!» І ў дадатак шэраг падобных эпітэтаў. А ўсё таму, што менавіта здраднікам паказаў яго Сянкевіч. І менавіта так называюць Януша большасць польскіх даследчыкаў. Магчыма, і сапраўды з іх пункту гледжання ён быў здраднікам, а з нашага?

Нарадзіўся Януш у 1612 годзе. Бацька яго, Крыштаф Радзівіл, займаў пасады віленскага ваяводы і гетмана Вялікага княства Літоўскага. Дзяцінства прайшло ў радавых маёнтках у Кейданах, Біржах, Віжунах. Яно было такім жа, як і ў большасці дзяцей магнатаў. Адметным было хіба

толькі тое, што хатнім настаўнікам хлопчыка быў выкладчык кальвінісцкай школы. Справа ў тым, што бацька яго паходзіў з біржаўскай лініі Радзівілаў. А прадстаўнікі гэтага адгалінавання магутнага роду захавалі вернасць тым рэлігійным поглядам, якіх прытрымліваўся і за якія вёў барацьбу іх прашчур Мікалай Руды.

У 1624 годзе Януша накіравалі ў слуцкую гімназію. А яшчэ праз тры гады юнак паехаў пашыраць свае веды за мяжу. Вучыўся ён напачатку ў Германіі, а потым — у Галандыі. Трэба заўважыць, што юнака цікавілі не толькі лекцыі універсітэцкіх выкладчыкаў. Ён шмат падарожнічаў. Пабываў у Англіі, Бельгіі, Францыі. За гэты час выканаў некалькі асабістых даручэнняў караля. І выканаў так удала, што ў 1633 годзе атрымаў пасаду падкаморага Вялікага княства Літоўскага.

У хуткім часе Януш сабраўся дадому. Разам з ім рушылі нанятыя тысяча пешых і дзвесце конных воінаў. Да свайго войска юнак далучыў некалькіх артылерыстаў і ваенных інжынераў. З усёй гэтай «узброенай сілай» прыбыў ён на радзіму і адразу ж накіраваўся пад Смаленск. Горад гэты яшчэ з вясны спрабавалі захапіць маскоўскія войскі пад кіраўніцтвам ваяводы Шэіна. Януш прыбыў пад Смаленск у кастрычніку і прыняў актыўны ўдзел у барацьбе. Маскоўскія войскі цярпелі адно паражэнне за другім. Нарэшце ў канцы гэтага ж 1633 года на тэатры ваенных дзеянняў з'явіўся кароль Уладзіслаў з вялікім войскам. 16 лютага 1634 года Шэін склаў зброю. У чэрвені быў падпісаны мірны дагавор, па якім пацвярджаліся правы перамоўцаў на валоданне смаленскімі, чарнігаўскімі і ноўгарадсеверскімі землямі.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў Януш нейкі час пабыў у Вільні, а потым паехаў у Кракаў, там узяўся выконваць абавязкі падкаморага пры двары караля.

У гэты час па-сапраўднаму раскрыўся характар нашага земляка. Даследчыкі як адзін сцвярджаюць, што Януш вызначаўся гарачнасцю і ўпартасцю. Справа ў тым, што каралеўскі ўрад пастаянна парушаў умовы, на якіх кіраўнікі Вялікага княства пайшлі на заключэнне Люблінскай уніі. Фактычна толькі на словах існавала пагадненне аб ваеннай узаемадапамозе. Польскія магнаты, ды і каралі, глядзелі на землі княства як на свае асабістыя ўладанні і

імкнуліся распараджацца ў іх, як у сваёй вотчыне. Гонар не даваў Янушу магчымасці ўтойваць свае пачуцці. Ён ніколі не хаваў іх, адкрыта праяўляў свае настроі. І аднойчы адбыўся выбух...

У час пасяджэння рады сената княства, якое праходзіла ў Вільні, паміж гетманам Вялікага княства Літоўскага Крыштафам Радзівілам (бацькам Януша) і каралём Уладзіславам узнікла спрэчка. Гетман указваў на недапушчальнасць парушэнняў умоў пагаднення, на тое, што сенат княства сам можа вырашыць свае праблемы, што каралю няма неабходнасці ўмешвацца ў іх дзеянні. Уладзіслава «прыперлі да сцяны» фактамі. Ён не змог даказаць сваю праўду. І тады... перапыніў раду.

Януш, які ў якасці члена світы караля прысутнічаў пры гэтым, быў абражаны не менш за іншых. Ён уголас выказаў свае меркаванні: «Пачакайце, прыйдуць часы, калі мы вас не праз дзверы, а праз вокны будзем выкідваць». Зразумела, якія пачуцці выклікалі гэтыя словы ў палякаў. Яны ледзь не хорам пачалі патрабаваць, каб Януш папрасіў прабачэння. Запатрабаваў гэтага і кароль. Але наш зямляк наадрэз адмовіўся.

Паціху справу замялі. Кароль Уладзіслаў вымушаны быў лічыцца з магутным і ўплывовым родам Радзівілаў. Януш застаўся ў яго свіце. Больш таго, кароль называў яго сваім сябрам, пастаянна браў з сабой на паляванне, у паездкі, нават дзяліўся сваімі «амурнымі» сакрэтамі.

У 1638 годзе Януш вырашыў ажаніцца. Яго абранніца паходзіла з польскага магнацкага роду Патоцкіх. Крыштаф быў вельмі незадаволены выбарам сына. Асабліва не падабалася яму тое, што будучая нявестка славілася як ваяўнічая каталічка. Ён неаднаразова папярэджваў сына, што той яшчэ набядуецца. Але закаханы Януш настаяў на сваім. Жонка ж з першага дня пачала дабівацца, каб ён перайшоў у «лона адзінай роўнаапостальскай каталіцкай царквы». Асабліва ўзмацніла яна свае дамаганні пасля таго, як у 1640 годзе памёр свёкар. Януш адбіваўся ад гэтых захадаў. Але сякія-такія з патрабаванняў жонкі выканаў. Напрыклад, замяніў усіх сваіх слуг, якія былі кальвіністамі, на католікаў. Хто ведае, можа «слабая жанчына» ўрэшце і дабілася б свайго. Чаго-чаго, а настойлівасці ў яе хапала. Тым больш што ў гэтай справе ў яе было шмат

памагатых: і Уладзіслаў, і шматлікія сябры-палякі, і тыя «ліцвіны», якія самі былі каталікамі. Але ў 1642 годзе Катажына памерла.

Праз пэўны час Януш зноў ажаніўся. На гэты раз нявесту ён нагледзеў у больш далёкіх землях — у Малдавіі. У тамашняга гаспадара (князя) Базыля Лінула былі дзве дачкі. Наш зямляк пасватаўся да старэйшай — Марыі. Базыль супраць нічога не меў. Наадварот, яго вельмі ўзрадавала магчымасць парадніцца з Радзівіламі. Задаволены быў і Уладзіслаў. Ён якраз вёў падрыхтоўку да вайны з Турцыяй і шукаў саюзнікаў. Праўда, каралю вельмі не падабалася, што нявеста праваслаўная, але што ён мог зрабіць? Януша ж апошняя акалічнасць толькі радавала — «ваяўнічы каталіцызм» яму абрыдзеў у першым шлюбе...

У 1646 годзе Януш Радзівіл атрымаў пасаду гетмана польнага Літоўскага. У тым жа годзе па просьбе (заўважце — не загаду, а просьбе) караля выехаў у вандроўку. Пабываў у свайго цесця. Адтуль накіраваўся ў Семіград, дзе гасцяваў у трансільванскага князя Юрыя I Ракочы. І з тым, і з другім была заключана дамоўленасць аб сумесных дзеяннях супраць Турцыі. У падзяку за гэты паспяховы важ кароль даў Янушу пасаду маршалка трыбунала літоўскага.

Якраз у гэты час на паўднёва-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай (ва Украіне) успыхнула паўстанне, на чале якога стаў Зіновій Багдан Хмяльніцкі. На падаўленне яго Уладзіслаў IV паслаў войскі. 16 мая 1648 года пад Корсунем паміж імі і паўстаўшымі казакамі адбылася бітва. Казакі ўшчэнт разграмілі каралеўскае войска. У палон да іх трапілі нават гетманы каронныя Патоцкі і Каліноўскі. Пасля гэтай перамогі полымя паўстання ахапіла ўсю Украіну. Запалалі кляштары і маёнткі. Польскія паны кідалі ўсё і збягалі ў Польшчу.

У гэты цяжкі момант Рэч Паспалітая апынулася без галоўнакамандуючага. Януш па праву разлічваў на гэту пасаду. Але нечакана памёр Уладзіслаў IV. Становішча Радзівіла адразу пагоршылася. Як бы там ні было, а нябожчык усё ж такі падтрымліваў яго. А зараз гэтай падтрымкі не стала. Вынікі адчуліся амаль адразу. На сойме, які адбыўся ў ліпені таго ж 1648 года ў Варшаве, Януш вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду гетмана кароннага. Але яму прыгадалі колішнія словы аб паляках, якіх бу-

дуць «выкідваць... праз вокны». Зразумела, што пасля гэтага на гетманскую булаву разлічваць было немагчыма.

А тым часам паўстанне ва Украіне перарасло ў вайну. Яна ахоплівала ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Яе іскры паўстанні ўспыхнулі на Беларусі і нават у самой Польшчы. Шляхту ж Рэчы Паспалітай больш даймала іншая «хвароба» — яна выбірала новага караля. Меліся два прэтэндэнты — браты нябожчыка Уладзіслава — Карл Фердынанд і Ян Казімір. Першы з іх быў езуітам і прызнаваў толькі адну рэлігію — каталіцызм. Ужо з-за гэтага ён быў шмат каму не даспадобы. Яна Казіміра амаль не ведалі, бо ён ледзьве не ўвесь час жыў за мяжой. І ў кожнага з іх былі прыхільнікі. Па ўсёй дзяржаве праходзілі соймы і соймікі, пляліся інтрыгі, купляліся галасы... Урэшце пераможцам выйшаў Ян Казімір, за якога, дарэчы, падаў свой голас і Януш Радзівіл, і нават... Багдан Хмяльніцкі. Злыя языкі даказвалі пазней, што менавіта страх перад украінскім гетманам прымусіў шляхту галасаваць за гэтага прэтэндэнта.

Януша ж перадвыбарныя падзеі ўжо мала хвалявалі. У яго галаве спеў новы план — аб'яднацца з Багданам Хмяльніцкім і сумесна разарваць путы, якія звязваюць іх землі з Польшчай. Ён пасылае ва Украіну надзейных людзей. Але адказаў няма. Радзівіл цудоўна ведаў, што ў палітыцы паважаюць толькі моцнага. Ён вырашае паказаць сваю сілу і кідае войска на паўстанцаў, якія фактычна валодалі ўсім поўднем Беларусі. Яго армія на пачатку 1649 года адбівае Пінск, Мазыр, Бабруйск і шэраг іншых гарадоў. Януш вырашыў запалохаць ворагаў. Для гэтага загадаў пасадзіць захопленых у палон кіраўнікоў паўстання на кол, а яшчэ 270 казакам загадаў адсекчы правую руку і адпусціць на волю.

У той жа час ён мог з лёгкасцю ачысціць ад паўстанцаў усю тэрыторыю княства. Але не пажадаў. Адвёў войска. Сам пасяліўся ў маёнтку пад Вільняй і зноў пачаў перапісвацца з Хмяльніцкім і блізкімі да яго людзьмі. Піша ён і да трансільванскага князя, і ў Малдавію да цесця. Прапанова ў яго ўсё тая ж — аб'яднаць намаганні і ўдарыць на Польшчу. Але адказаў няма.

Тады Радзівіл вырашае яшчэ раз паказаць сваю моц. Ён са шматтысячным войскам выступае на Кіеў. Багдан Хмяльніцкі пасылае супраць яго аднаго з лепшых сваіх

паплечнікаў — Міхала Крычаўскага з пятнаццацітысячным войскам. У дарозе яно абрастала паўстаўшымі сялянамі. У момант сустрэчы з Радзівілам Крычаўскі меў пад сваім кіраўніцтвам трыццацітысячнае войска. Але ў бітве, якая адбылася 31 ліпеня 1649 года пад Лоевам, паўстанцы былі разбіты. Паранены Крычаўскі трапіў у палон і скончыў жыццё самагубствам. Дарога на Кіеў зноў адкрыта. Але Януш усё яшчэ спадзяецца дамовіцца з Хмяльніцкім. Да таго ж ён не жадае «рабіць усю справу за палякаў». Таму заяўляе, што войску не хапае пораху і куль, і адводзіць яго ў Рэчыцу.

Зноў маёнтак пад Вільняй. Зноў перапіска, перамовы. Зноў узаемныя амбіцыі не даюць прыйсці да згоды. А тым часам польскі ўрад заключыў перамір'е з Хмяльніцкім. Яно неабходна ваюючым бакам.

У Варшаве пачаўся сойм. 16 снежня 1650 года на ім з'явіўся Януш. Ён злажыў перад каралём захопленыя пад Лоевам сцягі і бунчукі казацкіх атрадаў. Сенат вымушаны быў узнагародзіць героя. Ва ўласнасць Радзівіла пераходзяць гарады Себеж і Невель. Кароль жа, са свайго боку, дае яму пасаду старасты Барысава. Аднак пры ўсім гэтым манарх вельмі насцярожана ставіцца да «ліцвіна». Яго шпіёны даўно ўжо данеслі аб тым, што Радзівіл перапісваецца з гетманам Багданам Хмяльніцкім. Не даспадобы яму былі і незалежныя, самаўпэўненыя паводзіны нашага земляка. Аднак палітыка ёсць палітыка. І Ян Казімір стараецца палепшыць узаемаадносіны з найбольш уплывовым «літоўскім» магнатам. Але дасягнуць гэтага яму ўдалося толькі пасля таго, як войскі Багдана Хмяльніцкага напалі на Малдавію. Радзівіл прапаноўвае каралю ўтварыць антыказацкую кааліцыю. Па яго меркаваннях, у гэту кааліцыю можна ўключыць Рэч Паспалітую, Малдавію, Трансільванію, нават крымскіх татар. Яна Казіміра ўзрадавалі такія перспектывы. Ён не здагадваўся, што галоўнае прызначэнне гэтай кааліцыі (на думку Радзівіла) — не барацьба з казакамі, а сіла, з дапамогай якой можна прымусіць Польшчу скасаваць унію з Вялікім княствам Літоўскім.

Януш зноў ідзе на Кіеў. І зноў — бітва пад Лоевам. 16 ліпеня 1651 года яго войска сутыкнулася з казацкімі загонамі, якімі кіраваў атаман Нябаба. Апошні перахапіў і

амаль цалкам знішчыў пры пераправе два палкі. Потым добра «разжыўся» ў абозе. Усё гэта дало яму магчымасць у сваёй рэляцыі Б. Хмяльніцкаму распісаць бітву як сваю перамогу. Але на самай справе перамагло войска Радзівіла. Сведчаннем таму з'яўляецца тое, што праз некалькі дзён пасля гэтай бітвы войска Радзівіла захапіла Чарнігаў, затым і Кіеў. Праўда, хутка Кіеў давялося пакінуць. Выклікана гэта было тым, што жыхары падпалілі яго. Аднак перад тым як выйсці з палаючага горада, Януш даручыў свайму мастаку перамаляваць фрэскі на сценах Сафійскага сабора.

Януш накіраваўся на злучэнне з польскім войскам. Прыбыў ён у іх лагер 4 верасня. Планавалася, што аб'яднаныя сілы Кароны і княства змогуць разбіць войска Хмяльніцкага. Аднак кароль не адважыўся на гэта. 29 верасня ён заключыў у Белай Царкве мір з Багданам Хмяльніцкім.

Слава аб рашучых дзеяннях Радзівіла пракацілася па ўсёй краіне. Яго параўноўвалі з палкаводцамі старажытнасці. На вуліцах натоўп крычаў яму: «Віват!» На сойме, які адбыўся ў Варшаве ў лютым наступнага года, ён расказваў аб дзейнасці і кароннага войска, і войска Вялікага княства. Здавалася б, усё выдатна. Але рост аўтарытэту і папулярнасці Радзівіла напалохаў польскіх (ды і не толькі польскіх) магнатаў. Па Варшаве папаўзлі плёткі. Пачаліся інтрыгі. Хтосьці пусціў пагалоску, быццам памёр вялікі гетман літоўскі Ян Кішка. Пачалі раншаць, каму аддаць гэту пасаду. Па ўсім выходзіла, што найбольш падыходзіць Януш Радзівіл. Але і кароль, і польскія магнаты пабаяліся зрабіць гэта. Пасада была паабяцана князю Паўлу Сапегу. Гэта настолькі абразіла Януша, што ён раптоўна пакінуў Варшаву. Усцешыла яго, але так і не зменшыла крыўду, сустрэча з жывым і здаровым... Янам Кішкам. Радзівіл зразумеў, што падманная вестка аб смерці Кішкі была пушчана кімсьці з нядобразычліўцаў.

Праз год пасля гэтых падзей на сойме ў Брэсце Януш пастараўся расквітацца. Ён патрабаваў ад Яна Казіміра, каб той менавіта яго прызначыў ваяводам Віленскага ваяводства. Кароль вымушаны быў згадзіцца. У наступным годзе памёр Ян Кішка. Януш пачаў барацьбу за яго пасаду. Кароль доўга ўпарціўся, але ўсё ж зноў прыйшлося зга-

дзіцца. Так Радзівіл атрымаў у свае рукі дзве галоўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім.

А тым часам Багдан Хмяльніцкі вёў перагаворы з Масквой. 8 студзеня 1654 года ў горадзе Пераяславе быў падпісаны дагавор. Украіна добраахвотна ўз'ядноўвалася з Расіяй. Гэта было поўнай нечаканасцю для кіруючых колаў Рэчы Паспалітай. Вялікаму ж княству Літоўскаму прынесла страшэнную бяду. Цар Аляксей Міхайлавіч афіцыйна абвясціў вайну. Яго войскі разам з украінскімі казакамі перайшлі мяжу. Пачалася жорсткая вайна. Да таго ж цар вырашыў у гэтай барацьбе абаперціся на падтрымку праваслаўнага насельніцтва княства. Ён разаслаў па ўсёй краіне граматы-звароты да адзінаверцаў. Шэраг гарадоў без бою адчынілі яму свае брамы. Войскі Вялікага княства Літоўскага цярпелі паражэнні адно за адным. Нават гарнізон Смаленска не змог утрымацца і склаў зброю.

Палякі ж, як і заўжды, быццам забыліся пра існаванне дагавора аб ваеннай узаемадапамозе. Яны чакалі, калі Вялікае княства Літоўскае аслабне.

Неспадзяваным быў паварот падзей і для Януша Радзівіла. Ён спрабаваў што-небудзь зрабіць, як-небудзь сабраць сілы ў адзін кулак і адбіць навалу з усходу. Але не змог. Перашкодзілі гэтаму і агульная разгубленасць шляхты, і тое, што ён не быў ужо польным гетманам. Справа ў тым, што наш зямляк паддаўся на настойлівыя просьбы караля і ўступіў гэту пасаду Вінцэнту Гансеўскаму. З тымі войскамі, якія Януш змог «наскрэбці», ён выступіў супраць рускіх. Бітва адбылася 12 жніўня 1654 года ля невялічкага гарадка Шклова. Войскі рускага цара значна пераўзыходзілі па колькасці. Ды і ўзброены былі лепш. Таму разбілі войска Радзівіла ўшчэнт.

Яшчэ большае паражэнне пацярпеў ён праз некалькі дзён у бітве ля вёскі Шпялевічы.

Зразумеўшы, што сваімі сіламі не справіцца і што палякі не дапамогуць, Януш зноў узяўся за пяро. Ён піша і Багдану Хмяльніцкаму, і Юрыю II Ракочы (сыну свайго старога знаёмага). З'явіўся ў яго і новы адрасат — шведскі кароль Карл Х Густаў. Швецыя валодала ў той час не толькі сваёй сучаснай тэрыторыяй, але і значнай часткай Прыбалтыкі. З іх дапамогай Януш разлічваў утварыць антырускую і антыпольскую кааліцыю. Ён спадзяваўся разбіць

захопнікаў з усходу і дабіцца таго, каб Вялікае княства Літоўскае стала поўнасцю самастойнай дзяржавай. Гэтымі планамі Радзівіл падзяліўся з Гансеўскім і літоўскімі сенатарамі. Але не знайшоў паразумення.

Раз'юшаны Януш вырашыў працягваць барацьбу з рускімі, і войска Вялікага княства накіравалася да Магілёва. Горад аблажылі і спрабавалі захапіць. Але не змаглі і ў маі 1655 года адступілі.

Рускія ж войскі ў гэты час развівалі свае паспяховыя наступы. Амаль уся Беларусь была захоплена імі. Здалася нават Вільня.

У гэты ж час на Польшчу напала Швецыя. Шведы засталі зусім не падрыхтаваную да абароны краіну і за некалькі месяцаў захапілі амаль усю тэрыторыю. Дарэчы, Багдан Хмяльніцкі заключыў з імі саюз і кінуў казацкую кавалерыю «на ляхаў». Януш Радзівіл жа з групай паплечнікаў вырашыў выкарыстаць гэту акалічнасць. 18 жніўня 1655 года ім было падпісана пагадненне аб пераходзе Вялікага княства Літоўскага ад уніі з Польшчай да уніі са Швецыяй. Пагадненне падкрэслівала, што гэта аб'яднанне раўнапраўных партнёраў, а не падначаленне адной дзяржавы другой. Сярод іншых пунктаў можна назваць такія, як свабода голасу, веравызнання. Адзін з пунктаў прадугледжваў узаемадапамогу ў выпадку вайны, але была зроблена заўвага: «...выключаючы караля і Карону Польскую» (г. зн. Польшчу. — *М.Б.*).

Узрадаваныя гэтай падзеяй, шведы абяцалі саюзнікам ледзь не залатыя горы. Прынамсі, забяспечваць іх зброяй, порахам і іншымі неабходнымі рэчамі. Абяцалі выплачваць жалаванне, даваць грошы на харчаванне. Войска падтрымала князя Радзівіла, было гатова хоць зараз выступіць у паход. Але шведы сваё слова не стрымалі. Не было ад іх ні грошай, ні пораху, ні падтрымкі. Усё гэта выклікала абурэнне і гнеў. Успыхнуў бунт. Януш застаўся без арміі. Адданых яму было толькі тысяча ваяроў. Ды і тыя іншаземныя наёмнікі, якія служылі за грошы.

Але наш зямляк не апусціў рукі. Невядома, на што ён спадзяваўся. Можа, на фартуну, можа, на свае здольнасці, а можа, нягледзячы на факты, на дапамогу адзінаверца караля Карла X Густава. Януш Радзівіл вырашыў змагацца з бунтаўшчыкамі. Ён заняў тыкоцынскі замак і пачаў

рыхтаваць яго да абароны. Але... сярод тых, хто застаўся з неўтаймоўным князем, былі і яго ворагі — тыя, хто не жадаў распаду Рэчы Паспалітай. 12 снежня 1655 года Януш раптоўна памірае. Пасля смерці на яго целе выступілі чорныя плямы. Гэта сведчыла аб тым, што князь Радзівіл быў атручаны.

Так у невялікім замку скончылася жыццё славутага князя. У апошні раз прадстаўнік магутнага магнацкага роду Радзівілаў зрабіў спробу ліквідаваць тую памылку, якую зрабілі магнаты Вялікага княства Літоўскага (у тым ліку і яго продкі), заключыўшы Люблінскую унію.

Гэта была вельмі супярэчлівая асоба. У ім спалучаліся і фамільная ганарыстасць, і гарачы патрыятызм, і вялікія веды, і жорсткасць... Аднак у многім дзякуючы намаганням такіх асоб гісторыя рухаецца ўперад.





# ІААХІМ ЛІТАВОР

1729–1812



Час няўмольны. Ён шмат сцірае з нашай памяці. Забываюцца падзеі, даты, людзі. Забываюцца продкі. Асобным з іх якімсьці чынам пашчасціла, і яны, як кажуць, «на языку». Другіх прыгадваюць зрэдку.

Штосьці падобнае здарылася і з Іаахімам Літаворам Храптовічам. Некалькі гадоў таму аб ім загаварылі. З'явіўся шэраг артыкулаў. Аднак усе яны былі прысвечаны толькі адной праблеме — гісторыі створанай ім бібліятэкі і яе будынкаў. Пытанне сапраўды балючае. Кніжны скарб, які сабраў гэты чалавек, знаходзіцца за мяжой. Іаахім Літавор быў вельмі неардынарнай асобай. Усебакова адукаваны. Дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Філосаф і асветнік, гуманіст і прыродазнаўца, паэт і публіцыст.

Нарадзіўся ён 4 студзеня 1729 года ў фальварку Ясянец, які належаў дзеду па маці К. Несялоўскаму. Дзед быў эрудытам, чалавекам шырокіх поглядаў, даволі вядомым у тыя часы пісьменнікам. Заўважыўшы жывы, дапытлівы розум унука, Несялоўскі сам узяўся за выхаванне нашчадка. Запрасіў першакласных настаўнікаў. Узровень ведаў, які Іаахім атрымаў дома, даў яму магчымасць без усялякіх цяжкасцей працягваць адукацыю ў Віленскай акадэміі. Можна смела сцвярджаць, што менавіта дзядуля перадаў унуку і сваё захапленне чароўным светам паэтычнай творчасці, і майстэр-

ства вершаскладання. Як бы там ні было, але на працягу ўсяго жыцця Іаахім пастаянна звяртаўся да паэзіі. Прычым з аднолькавай лёгкасцю пісаў на беларускай, польскай і лацінскай мовах. Заўважу, што ён не лічыў гэты занятак другарадным. Наш зямляк успрымаў паэзію не толькі як від мастацтва, які ўзбуджае пачуццё прыгожага, але і як вельмі дзейсны сродак распаўсюджвання навуковых ведаў і ўсталявання ў грамадстве больш дасканалых прынцыпаў маралі. Сведчаннем гэтага можа быць артыкул «Паэзія», які быў змешчаны ў энцыклапедычным выданні «Збор найпатрэбнейшых звестак» (уклад. І. Красніцкі) і ўбачыў свет у 1781 годзе.

Пасля заканчэння Віленскай акадэміі Іаахім, як і многія яго забяспечаныя сучаснікі, вырашыў працягваць адукацыю за мяжой. Вучыўся ў Германіі. Шмат падарожнічаў. Пабываў у Італіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Францыі, Англіі. Усюды цікавіўся найноўшымі на той час дасягненнямі навукі. Асабліва прыцягвала яго ўвагу сельская гаспадарка. Вывучаў розныя спосабы земляробства, аналізаваў іх з намерам выбраць самыя рацыянальныя. Цікавілі яго і дапаможныя галіны сельскай гаспадаркі — агародніцтва, садоўніцтва, пчалярства, развядзенне рыб у вадаёмах. Усё прачытанае, убачанае прывяло да таго, што ў нашага земляка сфарміраваўся своеасаблівы погляд на тое, як палепшыць становішча ўласнай гаспадаркі і краіны ў цэлым. Ён увасабляў пэўны сплаў ідэй асветнікаў і поглядаў фізіякратаў.

Першыя лічылі, што ад сацыяльных бед выратуе распаўсюджанне ведаў, навукі, асветы. Фізіякраты аддавалі перавагу прыродзе. Лічылі, што яна з'яўляецца адзінай крыніцай усіх багаццяў чалавецтва. Сцвярджалі, што грамадства ўзбагачаецца толькі за кошт зямлі і прыбытак стваралецца толькі ў прыродзе, у прыватнасці ў сельскай гаспадарцы. Што ж датычыць рамёстваў і прамысловасці, то яны, паводле поглядаў фізіякратаў, не ствараюць нічога новага.

Дасягненне Храптовіча заключаецца ў тым, што з двух гэтых вучэнняў ён выбраў найлепшае. Развагі прывялі яго да думкі аб тым, што павелічэнне прадукцыйнасці гаспадаркі магчыма толькі ў тым выпадку, калі той, хто працуе, будзе зацікаўлены ў выніку сваёй працы. З гэтага ён зрабіў выснову аб шкоднасці паншчыны. Далей лагічна вынікала ідэя аб асабістай вольнасці і адукацыі ўсіх сасловаў. Для пацвярджэння сваіх ідэй ва ўласных маёнтках Шчорсы, Нягневічы і Вішнева ён адмяніў у 1790 годзе

паншчыну. Устанавіў максімальны памер зямельнага надзелу. За карыстанне зямлёй сяляне павінны былі аддаваць яму трэцюю частку ўраджаю. Пашырыў правы сельскіх органаў кіравання. Пад яго ўплывам былі створаны сялянскія касы ўзаемадапамогі і страхавы магазін. Праўда, асабістая вольнасць сялян Храптовіча была абмежавана. Усе ворныя землі, сенакос, лес і іншыя ўгоддзі заставаліся яго ўласнасцю. Сяляне практычна ператварыліся ў арандатараў. Той, хто жадаў змяніць месца жыхарства, павінен быў заплаціць пэўную суму грошай альбо прапанаваць на свой надзел другога жадаючага. І нават у такім выпадку канчатковае рашэнне аб дазволе пакінуць маёнтак заставалася за адміністрацыяй.

У гэты ж час Храптовіч пабудаваў у сваіх уладаннях школу для сялянскіх дзяцей і арганізаваў у ёй ланкастэрскую сістэму навучання. У ёй дзеці не толькі вывучалі агульнаадукацыйныя дысцыпліны, але і набывалі аграпалітычныя веды і рамесніцкія навыкі.

Іаахім «прыклаў руку» да пашырэння асветы ў Вялікім княстве Літоўскім. Ён быў адзін з самых заўзятых стваральнікаў адукацыйнай камісіі — першай у Еўропе дзяржаўнай установы па кіраванню народнай асветай. Камісія гэта была заснавана соймам у 1773—1775 гадах. Наш зямляк з'яўляўся актыўным яе членам на працягу ўсяго дваццацігадовага часу існавання. Пад яго ўплывам камісія зацвердзіла рэформу школ і універсітэтаў у духу перадавых ідэй асветнікаў таго часу. Адукацыя пачала набываць свецкі характар. У навуковых установах пачалі больш увагі ўдзяляць прыродазнаўчым і фізіка-матэматычным навукам. Асноўнай мовай навучання замест латыні стала польская. Заўважым, што грошы на дзейнасць камітэта былі ўзяты не з дзяржаўнай казны. Іх склалі сродкі распушчанага рымскім папам езуіцкага ордэна. Гэтыя змяненні выклікалі рэзкае незадавальненне рэакцыйна настроеных прадстаўнікоў магнацка-шляхецкіх колаў і каталіцкага духавенства. Імі неаднойчы рабіліся спробы спыніць дзейнасць камісіі. Аднак Храптовіч сваім уласным аўтарытэтам і аўтарытэтам пасад, якія ён займаў, адбіваў гэтыя спробы.

Наш зямляк займаўся не толькі сельскай гаспадаркай ды грамадскімі справамі. Ён актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага. Не раз удзельнічаў у соймах. Займаў важныя дзяржаўныя пасады:

маршалка Галоўнага трыбунала, падканцлера, міністра замежных спраў, канцлера Вялікага княства Літоўскага. Змагаўся за правядзенне рэформ. Быў адным з тых, хто дабіўся прыняцця новай Канстытуцыі.

Пры ўсім тым Іаахім не забываўся і пра неабходнасць развіваць навуку. Усімі магчымымі сродкамі падтрымліваў навукоўцаў. Выдатна разумеў неабходнасць іх аб'яднання. З гэтай мэтай стварыў «Таварыства сяброў навукі». Сам уступіў у яго, і не намінальна, не як толькі «пан-заснавальнік». Ён выступаў у ролі тэарэтыка і папулярызатара эканамічных і фізічных ідэй фізіякратаў. Напісаў шэраг кніг. У 1802 г. выйшаў яго твор «Аб штогоднім нацыянальным узнаўленні». Праз некалькі гадоў пасля гэтага ўбачыла свет другая яго кніга — «Аб праве прыроды». Значна раней, у 1781 годзе, была выдадзена кніга, якая з'явілася вынікам шматгадовага захаплення Храптовіча пчалярствам. Называлася яна «Апісанне пчалярскай гаспадаркі ў Шчорсах». У ёй былі змешчаны назіранні, тэарэтычныя і практычныя адкрыцці, парады пачаткоўцам.

Што ж датычыць бібліятэкі, то знаходзілася яна ў рэзідэнцыі Храптовіча ў Шчорсах (цяпер вёска ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці). Папаўняў яе Іаахім на працягу ўсяго жыцця. Прывозіў кнігі з-за мяжы, купляў бібліятэкі ў спадчыннікаў такіх жа заўзятых бібліяфілаў, набываў пры распродажы маёмасці закрываемых манастыроў. З часам яго бібліятэка ператварылася ў адзін з найбуйнейшых па колькасці і найбольш багатых па змесце прыватных кніжных збораў на Беларусі. Гаспадар ператварыў яе ў своеасаблівы культурна-асветны цэнтр. Ён дазваляў карыстацца сабранымі ім скарбамі ўсім жадаючым. Больш таго, стварыў для іх плённай працы ўсе ўмовы. Завяшчаў працягваць гэту справу свайму спадчынніку. Памёр Іаахім Літавор 4 сакавіка 1812 года.

У наш час здаецца нават дзіўным, колькі паспеў зрабіць гэты чалавек. Аднак трэба заўважыць, што і пражыў ён нямала для тых часоў — 82 гады. Прычым жыццё яго было напоўнена думкамі аб тым, каб прынесці карысць не толькі сабе, але і ўсяму грамадству, у якім ён жыў.





# ГЕРОЙ ЭПОХІ РАМАНТЫЗМУ

## 1785–1813

Кожная эпоха мае сваіх герояў. Аднак польскі даследчык С. Мацкевіч заўважыў, што амаль усе эпохі гісторыі Беларусі адзначаны імёнамі членаў славутага магнацкага роду Радзівілаў. Эпоху Рэнесансу прадстаўляюць Анна Мазавецкая і Барбара Радзівіл, перыяд Рэфармацыі — Мікалай Чорны і Мікалай Руды, эпоху Асветы — Мікалай Крыштаф Сіротка, эпоху класіцызму — Міхал Казімір Рыбанька і ягоная жонка Францішка Урсула. Адной жа з цэнтральных фігур эпохі рамантызму, падкрэслівае Мацкевіч, з'яўляецца Дамінік Геранім Радзівіл.

Дамінік Геранім нарадзіўся ў 1785 годзе ў сям'і ўладара Слуцка Гераніма Вінцэнта Радзівіла, малодшага брата славутага Караля Станіслава, празванага Пане Каханку. Маці хлопчыка была нямецкая графіня Турн-унд-Таксіс. Пане Каханку жартаваў з гэтае нагоды, што ягоны пляменнік — «сын таксіцы». Цераз два гады пасля нараджэння, у 1787 г., Дамінік Геранім застаўся без бацькі. Апекавацца над асірацелым пляменнікам узяўся Караль Станіслаў. Аднак хлопчык нядоўга быў пад яго апекай. Змучаны частымі палітычнымі няўдачамі, трохразовым выгнаннем за мяжу, згубіўшы надзею выправіць становішча радзімы,

князь ціха згасаў. У 1790 годзе, папярэдне страціўшы зрок, ён памёр. Апекунамі Дамініка былі прызначаны іншыя сваякі. Аднак апекавалі яны болей маёмасць, якая належала іх падапечнаму як спадчына ад бацькі і, галоўнае, ад дзядзькі. Аб іх «дбанні» і здольнасцях сведчыць тое, што радавое гняздо Радзівілаў — Нясвіжскі замак — адразу пасля смерці Караля Станіслава перайшоў да расійскіх улад. У ім добра-такі «пагаспадарыў» генерал Тотаўмен настолькі, што пазней Дамініку Гераніму давядзецца займацца аднаўленнем і палаца, і горада.

Аднак пакуль што хлопчык не бачыў усяго гэтага. Маці адвезла яго на сваю радзіму, дзе і прайшло ўсё яго дзяцінства. Неабходна адзначыць, што пані Турн-унд-Таксіс распесціла сваё дзіця. Яна патурала ўсім яго капрызам. Не лепшае акружэнне ў Дамініка Гераніма было і пазней. Калі ён падрос, то за ўзор для пераймання ўзяў паводзіны Юзафа Панятоўскага — стрыечнага брата польскага караля. Той у сваім палацы, у Яблоне пад Варшавай, вёў жыццё, запоўненае п'янкамі і гульнёй у карты. У выніку малады князь настолькі разбэсціўся, што за яго выхаванне адмовіўся ўзяцца шырокавядомы ў той час паэт Ф. Карпінскі. Не змяніліся паводзіны юнака і пасля таго, як у 1805 годзе, стаўшы паўналетнім, ён уступіў у правы валодання вялізнай зямельнай маёмасцю, што засталася яму ў спадчыну. Цяжка нават пералічыць усё, што належала яму. Гарады, сотні вёсак, мноства маёнткаў. І такія вялікія, як Нясвіж, Слуцк, Мір, і маленькія, як Радзівілмонты пад Клецкам ды Нягневічы на Наваградчыне.

Пасля прыезду новага ўладара ў Нясвіжы пачалося вясёлае жыццё. Спадчыннік магутнага роду Радзівілаў узяў ад продкаў, у першую чаргу ад нябожчыка-дзядзькі, і «адкрытае ўсім людзям сэрца, і яго схільнасць да раскошы, жаданне быць аб'ектам усхвалення, раскідваць направа і налева грошы, паказваючы тым самым, што скарбы радзівілаўскія невычарпальныя». Праўда, размахнуцца так, як Пане Каханку, ён ужо не мог — і час быў не той, і мода, і законы. Аднак дазвалялася многае. Тым больш што і паплечнікі знайшліся пад пару Дамініку Гераніму — яго стрыечныя браты Станіслаў і Карл Чарнецкія. Да гэтай тройцы прыбіліся некалькі небагатых сваякоў і навакольных шляхціцаў. Хутка паводзіны гэтай кампаніі сталі «прыт-

чай у народзе». Як сучаснікі, так і той-сёй з пазнейшых даследчыкаў няўхвальна аднесліся да таго, чым займаўся Дамінік Геранім «со товарищи». Яны называюць марнай тратай часу не толькі іх «захапленне прыгожымі жанчынамі, заляцанні, балі, паляванні», але і тое, што ў Радзівіла было трыста пародзістых коней, якіх утрымлівалі ва ўзорна абсталяваных стайнях. Асуджаюць нават захапленне «тэатральнымі і опернымі прадстаўленнямі».

Праўда, усе прызнаюць, што князь траціў грошы не толькі на забавы. Ён не шкадаваў іх на аднаўленне палаца і адбудову горада. Шчодра надзяляў блізкіх. Пры ім былі адрамантаваны пашкоджаныя падвалы палаца, пабудаваны гандлёвыя рады, пастаялы двор. Радзівіл пабудаваў тэатр і паштовую станцыю, аднавіў работу тэатра ў палацы. Нясвіж у яго час развіваўся і квітнеў. Яго сталі называць «малой Варшавай» ці нават «малым Парыжам». Да нясвіжскага князя імкнуліся гандляры, рамеснікі, іншаземныя банкіры. Пры ім у горадзе звілі сваё гняздо нават масоны — у адным з жылых дамоў была абсталявана і збіралася іх ложа.

Сваякі ж імкнуліся ўсімі спосабамі «прывесці ў розум» юнака. З гэтай мэтай ажанілі яго з графіняй Мнішак. Дамінік Геранім мусіў згадзіцца. Аднак «кайданы Гіменея» не змянілі яго паводзін. Разгульнае жыццё працягвалася па-ранейшаму. Усё скончылася ў адзін дзень, дакладней — вечар. У 1807 годзе князь прыехаў на вяселле. Ягоная цётка Тэафіля (родная сястра бацькі юнака), у шлюбе генеральша Мараўская, выдавала замуж за пана Старжэнскага сваю дачку, таксама Тэафілю. Князь на правах ганаровага госця, да таго ж стрыечнага брата, правёў нявесту да алтара. Пасля заканчэння вянчальнага абраду ён жа суправаджаў яе да святочнага стала. Сеў каля яе. І ў той час, калі шматлікія госці пілі, закусвалі, крычалі «Віват!», выкрыквалі пажаданні маладым, вёў з нявестай ажыўленую размову. Потым падняўся з-за стала, не развітваючыся ні з кім, выйшаў з палаца і сеў у сваю карэту. Праз некаторы час пасля гэтага застолле пакінула і маладая. Яна выйшла на вуліцу і... знікла. Пакуль спахапіліся, пакуль пачалі пошукі... Да гэтага часу карэта, у якой ехалі Дамінік Геранім і Тэафіля, была ўжо далёка.

Закаханыя выдатна разумелі, што на радзіме іх чакаюць вялікія непрыемнасці. Таму, не марудзячы, з'ехалі за мяжу. Пасяліліся ў Аўстрыі. Там, 29 лютага 1808 года, якраз дзень у дзень пасля скандальнага здарэння на вяселлі, праз дзевяць месяцаў, у іх нарадзіўся сын. Князь прызнаў нованароджанага, які атрымаў імя Аляксандр Дамінік, сваім сынам. Аднак зрабіць яго княжычам і спадчыннікам не змог. Перашкаджалі дзяржаўныя і, галоўнае, царкоўныя законы. Хлопчык быў аб'яўлены незаконнанароджаным — бастардам. Варта прыгадаць, што яго бацькі мелі супругаў, з якімі не былі ў разводзе. Да таго ж яны знаходзіліся ў вельмі блізкім сваяцтве.

Больш як год змагаўся Радзівіл за сваё шчасце. Для таго каб дабіцца двух разводаў, а потым права абвянчацца, выдаткаваў велізарныя для таго часу грошы — 2 мільёны польскіх злотых. Пасля атрымання дазволу Дамінік Геранім і Тэафіля абвянчаліся. У наступным годзе ў іх нарадзілася дачка Стэфанія. Здавалася, у сям'і ўсталяваліся каханне і спакой. Аднак...

У 1812 годзе Напалеон з велізарным войскам пераправіўся праз Нёман і пачаў вайну супраць Расійскай імперыі. Французскі імператар абяцаў насельніцтву Беларусі аднавіць незалежнасць. Гэтае абяцанне выклікала вялікі патрыятычны ўсплёск. У Вільні быў утвораны часовы ўрад, які ўзначаліў генерал Станіслаў Солтан. Пачалося фарміраванне нацыянальных вайсковых падраздзяленняў. Сярод тых, хто паверыў абяцанням Напалеона, апынуўся і наш герой. Дамінік Геранім, якому якраз споўнілася 26 гадоў, даручыў дзяцей жонцы, сабраў і ўзброіў за свой кошт уланскі полк колькасцю 5000 чалавек і далучыўся з ім да французскай арміі.

Яго ўланы паказалі сябе адважнымі воямі. Амаль усе яны загінулі на Барадзінскім полі. Рэшткі палка Радзівіла разам з французамі ўвайшлі ў Маскву. У службовай карце князя з'явіўся надпіс, зроблены Напалеонам: «Найбольш надзейны і найбольш адважны з усіх палякаў». (Варта заўважыць, што французскі імператар, як, дарэчы, і рускі, лічыў усё насельніцтва каталіцкага веравызнання ў Беларусі палякамі.) Аднак пераможцы хутка зразумелі, што іх перамога можа ператварыцца ў паражэнне. У гэты час да князя звярнуўся яго зямляк, былы міністр замежных спраў

Расіі Адам Чартарыйскі. Ён упрошваў Радзівіла прыняць рускую арыентацыю, бо «радзіма не можа разлічваць толькі на Напалеона». Раіў хаця б вярнуцца ў Нясвіж. Аднак Дамінік Геранім адказаў яму: «Маё месца на чале майго палка, а не ў Нясвіжы». Не здрадзіў ён французам і пасля таго, як тыя вымушаны былі пакінуць Маскву і пачаць сваё трагічнае адступленне. Ён рухаўся разам з усімі.

Аднак Дамінік Геранім не быў бы Радзівілам, каб нават у гэты час забыўся пра трафеі, якія захапіў у Маскве. Разам з ім і салдатамі яго палка рухаўся абоз. Колькасць вазоў у ім крыніцы называюць розную (як, зрэшты, і колькасць абозаў — ці то адзін, ці то два). Што яны везлі — застаецца загадкай. Рускія сучаснікі тых падзей і іх землякі-даследчыкі ў адзін голас сцвярджаюць, што на вазах былі каштоўныя камяні, жэмчуг, музейныя рэліквіі, царкоўныя атрыбуты і нават жалезныя пазалочаныя лісты, садраныя з маскоўскіх храмаў. Яны лічаць, што гэта ўсё было нарабавана Радзівілам, а таксама скуплена ў марадзёраў-французаў. Аднак тое-сёе ў гэтых высновах насцярожвае. Цікава, хто гэта сярод заваёўнікаў, што складалі армію Напалеона, абмяняў бы лёгкія па вазе і каштоўныя па цане камяні на цяжкаважкую манету або, тым больш, на практычна нічога не вартыя папяровыя грошы? І галоўнае: хіба на Русі калі-небудзь крылі храмы жалезам, хай сабе і пазалочаным? Цалкам магчыма, што Дамінік Геранім на правах пераможцы (хоць і кароткачасовага) прыхапіў што-небудзь з таго, што «блага ляжала». Аднак нельга адкідваць магчымасць таго, што частку грузу складалі каштоўнасці, вывезеныя ў свой час у Маскву з Нясвіжскага палаца ды іншых маёнткаў Радзівілаў. Магчыма, што гэтыя самыя музейныя рэліквіі і царкоўныя атрыбуты калісьці былі «изъяты» са скарбніц ягоных продкаў.

Як бы там ні было, але праз пэўны час Дамінік Геранім з абозам аддзяліўся ад французскай арміі і накіраваўся ў родныя мясціны. Услед за ім пайшлі рускія войскі пад кіраўніцтвам адмірала Чычагіна. Яны ледзь не «наступалі на пяты». 26 кастрычніка 1812 года князь з некалькімі вершнікамі, аднак без абозу, з'явіўся ў Нясвіжы. Ён аддаў загад замураваць фамільную скарбніцу, а іншыя каштоўнасці нагрузіць на вазы і накіраваць услед яму, у віленскім накірунку. Затым пашыбаваў на поўнач. Толькі-

толькі пачалі выконваць гэты загад, як у горад уварваліся царскія войскі. Іх камандзір А. Красоўскі абвясціў напаўзагружаныя вазы, што стаялі на двары палаца, «масcoўскім абозам» і канфіскаваў яго. Паслаў адміралу Чычагіну рапарт аб перамозе і захопленай здабычы і пачаў рабаваць палац.

Радзівіл хутка даведаўся аб падзеях, якія адбыліся пасля яго ад'езду. Ён выказаў некалькі заўваг адносна дзеянняў варожых войск. «Пакрыўджаны» Чычагін, якому вокамгненна данеслі аб «выказваннях», загадаў вывезці з палаца ўсё больш-менш каштоўнае. Потым аддаў яго (і горад) на трохдзённае рабаўніцтва салдатам. Тыя пабывалі нават у магільным склепе Радзівілаў, які размяшчаецца ў сутарэннях фарнага касцёла. У пошуках каштоўнасцей ускрываліся труны... Горад у чарговы раз быў спустошаны.

Без сумненняў Дамініку Гераніму стала вядома і аб гэтым. Ён мог бы часткова выправіць становішча. Зрабіць так, як зрабілі шэраг нашых землякоў і палякаў, што ў свой час прымкнулі да Напалеона, — адмовіцца ад барацьбы і павініцца перад царом, а то і наогул перайсці на бок пераможцаў. Аднак для яго, заражанага «рыцарскім духам сваіх продкаў», гэта было немагчыма. Ён прымкнуў да французскага імператара тады, калі той быў пераможцам, і кінуць яго ў бядзе азначала для нашага земляка страціць гонар. Князь застаўся верным тым сцягам, пад якія стаў, да канца. У 1813 годзе ў час бітвы ён быў смяротна паранены і памёр 11 лістапада ў невялікім французскім гарадку Ляўтрэцку. Па сцверджанні С. Мацкевіча, апошнім яго словам было: «Гонар...»

Сын Дамініка Гераніма так і застаўся лічыцца бастардам. Праўда, у 1822 годзе ён быў прызнаны князем у Аўстрыі. Аднак іншыя краіны не палічылі гэты акт законным.

У. Сыракомля адзначаў, што «на ім (Дамініку Гераніме. — *М.Б.*) перарвалася лінія нясвіжскіх ардынатаў, якая цягнулася, не перарываючыся, ад Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі».





# ЗАЛАТЫМІ ЛІТАРАМІ Ў ХРАМЕ СЛАВЫ

1798–1883



У горадзе-героі Севастопалі шмат помнікаў. Адзін з іх установлены на Прыморскім бульвары. На яго п'едэстале лаканічны надпіс: «Казарскому. Потомству в пример. 1834». Здавалася б, што ў ім асаблівага? Ці мала помнікаў у Севастопалі — горадзе марской славы? Аднак спытайце любога мясцовага хлапчука аб гэтым помніку, і ён раскажа вам гісторыі, якія здадуцца на першы погляд паданнямі або проста матроскімі байкамі. На самай жа справе гэта рэальныя падзеі з жыцця нашага земляка Аляксандра Казарскага.

Нарадзіўся Аляксандр у 1798 годзе ў Дубровіна (маёнтку князя К. Любамірскага) Аршанскага павета Магілёўскай губерні. Бацька яго служыў у гэтым маёнтку аканомам. Здавалася, што сын прадоўжыць яго шлях. Але ў лёс хлопчыка ўмяшаўся родны брат яго бацькі — Фёдар. Дзядзька забраў дванаццацігадовага пляменніка з сабой у горад Нікалаеў, а там уладкаваў юнгай на адзін з ваенных караблёў. Кемлівы хлопчык прыйшоўся па душы не толькі экіпажу, але і камандзіру карабля. Юнга атрымаў накіраванне ў Аляксандраўскае штурманскае вучылішча. Ён вучыўся вельмі старанна. У вучылішчы выкладалі матэматыку, астраномію як асноўную навігацыйную навуку, артылерыйскую справу,

абучалі тэорыі працы з ветразямі. Майстэрства дзеянняў з ветразевым узбраеннем замацоўвалася на практыцы, якую гардэмарыны (так называлі навучэнцаў вучылішча) праходзілі на брыганціне «Міхаіл». У час гэтай практыкі гардэмарыны выконвалі ўсе абавязкі матросаў. Вучоба Казарскаму давалася лёгка, адзінае, што выклікала цяжкасці, — замежныя мовы (італьянская і грэчаская). Але настойлівасць дапамагала, і за чатыры гады, праведзеныя ў вучылішчы, Аляксандр змог авалодаць і імі.

У 16 гадоў Казарскі закончыў вучылішча і атрымаў званне мічмана. Службу ён пачаў падштурманам на «Інгуле». Не маючы ніякіх сувязяў, ён вельмі цяжка рухаўся па службовай лесвіцы. Толькі праз дзесяць гадоў яму было прысвоена званне лейтэнанта. Хутка пасля гэтага яго назначаюць камандзірам аднаго з караблёў Дунайскай флатыліі — брыга «Сапернік». Гэта было вельмі старое судна, сапраўдная разваліна, якую матросы метка ахрысцілі мянушкай «начоўка». З «Саперніка» нават гарматы былі зняты.

Якраз у гэты час у Грэцыі пачалася нацыянальна-вызваленчая вайна. Народ узняўся, каб скінуць ненавіснае турэцкае ярмо. Султан Махмуд II вырашыў патапіць паўстанне ў крыві. Турэцкія войскі пачалі разню. Яны знішчалі на сваім шляху ўсіх — маладых і старых, мужчын і жанчын, забівалі нават дзяцей. Расія, бачачы гэта, прапанавала прымірыць варагуючыя сілы. Пасрэднікамі ў прымірэнні павінны былі выступіць таксама Англія і Францыя. Махмуд II адверг гэту прапанову. Каб выратаваць грэчаскі народ ад знішчэння, Расія абвясціла Турцыі вайну.

Зноў узброены гарматамі «Сапернік» разам з іншымі караблямі Дунайскай флатыліі ахоўваў транспарты, якія накіроўваліся да крэпасці Анапа. Але, высадзіўшыся на бераг, рускі дэсант сустрэў войскі турак, якія ў шмат разоў перавышалі яго па колькасці. Узнікла пагроза гібелі рускіх. У гэты час Казарскі прыняў смелае, нечаканае для ўсіх рашэнне — ён падвёў «Саперніка» амаль да самага берага і даў па турэцкіх войсках некалькі залпаў з карабельных гармат. Ворагі ў паніцы адступілі, і гэта дазволіла рускім высадзіць асноўныя сілы. Бераг быў захоплены, а туркі здаліся ў палон.

За гэты подзвіг Казарскі быў узнагароджаны залатой шпагай з надпісам «За храбрость». У хуткім часе яго перавялі камандзірам на брыг «Меркурый».

Вызначыўся Аляксандр і пры штурме Варны. Яго новы брыг на працягу дзвюх гадзін вёў дуэль з берагавой батарэяй, адцягваючы на сябе ўвагу ворагаў. У гэты час асноўныя сілы дэсанта змаглі высадзіцца ў іншым месцы і захапіць горад.

Але па-сапраўднаму праславіўся наш зямляк 14 мая 1829 года. У гэты дзень яго брыг разам з фрэгатам «Штандарт» і брыгам «Арфей» у час разведкі каля праліва Басфор сустрэўся з турэцкай эскадрай. Паколькі сілы былі няроўныя, рускія караблі павярнулі да родных берагоў. Але ў гэты час наступіў штыль. Аніякі подых ветру не рабаціў паверхню мора. Толькі ў вышыні лёгкі брыз ледзь напінаў верхнія ветразі караблёў. Дзякуючы яму «Арфей» і «Штандарт» маглі працягваць свой шлях. «Меркурый», мачты якога былі на 10 аршын карацейшымі, застыў на месцы. Зрэшты турэцкую эскадру напаткала тая ж бяда. Рухацца маглі толькі «Селеміе» і «Рэал-бей». Два супраць аднаго — здаецца, не так ужо і шмат. Але калі параўнаць памеры і ўзбраенне (на «Меркурыі» 18 гармат, а ў турак 110 і 74), дык адразу бачна, на чыім баку перавага. І хоць даволі хутка задзьмуў лёгкі ветрык, адарвацца ад ворагаў «Меркурый» ужо не змог, бо ён быў менш быстраходны, чым турэцкія караблі.

Перад Казарскім паўстаў выбар — або здацца ў палон, або загінуць. Ён выбраў другое. Баючыся, што туркі змогуць захапіць «Меркурый», ён загадаў паставіць ля ўвахода ў круйдкамеру (парахавы склеп) пустую бочку і пакласці на яе пісталет. Яго разлік быў такі — зблізіцца з адным з турэцкіх караблёў і ўзарваць «Меркурый» разам з ім. Узарваць брыг павінен быў любы з застаўшыхся ў жывых афіцэраў. Але перад гэтым вырашана было нанесці ворагам як мага большую шкоду.

Туркі пачалі расстрэльваць «Меркурый». На ім загарэліся ветразі, ядром сарвала сцяг. Туркі вырашылі, што рускія здаюцца, але ў гэтую хвіліну брыг падышоў да «Селеміе», на якім знаходзіўся камандуючы турэцкім флотам Капуцын-паша, і даў залп ва ўпор. На «Селеміе» ўспыхнулі шматлікія пажары, звалілася адна з мачтаў. Яшчэ адзін такі ж залп, і палуба турэцкага карабля стала нагадваць пекла.

На «Рэал-беі» не адважваліся страляць, баючыся папасці ў сваіх. «Меркурый» накіраваўся да другога турэцкага карабля. Ён увесь тросся ад ядраў, якія пападалі ў яго, але рухаўся. Рускія кананеры ў сваю чаргу забівалі

ядры ў турэцкі карабель. Некалькі прыцэльных залпаў усім бортам, і туркам стала не да стральбы, — усе, хто застаўся ў жывых, кінуліся тушыць пажары.

«Меркурый», ледзь трымаючыся на вадзе, накіроўваўся да родных берагоў. За яго кармою нерухома застылі караблі ворагаў.

Пераможцаў сустракалі громападобным салютам. Стралялі караблі, берагавыя батарэі. Яшчэ б, перамагчы ворага, у дзесяць разоў перавышаючага па агнявой моцы!

Аб гэтым подзвігу хутка даведаўся ўвесь свет. «Меркурыем» захапляліся нават туркі. Адзін з іх, удзельнік баталіі, напісаў: «...Карабель Капуцын-пашы і наш уступілі з ім (брыгам «Меркурыем». — *М.Б.*) у гарачы бой, і — справа нячутная і неверагодная — мы не змаглі прымусіць яго здацца. Ён змагаўся, адступаючы і манеўруючы з усім ваенным мастацтвам так, што мы — сорамна прызнацца — спынілі бітву, між тым як ён, трыумфуючы, працягваў свой шлях. Калі старажытныя і новыя летапісы ўяўляюць нам вопыты храбрасці, то гэты апошні заслоніць усе іншыя, і сведчанне аб ім заслугоўвае быць накрэсленым залатымі літарамі ў храме славы...»

За гэты подзвіг «Меркурыю» ўручылі расшыты золатам сцяг. Каманда атрымала ўзнагароды і грашовыя прэміі. Казарскага ўзнагародзілі ордэнам Святога Георгія 4-й ступені, яму было прысвоена званне капітана 2-га рангу і прызначана пажыццёвая пенсія ў памеры двайнога акладу. Ён некаторы час быў у свіце Мікалая I, але хутка пачаў прасіцца на мора. Яго просьбу ўважылі, назначыўшы інспектарам Чарнаморскага флоту, і ён пасяліўся ў Нікалаеве.

У 1830 годзе А. Казарскі наведаў родныя мясціны. Пагасцяваўшы ў родных, ён вярнуўся ў Нікалаеў. У тым жа годзе Казарскаму прысвоілі званне капітана 1-га рангу.

У першыя дні лета 1883 года Аляксандра моцна прадзьмула халодным ветрам на прычалах, і ён захварэў. Медыкі спахапіліся вельмі позна. 16 чэрвеня ён памёр.

Маракі, шануючы памяць Казарскага, сабралі грошы на помнік герою. Помнік гэты, выкананы па праекту акадэміка архітэктуры А. Брулова, быў узведзены ў 1884 годзе там, дзе стаіць і ў нашы дні — на Прыморскім бульвары ў горадзе-герої Севастопалі.





# ЗМАГАР І СКУЛЬПТАР

1810–1863



Паўстанне 1862—1863 гадоў... Чалавек, прызначаны камісарам Дзісненскага павета, вымушаны быў сам узначаліць атрад паўстанцаў. У самым пачатку бою з царскімі войскамі ён быў забіты. У яго трапіла восем куль. Звалі гэтага чалавека Генрых Дмахоўскі, хаця ў свеце ён больш вядомы як Генры Д. Сандэрс.

Нарадзіўся Генрых у 1810 годзе ў сям'і дробнага чыноўніка — сакратара Адукацыйнай камісіі Віленскай навучальнай акругі. Месца яго нараджэння дакладна невядома. Адны крыніцы сцвярджаюць, што ён з'явіўся на свет у Вільні, другія — што ў маёнтку Заблуддзе Браслаўскага павета Віленскай губерні, які належаў яго бацьку. Але дакладна вядома, што дзяцінства яго прайшло ў Забалоцці. Рос Генрых без маці. Памерла яна, калі ён быў яшчэ немаўлём.

Прырода, сярод якой ён правёў сваё дзяцінства, краявіды Паўночнай Беларусі, нездарма празванай краем азёр, абудзілі ў хлопчыка мастацкія здольнасці. Таму ў час вучобы на прыродазнаўчым факультэце Віленскага універсітэта Дмахоўскі браў прыватныя ўрокі ў скульптара Казіміра Ельскага, а яшчэ вучыўся жывапісу.

Палітыка нацыянальнага заняволення, якая панавала ў Расійскай імперыі, выклікала незадавальненне і адпор з

боку прыгнечаных народаў. Французская рэвалюцыя 1830 года стала іскрай, што прывяла да выбуху ў Польшчы — моладзь узнялася на ўзброенае паўстанне. Полымя барацьбы распаўсюджвалася. Хутка паўстанне ахапіла і Беларусь і Літву. Генрых Дмахоўскі, як і большасць яго равеснікаў, далучыўся да паўстанцаў. Ён змагаўся ў атрадзе Пяткевіча. Але паўстанцы зрабілі шэраг памылак, галоўная з якіх — абмежаванасць у сацыяльным складзе змагароў. Справа ў тым, што перамога паўстанцаў не мяняла нічога ў становішчы сялян, і таму яны не падтрымлівалі гэтую барацьбу. А без іх паўстанне хутка пацярпела паражэнне.

Дмахоўскі вымушаны быў эмігрыраваць. Неўзабаве ён, як і большасць эмігрантаў, апынуўся ў Парыжы, дзе зблізіўся з замежнымі дэмакратычнымі арганізацыямі, асабліва з італьянскімі карбанарыямі. Пэўна, менавіта яны падбілі нашых землякоў да ідэі партызанскай экспедыцыі, якая павінна была прывесці да паўстання на тэрыторыі Расійскай імперыі. Арганізатары гэтай экспедыцыі рабілі стаўку не на вузкае шляхецкае кола (як у час паўстання), а на шырокі сялянскі рух. Яны спадзяваліся адцягнуць такім чынам увагу «жандара Еўропы», якім у той час не без падстаў з'яўляўся ўрад Расіі, ад рэвалюцыйных падзей у Заходняй Еўропе. Яны разлічвалі, што пасля перамогі ў Італіі карбанарыі дапамогуць ім у барацьбе супраць царскага самаўладдзя.

Узначаліў экспедыцыю палкоўнік Ю. Заліеўскі. Па яго планах уся тэрыторыя будучага дзеяння паўстанцаў дзялілася на акругі, і ў кожную з іх назначаўся начальнік. Дмахоўскі павінен быў узначаліць паўстанцкія сілы Віцебскай губерні.

Паўстанцы накіраваліся невялічкімі групамі (каб не прыцягваць увагу) да мяжы Расіі. Шмат з іх былі арыштаваны французскімі і нямецкімі ўладамі, той-сёй сам павярнуў назад, але большая частка сабралася ў прызначаным месцы, 19 сакавіка 1833 года перайшла мяжу і пачала партызанскія дзеянні. Паўстанцы спадзяваліся, што, як толькі яны з'явяцца на радзіме, разгарыцца ўсеагульная барацьба. Але спроба «прынесці паўстанне на штыках» правалілася. Народныя масы іх не падтрымалі. Генрых не змог нават прарвацца на Віцебшчыну. Ён вымушаны быў адступіць на Палессе, а затым на Валынь. Адтуль ён перабраўся ў Галіцыю (на тэрыторыю Аўстрыйскай імперыі), дзе і пасяліўся. Там наш зямляк узяў імя Эмерыка Сандэрс. Генрых паслаў некалькі пісьмаў бацьку. Не атрымаўшы

адказу ад яго (незадоўга да гэтых падзей бацьку забілі слугі з мэтай рабаўніцтва), напісаў свайму роднаму дзядзьку, прэлату Віленскай кафедры, Казіміру Дмахоўскаму. Той не толькі не дапамог пляменніку, але нават данёс на яго, разлічваючы на ўзнагароду, віленскаму генерал-губернатару князю Даўгарукаму. Казімір паведаміў і новае імя Генрыха, і яго месца жыхарства і даў апісанне яго знешняга выгляду. Ён пісаў: «...росту ёсць высокага, валасы светларусыя, бровы такія ж самыя, вочы мае блакітныя, нос трохі задзёрты, твар круглы, бакенбардаў і вусоў да 1831 года не насіў і асобых прыкмет не мае».

Маючы гэтыя даныя, аўстрыйскія ўлады арыштавалі Дмахоўскага. Іх суд прыгаварыў яго да пяці гадоў зняволення ў крэпасці Куфштайн. Генрых адбыў у ёй з 1834 па 1841 год. Каб забавіць час, ён ляпіў з хлебнага мякішу розныя фігуркі, сцэны турэмнага жыцця.

Пасля вызвалення з турмы зноў накіроўваецца ў Францыю. Там ён вучыцца ў мастацкай школе. Яго часта можна было бачыць у майстэрнях вядучых скульптараў. Але такое жыццё не падабалася нашаму земляку. Яму хацелася большага. Ён прагнуў змагацца з самаўладдзем.

І вось 1846 год. Полымя рэвалюцый пранеслася па ўсёй Еўропе. Дмахоўскі ўключаецца ў барацьбу. У Львове ён быў цяжка паранены асколкам. Пакуль Генрых лячыўся, рэвалюцыйны рух быў падаўлены. Зноў Парыж, майстэрня, душная атмасфера рэакцыі... Генрых вырашае пакінуць Еўропу.

У 1852 годзе ў Злучаных Штатах Амерыкі з'яўляецца скульптар Генры Д. Сандэрс. Хутка ён становіцца настолькі вядомым, што яму заказваюць для будынка кангрэса (у Вашынгтоне) бюсты Джорджа Вашынгтона, Томаса Джэферсана, Бенджаміна Франкліна, Тадэвуша Касцюшкі.

На першы погляд наш зямляк шчаслівы. У яго ёсць сям'я, слава, павага акружаючых. Але на душы ў яго неспакойна. Барацьбіту такое жыццё не па нутру. Пацверджаннем гэтага могуць быць працы, якія выразна адлюстроўваюць яго сімпатыі: медальён з сілуэтамі пакараных смерцю дзекабрыстаў, бюст Л. Кошута, скульптурная група «Гарыбальдзі з воінамі». Дмахоўскага ўсё больш і больш ахоплівае туга па радзіме, тым больш што з Еўропы прыходзяць чуткі пра новы грамадзянскі рух у Расіі.

Якраз у гэты час здарылася няшчасце — смерць жонкі і дзяцей. Пахаваны яны ў Філадэльфіі, дзе над магіламі

асірацелы Генрых паставіў помнік, выкананы са снежнабелага мармуру.

Сям'я — адзінае, што ўтрымлівала Генрыха ў Злучаных Штатах. Да таго ж пасля смерці Мікалая I была аб'яўлена ўсеагульная амністыя палітычным злачынцам. Дмахоўскі падае прашэнне аб дазволе вярнуцца на радзіму. Амаль чатыры гады цягнулася чыноўніцкая валынка, і толькі ў маі 1861 года Генрых змог вярнуцца ў родныя мясціны. Адразу пасля прыезду за ім устанавілі сакрэтны паліцэйскі нагляд. Хаця ні ў чым заганным заўважаны ён не быў, але супраць яго прозвішча жандары пазначылі: «нядобранадзейны». Трэба сказаць, што, як паказалі далейшыя падзеі, яны мелі рацыю.

Дмахоўскі ў хуткім часе адкрывае скульптурнае атэлье ў Вільні. Тут ён працягвае займацца сваёй любімай справай. Сярод найлепшых твораў, зробленых у гэты час, можна назваць мадэль надмагільнага помніка Барбары Радзівіл, фігуру святога Уладзіслава для віленскай катэдры, помнік Уладзіміру Сыракомлю. Яго талент і веды атрымліваюць прызнанне сярод мясцовай інтэлігенцыі. Навуковае і творчае грамадства настолькі высока ставіцца да яго, што абірае правадзейным членам Віленскай археалагічнай камісіі.

І ў гэты час успыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Дмахоўскі, гледзячы па ўсяму, удзельнічаў у яго падрыхтоўцы, бо быў прызначаны камісарам Дзісненскага павета. Ён фарміруе атрад паўстанцаў, калі па волі непрадбачаных абставін атрад гэты застаецца без камандзіра, рашуча бярэ на сябе кіраўніцтва людзьмі. Ну што ж, барацьбіту, які меў за спінай такі вялікі вопыт «партызанскіх» дзеянняў, гэта не асабліва цяжка, але амаль у самым пачатку адной з сутычак з царскімі войскамі ён гіне. Напэўна, ворагі апазналі ў ім кіраўніка, бо, па сведчанню відавочцаў, цела яго было зрашэчана кулямі.

Так 26 мая 1863 года каля вёскі Парэчча (сучасны Барысаўскі раён) закончылася жыццё таленавітага скульптара і адважнага змагара Генрыха Дмахоўскага.





# ГРАНДЭ ЭДУКАДОР

1802–1889



Яго імем названы фіялка і горны хрыбет, мінерал і выкапнёвы слімак. А яшчэ — рабочы пасёлак, порт і горад у адной з лацінаамерыканскіх краін. У гэтай краіне ў яго гонар быў выпушчаны памятны медаль, а дзень яго смерці аб'яўлены днём нацыянальнай жалобы. Чалавек гэты — наш зямляк Ігнацы Дамейка.

Нарадзіўся Дамейка ў маёнтку Мядзвядка недалёка ад Міра 31 ліпеня 1802 г. Некалькі гадоў пражыў Ігнацы ў маёнтку свайго бацькі старшыні Навагрудскага земскага суда Іпаліта Дамейкі. Вясной 1809 года Іпаліт памірае, і дзяцей (разам з Ігнацыем іх было пяцёра) бяруць пад сваю апеку браты яго, таксама Ігнацы і Юзэф. Апошні калісьці вучыўся ў горным вучылішчы ў нямецкім горадзе Фрайбергу. Магчыма, менавіта яго расказы выклікалі інтарэс да мінералогіі ў будучага вучонага.

Першапачатковую адукацыю Ігнацы атрымаў у калегіуме манахаў-піяраў у Шчучыне. Гэты манаскі ордэн вылучаўся сваім найбольш прагрэсіўным выхаваннем і шырокімі ведамі, якія даваліся выхаванцам.

Пасля заканчэння калегіума Ігнацы паступае ў Віленскі універсітэт, які ў той час з'яўляўся цэнтрам асветы ўсіх беларуска-літоўскіх зямель. У ім выкладалі такія сусветна вядомыя вучоныя, як Лелявель, Франк, Гродэк,

браты Снядзецкія, Юндзіл. Сярод выхаванцаў, якія займаліся ў той час ва універсітэце, можна назваць Яна Чачота, Томаша Зана, Адама Міцкевіча. У хуткім часе Міцкевіч і Дамейка пазнаёміліся (у далейшым гэта знаёмства перарасло ў цесную дружбу). Праз пэўны час Адам увёў Ігнацыя ў кола членаў тайнага таварыства філаматаў, дзе той атрымаў канспіратыўнае імя Жэгота.

Гэтае студэнцкае згуртаванне ўзнікла ў 1817 годзе і напачатку ставіла перад сабою асветніцкія мэты — папулярызацыю здабыткаў французскіх асветнікаў, вызначэнне ролі чалавека і грамадзяніна. Але пазней філаматы прыйшлі да ўсведамлення неабходнасці палітычнай барацьбы. Яны выступілі супраць феадальных абсалютысцкіх парадкаў, выказваліся за адмену прыгоннай залежнасці сялян, лічачы, што ганебнае прыгонніцтва супярэчыць цвярозаму розуму, распрацоўвалі праграму палітычнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Паліцыя даведалася аб дзейнасці суполкі. Яна была разгромлена, больш за сто яе членаў былі арыштаваны і кінуты ў турму. Сярод арыштаваных апынуліся і Дамейка, і Міцкевіч. Значна пазней Адам Міцкевіч апісаў падзеі тых дзён у паэме «Дзяды». Адным з герояў паэмы быў Жэгота. Пад гэтым імем увайшоў у бессмяротны твор Ігнацы Дамейка.

Філаматаў прыгаварылі да высылкі. Ігнацы ж пазбег гэтага выпрабавання — выратаваў дзядзька, які меў вялікі ўплыў. Ён дабіўся, каб пляменніка накіравалі «на выпраўленне» ў вёску Заполле на Лідчыне. Праз пэўны час Ігнацы атрымаў дазвол перабрацца ў Жыбуртоўшчыну (недалёка ад Дзятлава). Атрымаў ён і яшчэ адно пакаранне — пажыццёвую забарону працаваць на дзяржаўнай службе.

Ігнацы заняўся сельскай гаспадаркай. Гэта дало яму магчымасць лепш пазнаёміцца з жахлівымі ўмовамі жыцця прыгонных сялян, паглыбіць засвоеную яшчэ ў дзяцінстве беларускую мову. Ён адкрыў у сваім маёнтку сялянскую школу, зменшыў баршчыну настолькі, наколькі гэта дазвалялі тагачасныя законы.

1830 год. Рэвалюцыя ў Францыі. Як водгук на яе — паўстанне моладзі ў Варшаве. У наступным годзе полымя барацьбы ахапіла і Беларусь. Ігнацы Дамейка далучаецца да паўстанцаў. Але не падтрыманае народнымі масамі паўстанне хутка было падаўлена. Дамейка вымушаны быў разам з атрадам генерала Хлапоўскага (пад кіраўніцтвам якога зма-

гаўся) пакінуць радзіму. Паўстанцы перайшлі прускую мяжу і склалі зброю. Ігнацы, як і многія яго таварышы па зброі, накіраваўся ў Парыж. Па дарозе, у Дрэздэне, ён сустрэўся з Адамам Міцкевічам. Яны засталіся верныя сваёй юнацкай дружбе, якая ў выгнанні была асабліва моцнай і цёплай.

У Парыжы ў той час сабралася мноства былых паўстанцаў. Усе яны спадзяваліся хутка вярнуцца на радзіму, каб працягваць барацьбу з царызмам. Ігнацыя часта можна было бачыць на мітынгах, чуць там яго прамовы. У гэты ж час ён працягвае вучобу, перапыненую некалі арыштам, наведвае лекцыі ў Горнай школе, а таксама ў славутым Сарбонскім універсітэце і не менш папулярным Калеж дэ Франс. Не забывае за ўсімі гэтымі справамі і аб старым сябры — ён дапамагае А. Міцкевічу перапісваць начыста рукапіс яго толькі што закончанай паэмы «Пан Тадэвуш» (праз некаторы час, калі гэты твор быў надрукаваны, Адам падарыў Ігнацыю першы экземпляр кнігі).

У гэты час Дамейка не раз вяртаўся ў думках на радзіму, але ажыццявіць мару было нерэальна, бо там яго чакала турма. Ён шукае, дзе прымяніць свае веды, — для практыкі ў горнай справе пабываў на поўдні Францыі, працаваў у Эльзасе, але ўсё гэта было яму не па душы. Дапамог выпадак. Стала вядома, што Горнай школе ў Какімба (Рэспубліка Чылі) неабходны выкладчык хіміі і мінералогіі. З дапамогай Міцкевіча гэты кантракт тэрмінам на 6 гадоў быў падпісаны. Наш зямляк абавязаўся за гэты час стварыць хімічную лабараторыю і абучыць студэнтаў хіміі.

У студзені 1838 года Дамейка накіраваўся на месца будучай працы. Са шматлікімі прыпынкамі, перасадкамі дабіраецца ён да сталіцы Аргенціны Буэнас-Айрэса. Далей можна было рухацца толькі па сушы. Трэба было спяшацца, бо набліжалася зіма і ўзнікала небяспека закрыцця снегам пераваляў праз Анды. Дамейка са сваім спадарожнікам — жыхаром Чылі Карла Ламбертам — накіраваўся верхам на конях праз пампасы (паўднёваамерыканскія стэпы). Ім даводзілася пераплаўляцца праз рэкі, начаваць на паштовых станцыях у хатках, складзеных з неабпаленай цэглы. Неаднойчы дахам для іх служыла зорнае неба. Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці, Ігнацы не забываўся пра навуку — збіраў у дарозе мінералы, апісваў геалагічную будову глебы. З вялікай цяжкасцю караван пераадолеў Анды, і Дамейка ўрэшце апынуўся ў Какімба. З Францыі да новага месца працы ён дабіраўся паўгода.

Наш зямляк наладжвае свой быт, з дапамогай вучняў будуе памяшканне для лабараторыі, чытае ім лекцыі на іспанскай мове (якую вывучыў у дарозе за тры месяцы). Акрамя таго, робіць са сваімі вучнямі шэраг экспедыцый у горы. У час гэтых вандровак нястомны вучоны адкрыў некалькі радовішчаў карысных выкапняў — срэбра, медзі, золата, вугалю. Яму ж належыць і адкрыццё сусветна вядомых у наш час радовішчаў салетры. Яны настолькі багатыя, што, нягледзячы на няспынную эксплуатацыю, захоўваюць сваё прамысловае значэнне і ў нашы дні. Больш таго, Дамейка першы з еўрапейцаў звярнуў увагу на карысныя ўласцівасці гэтага аднаго з найбольш каштоўных угнаенняў.

Ігнацы атрымоўвае шырокую вядомасць як сярод мясцовых вучоных, так і ва ўрадавых колах. Наш зямляк жахнуўся, убачыўшы, у якіх невыносна цяжкіх умовах працуюць мясцовыя шахцёры, і, даведаўшыся, як мала яны зарабляюць, ён дасылае ўраду краіны петыцыю з патрабаваннем палепшыць умовы жыцця людзей. І ўрад прыслухоўваецца да гэтага, ідзе на ўступкі...

У 1843 годзе дзеянне кантракта скончылася. Маладая рэспубліка, якая толькі за чвэрць стагоддзя да гэтага вызвалілася ад каланіяльнага прыгнёту, працягвала адчуваць велізарны недахоп у спецыялістах. Дамейку прапанавалі месца прафесара хіміі і фізікі ў незадоўга да таго адкрытым у Сант'яга (сталіцы Чылі) нацыянальным універсітэце. Ігнацы згадзіўся і ў хуткім часе пабудаваў на ўскраіне горада невялікі ўтульны дамок, абсадзіўшы яго экзатычнымі (для нас) дрэвамі. Тут неўзабаве пачалі збірацца лепшыя людзі краіны — вучоныя, дзяржаўныя дзеячы, тут вяліся шматчасовыя гутаркі (якія часам перарасталі ў гарачыя спрэчкі), тут абмяркоўвалі навіны навукі, тут раіліся, што зрабіць для развіцця рэспублікі. Тут ён пазнаёміўся з пятнаццацігадовай дзяўчынай Гюзман дэ Сатамаер, сюды прыйшла яна ў хуткім часе ў якасці жонкі і вернай памочніцы.

Шмат падарожнічаў Ігнацы Дамейка. То на кані, то пешшу ён забіраўся ў самыя далёкія куткі краіны. Яго маршруты праляглі ад перуанскай мяжы на поўначы да Вогненнай Зямлі на поўдні. Ні холад, ні спёка, ні праліўныя дажджы не маглі спыніць нястомнага даследчыка. Змораны, а бывала і хворы, вяртаўся ён пад родны дах і, адпачыўшы дзень-два, пачынаў рыхтаваць свае даследаванні. Яго працы амаль адразу прыцягнулі ўвагу вучоных

усяго свету. Ён першы склаў падрабязную карту распрацовак каменнага вугалю ў Кансепсьёне, першым вызначыў характар медных руд у Чукікамаце і Патрарыльеса, першым зрабіў геаграфічнае апісанне Араўканскіх стэпаў. Для таго каб з'явілася апошняя праца, Ігнацы наважыўся зрабіць падарожжа, ад якога яго адгаворвалі ўсе сябры. Яго знаёмыя лічылі гэтую задуму вар'яцтвам. Ніхто не спадзяваўся, што ён вернецца з гэтай вандроўкі жывым. І не дзіўна, бо шлях нашага земляка ляжаў за раку Біо-Біо. Тэрыторыі, што знаходзіліся за ёй, толькі намінальна лічыліся чылійскімі, бо жыло тут незалежнае племя араўканцаў, якое не падпарадкоўвалася белым прышэльцам.

Але індзейцы, якіх усе лічылі амаль дзікунамі, сустрэлі «бледнатварага» госця вельмі зычліва. Яны памагалі яму ў падарожжы, дзяліліся ежай. Не раз начаваў Ігнацы ў іх паселішчах. І ўсюды мясцовыя жыхары гаварылі яму аб сваім жаданні жыць у міры з еўрапейцамі, а не змагацца з імі, аб тым, што яны хочуць жыць самі па сабе.

Пасля вяртання Дамейка напісаў кнігу «Араўканія і яе жыхары». Выдадзеная ў 1860 годзе на польскай мове, у наступнае дзесяцігоддзе яна была перакладзена на многія іншыя мовы. Яе аўтар пісаў пра індзейцаў, пра іх характар, у якім ёсць усё, што павінна ўпрыгожваць сапраўднага грамадзяніна. Ён падкрэсліваў: «Араўканскія індзейцы не з'яўляюцца дзікунамі. Я лічу іх больш цывілізаванымі... чым іх прыгранічныя цывілізатары». Зыходзячы з усяго гэтага, Ігнацы заўважаў: «Не бачу ніякай неабходнасці, каб настойваць на каланізацыі гэтых зямель, якія належаць не ўраду, а працавітаму і мужнаму народу, калі побач знаходзяцца такія ж абшары, якія з'яўляюцца ўласнасцю рэспублікі, — і пустынныя, як зямныя полюсы, і ўрадлівыя, нібы берагі ракі Імперыял».

Акрамя падарожжаў і выкладчыцкай дзейнасці, дон Ігнацы (так называлі яго чылійцы) займаўся навуковымі даследаваннямі. Кола яго інтарэсаў было велізарным — мінералогія, батаніка, геаграфія, хімія, этнаграфія, эканоміка, геалогія... Па просьбе ўрада Чылі ён распрацаваў і ажыццявіў школьную рэформу, зрабіўшы навучанне дзяцей больш дэмакратычным і агульнадаступным, стварыў мінералагічны і этнаграфічны музеі, хімічную і горную лабараторыі, арганізаваў метэаралагічную службу. У Сант'яга Ігнацы ўзначаліў работы па забеспячэнню горада ва-

дой. Ім жа распрацавана і аснова навуковай эксплуатацыі прыродных рэсурсаў Чылі.

Нястомная навуковая, экспедыцыйная і грамадзянская дзейнасць дона Ігнацыя выклікала велізарную павагу чылійскай грамадскасці. Яго выбіраюць рэктарам універсітэта ў Сант'яга чатыры разы запар. Толькі ў 1884 годзе Дамейка адмовіўся ад гэтай пасады, выказаўшы такім чынам пратэст захопніцкай вайне, развязанай урадам Чылі супраць Рэспублікі Перу. Нягледзячы на адкрытае неадабрэнне, выказанае вучоным ураду, вырашана было тым не менш выпусціць памятны медаль у яго гонар. Шматгадовая праца і велізарныя заслугі Дамейкі былі адзначаны яшчэ і самай вялікай у краіне пенсіяй — 6000 піястраў у год.

Ігнацы вырашыў пабываць на радзіме. Ён спадзяваўся, што царскія чыноўнікі яго, вучонага з сусветным імем, праследаваць не будуць, тым больш што пасля смерці Мікалая I была аб'яўлена амністыя ўсім былым «палітычным злачынцам». Ён едзе на радзіму, а ў якасці багажу бярэ толькі цудоўную калекцыю мінералаў у падарунак еўрапейскім універсітэтам.

Яго з захапленнем сустракаюць у Еўропе. У Парыжы ўрачыста вітаюць вучоныя Сарбоны. У Кракаве прысуджаюць вучоную ступень ганаровага доктара навук. У Варшаве на пероне са слязамі радасці на вачах Ігнацыя сустракае Антон Адынец — сябра студэнцкіх гадоў, апошні філамат, які застаўся ў жывых, акрамя Дамейкі, а дома... царскія чыноўнікі на чатыры месяцы затрымліваюць яго пашпарт. У процілегласць уладам мясцовая інтэлігенцыя і сяляне сустракалі свайго земляка сардэчна, з хлебам і соллю. Ігнацы наведвае мясціны, дзе прайшлі яго дзяцінства і маладосць. У яго ўзнікае нават думка застацца тут. Але хіба царскія бюракраты дадуць яму спакойна працаваць і жыць?

І Дамейка пасля Расіі, пабываўшы ў Італіі і Палесціне, вяртаецца ў Чылі. У Сант'яга ён прыязджае ў канцы 1888 года і неўзабаве, 23 студзеня 1889 года, памірае.

На адной з плошчаў Сант'яга і цяпер стаіць помнік. На яго п'едэстале кароткі надпіс: «Грандэ Эдукадор». Пабеларуску гэта гучыць гэтак жа коратка і велічна: «Вялікі асветнік».





# НЯСТОМНЫ ПАДАРОЖНІК

1837–1896

Ён жыў і працаваў у трох частках свету. Шырокаадукаваны чалавек — географ, геолаг, медык, заолаг, батанік... Але ўсе гэтыя захапленні былі толькі дапаўненнем да яго асноўнай прафесіі — падарожніка. Яго, рамантыка па натуры, увесь час цягнула ў невядомыя землі, яму хацелася ўбачыць, што ж там — за рысай гарызонту. Звалі яго Канстанцін Ельскі.

Канстанцін з'явіўся на свет 17 лютага 1837 года ў вёсцы Ляды Смілавіцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні. Яго бацька паходзіў з шырокавядомай, але збяднелай сям'і. Ужо ў раннім дзяцінстве хлопчык праявіў незвычайныя здольнасці да навукі. Скончыўшы на «выдатна» Мінскую гімназію, Ельскі паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Але пасля завяршэння вучобы ў Маскве, не задаволіўшыся набытымі ведамі, ён займаецца на матэматыка-прыродазнаўчым факультэце Кіеўскага універсітэта.

Пасля заканчэння гэтай навуковай установы ён застаецца ў Кіеве, дзе ўладкоўваецца пазаштатным настаўнікам у гімназію. Канстанцін прысвячае шмат часу вывучэнню малюскаў і ў кастрычніку 1862 года атрымоўвае званне магістра. На абароне сваёй працы ён выступіў у якасці

аднаго з першых у Расіі прыхільнікаў эвалюцыйнай тэорыі Чарлза Дарвіна. У прамове К. Ельскі адзначыў: «Тэорыя Дарвіна аб перараджэнні відаў спрыяе развіццю прыродазнаўчых навук». Пасля атрымання звання малады вучоны яшчэ два гады наведваў педагагічныя курсы. Гэта настойлівасць была ўзнагароджана — у Кіеўскім універсітэце вызвалілася месца выкладчыка і Канстанціну прапанавалі прыняць удзел у конкурсе на замяшчэнне гэтай пасады. Ён згадзіўся і выйграў, ды яшчэ як! Праца, прад'яўленая камісіі, была ўзнагароджана залатым медалём, а яе аўтар атрымаў права і магчымасць выкладаць ва універсітэце.

Здаецца, усё складваецца выдатна, але нашага земляка ўсё мацней і мацней вабяць далёкія землі. Ён марыць пабачыць свет. Да таго ж у Расіі пасля падаўлення паўстання 1862—1863 гадоў узмацнілася рэакцыя. Самае нязначнае праяўленне вальнадумства жорстка каралася. Датычылася гэта і універсітэцкага жыцця. А тут яшчэ сярод пакараных за ўдзел у паўстанні быў і брат Ельскага Уладзімір. Хоць сам Канстанцін хутчэй за ўсё ніякіх адносін да паўстання не меў, але ж палічыў за лепшае апынуцца за мяжой.

К. Ельскі накіроўваецца ў заалагічную экспедыцыю ў Бесарабію, дзе і пераходзіць румынскую мяжу. Адтуль ён у хуткім часе перабіраецца ў Турцыю, дзе з-за адсутнасці грошай затрымліваецца на цэлыя два гады. Каб не памерці з голаду, Ельскі ўдзельнічаў у некалькіх геалагічных экспедыцыях і нават уручную расфарбоўваў геаграфічныя карты для школ. Часам яму здавалася, што так будзе заўсёды і што ён не выберацца з гэтага становішча. Але свет не без добрых людзей.

У 1865 годзе сябры дапамаглі яму пераехаць у Еўропу. Ельскі апынуўся ў Парыжы, дзе ўладкаваўся на працу ў Прыродадаследчы інстытут. Ацаніўшы вялікія веды новага супрацоўніка, прафесар Дэйроль — непасрэдны кіраўнік Канстанціна — у той жа год прапанаваў яму паехаць у Гвіяну (паўднёваамерыканскую калонію Францыі) у якасці пастаўшчыка чучал птушак і шкур жывёл. Здаецца, мара аб далёкіх краінах, якая ўвесь час натхняла нашага земляка, можа здзейсніцца. Але як жа папасці ў Гвіяну? Дапамог выпадак. Стала вядома, што якраз у той час у Гвіяну

накіроўваецца ваенны транспарт з катаржнікамі, але на яго амаль немагчыма трапіць. Канстанцін звяртаецца ў ваенна-марское міністэрства з прашэннем выдаць яму бясплатны білет на гэты карабель.

І вось ён на палубе фрэгата «Амазонка». У яго кішэні толькі 150 франкаў, сабраных яму на дарогу парыжскімі сябрамі. Але падарожнік упэўнены, што не прападзе і на гэты раз.

У жніўні 1865 года карабель дасягае ўзбярэжжа Амерыкі. Канстанцін Ельскі ўладкоўваецца на працу ў аптэку горада Кайены, сталіцы Гвіяны. Яго, высокаадукаванага ўрача, узялі ўсяго толькі вучнем фармацэўта. Але Канстанціна гэта задавальняла, бо праца — удзел ва ўрачэбным абходзе і прыгатаванне лекаў ды кожны трэці дзень дзяжурства ў бальніцы — займала няшмат часу — з 7 да 9 гадзін раніцы. За гэта ён атрымліваў харчаванне, магчымасць карыстацца бібліятэкай, а таксама збіраць кажаноў і насякомых у бальнічным садзе. І галоўнае — у яго была процьма часу для даследчай дзейнасці.

Наш зямляк быў адным з першых натуралістаў, што апынуліся ў гэтых мясцінах. Перад ім ляжала амаль невядомая краіна, якая раскрывала дапытліваму воку шмат новага, недаследаванага. І Ельскі з галавой акунуўся ў навакольны свет, знайшоў у ім велізарную колькасць новых жывёл, птушак, раслін.

Увесь вольны час ён аддае вывучэнню навакольнай прыроды, шмат падарожнічае, збірае калекцыі насякомых, птушак, раслін, вывучае іх сам, а таксама рэгулярна адсылае ў розныя еўрапейскія музеі.

Неўзабаве даследчыка накіравалі абслугоўваць лазарэт на астравах Выратавання, якія з'яўляліся найбольш жахлівым месцам зняволення. Большасць вязняў, што ўтрымліваліся тут, былі пасаджаны за палітычную дзейнасць. Сярод іх знаходзіліся і арабы, сасланыя за барацьбу супраць каланізатараў, і негры, і немцы з Эльзаса, і карсіканцы, і французы...

Гэтыя астравы насяляла велізарная колькасць птушак. Аднак стрэльбай карыстацца было нельга (каб не хваляваць наглядчыкаў), таму Ельскаму давялося асвойваць новы від зброі — сарбакан (духавую трубку), прывезены яму знаёмымі індзейцамі аднекуль з глыбінь Гвіяны. Вы-

нікам палявання была цудоўнейшая калекцыя птушыных чучал. У дадатак да гэтага Канстанцін сабраў даволі добрыя калекцыі ракаў, водарасцей, каралаў.

Пасля вяртання з астравоў Ельскага запрасілі выкладаць батаніку і земляробства ў Кайенскае вучылішча. У хуткім часе ён робіць вандроўку па рэчках Ко і Аяпок. На берагах апошняй ён пазнаёміўся з вольным неграм Кустэнам, які зарабляў на жыццё вырабам птушыных чучал. Той навучыў нашага земляка вырабляць іх па-свойму — без гіпсу, крухмалу і паперы. У далейшым Ельскі неаднойчы выкарыстоўваў гэты спосаб у час далёкіх вандровак.

Тады ж Канстанцін пабываў на кафейных плантацыях. «Кафейнае дрэва, — расказваў ён, — заўсёды цудоўнае, ці пакрыта яно белымі злёгку пахучымі кветкамі, ці цёмна-чырвонымі ягадамі. Я ніколі не бачыў на дрэве насякомых альбо якую-небудзь хваробу».

Таму-сяму з чытачоў можа падацца, што ўсе гэтыя вандроўкі былі нечым накшталт нашых загарадных прагулак. Але гэта вялікая памылка. Зямля тая зусім не нагадвала рай зямны. Гушчар, створаны высачэзнымі дрэвамі, хмызняком, паўдзікімі ліянамі, якія ўсё пераплятаюць. Пад яго шатамі адчуваеш сябе, нібы ў парылцы. А жывёлы! Прычым не толькі пантэры ды кракадзілы, але і розная «дробязь», такая, як электрычны вугор ці рыбкі піраніі, якія стаяй за дзве хвіліны начыста абгрызаюць быка, ці драўляныя піяўкі, «вогненныя мурашкі», кляшчы, разнастайныя віды мух і крывасоснай машкары... А змеі!

У сваіх успамінах Ельскі прыгадвае два здарэнні, што адбыліся з адным жандарам. Ён піша: «У Сен-Ланц быў такі выпадак: плывучы па рацэ (на лодцы. — *М.Б.*) разам з каланістамі, жандар убачыў у вадзе велізарную змяю, боамурына, і забіў яе. Калі здымалі шкуру, у страўніку ўдава знайшлі мятровага кракадзіла...» Даўжыня гэтай змяі была 7 метраў, аб чым пасля яе вымярэння і быў складзены дакумент. У другім выпадку гэтаму жандару пашанцавала значна менш. Аднойчы ён падстрэліў качку і палез за ёю ў ваду. Раптам яго схапіла за плячо змяя і пачала цягнуць у вір. Жандар з вялікай цяжкасцю вырваўся, але пазней з перапуду захварэў малярыяй і лячыўся ў Кайенскім шпіталі, дзе і пазнаёміўся з ім наш зямляк. Па словах Ельскага, сляды зубоў змяі засталіся на плячы жандара на ўсё жыццё.

Але былі ў Гвіяне і з'явы, якія Канстанцін пераносіў са значна большай цяжкасцю. Яго з першых дзён уразіў кантраст — купка ашалелых ад свайго багацця плантатараў і асноўная частка насельніцтва калоніі, якая жыла ў крайняй галечы. Негры, кітайскія кулі, мулаты, белыя катаржнікі — усе яны, хто за мізэрны заробак, хто зусім бясплатна, працавалі на плантацыях. Але найгоршым было становішча індзейцаў. Ельскі з горыччу пісаў аб тым, як на карэнных жыхароў гэтай зямлі рабіліся самыя сапраўдныя аблавы, быццам на дзікіх жывёл.

Сам жа Ельскі вельмі пасябраваў з індзейцамі. Ён задарам лячыў іх у час сваіх далёкіх падарожжаў, дзяліў з імі ўсе цяжкасці і нягоды. Яны плацілі яму шчырай удзячнасцю. Колькі рэдкіх жывёл здабылі туземцы для «добрага белага» (так называлі яны між сабой Канстанціна)! Ельскі гасцяваў у іх вёсках, неаднойчы накіроўваўся разам з жыхарамі на лоўлю чарапах, нават удзельнічаў у паляванні на акул. Наш зямляк высока цаніў здольнасці індзейцаў, бачыў у іх паўнацэнных людзей, якія маюць усе правы на свабоднае жыццё, здзіўляўся іх незвычайнай прыстасаванасці да паўднёваамерыканскіх джунгляў. Даследчык сцвярджаў: «Яны могуць дастаць у лесе літаральна ўсё, бо ведаюць карысныя ўласцівасці кожнай расліны і кожнага дрэва». Ельскага непакоіла тое, што індзейцаў становіцца ўсё менш і менш і яны «гінуць, таму што знаёмяцца з цывілізацыяй пры пасрэдніцтве сквапных купцоў, якія за гарэлку набываюць усё, што індзеец можа здабыць».

У Гвіяне Ельскі прабыў звыш чатырох гадоў, а затым накіраваўся ў Перу, дзе планаваў павялічыць свае калекцыі. У гэтай краіне ён правёў дзесяць гадоў. На працягу гэтага часу нястомны даследчык вывучаў фауну наваколля сталіцы Перу Лімы, дзе ён жыў, неаднойчы пераходзіў цераз Кардыльеры, разам са сваім земляком Янам Штольцманам даследаваў вярхоўе Амазонкі.

Вядомы перуанскі вучоны Антоніа Раймондзі звярнуўся да яго з просьбай прыняць удзел у стварэнні і працы прыродазнаўчага музея ў Ліме. У гэты ж час наш зямляк адкрыў сакрэт кітайскай тушы, удасканаліў спосаб захоў-

вання насякомых, апісаў звычаі і абрады жыхароў Паўднёвай Амерыкі, падтрымліваў цесныя сувязі з мноствам еўрапейскіх музеяў, навуковых цэнтраў і асобных вучоных.

У 1878 годзе ў сталым узросце даследчык вяртаецца ў Еўропу. Пасля нядоўгага знаходжання ў Варшаве ён перабіраецца ў Кракаў і ўладкоўваецца захавальнікам калекцый мясцовай Акадэміі навук. Адначасова выкладае на вышэйшых жаночых курсах прыродазнаўства ў Прамысловым музеі.

У 1883 годзе К. Ельскі ажаніўся са сваёй стрыечнай сястрой Е. Корсак. Вядомасць, багацце, сям'я. Здавалася б, што яшчэ трэба чалавеку? Але вечнаму вандроўніку ціхае сямейнае жыццё было нясцерпным. Ён удзельнічае ў геалагічных экспедыцыях у Брэтань і Далмацыю, апрацоўвае матэрыялы сваіх падарожжаў і даследаванняў. На аснове пісем і дзённіка піша ўспаміны і марыць убачыць будучую кнігу.

Але гэтаму не суджана збыцца. 26 лістапада 1896 года К. Ельскі памірае. Успаміны ж (дакладней, іх першая частка) убачылі свет толькі ў 1898 годзе. Называлася кніга, як і ўсе падобныя выданні тых часоў, вельмі пышна: «Папулярна-прыродаведчы аповед аб прабыванні ў Французскай Гвіяне і часткова ў Перу». Кніга была выпушчана ў Кракаве, горадзе, дзе нястомны падарожнік, даследчык, усё жыццё якога з'яўлялася прыкладам штодзённага служэння навуцы, пражыў апошнія свае гады.

Сабраны Ельскім матэрыял даў магчымасць іншым вучоным правесці вялікую працу па класіфікацыі і абагульненню. Удзячныя батанікі назвалі адзін з адкрытых ім відаў лаўра яго імем.

Калі знаёмішся з жыццём гэтага чалавека, шкадуеш толькі аб адным — што ўспаміны нашага земляка да гэтага часу не перакладзены з польскай мовы.



# ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ



У гэтай кнізе ўсяго некалькі лёсаў. Перад вамі адкрылася ўсяго некалькі старонак нашага слаўнага мінулага. Магчыма, гэта першая кніга па гісторыі, якую, акрамя падручніка, давялося вам прачытаць. Тады я вельмі спадзяюся на тое, што вашы духоўныя патрэбы, падмацаваныя натуральнай чалавечай цікаўнасцю, падштурхнуць вас на далейшае чытанне, далейшае адкрыццё. Але, хутчэй за ўсё, мая кніга — гэта адна з многіх, прачытаных вамі пра мінулае нашай Радзімы. І яна проста дадала штосьці новае ў вялікую ўжо скарбонку ведаў.

У любым выпадку аўтар удзячны вам за давер, за тую шчырую размову, якую вялі вы з ім падчас чытання яго працы. І ён спадзяецца, што сярод яго чытачоў знойдуцца тыя, хто прадоўжыць пачатую ім і многімі іншымі беларускімі даследчыкамі работу па вяртанні нашай гістарычнай спадчыны. І дай Бог, каб у гэтай высакароднай справе хаця б у чымсьці была вам карысная гэтая кніга.

# Літаратура для дадатковага чытання




Арлоў У.А. Таямніцы полацкай гісторыі. Мн., 1994.

Баравікова Р. Барбара Радзівіл // Баравікова Р. Люстэрка для самотнай: Вершы і драматычная паэма. Мн., 1992.

Грицкевич В.П. Путешествие наших земляков. Мн., 1968.

Дамейка Ігнат. Мае падарожжы. Мн., 2002. (Беларускі кнігазбор; Сер. II. Гісторыка-літаратурныя помнікі.)

Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994.

Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да пачатку XX ст. Мн., 1993.

Казлоў Л.Р. З дазволу караля і вялікага князя. Мн., 1992.

Карамзин Н.М. Предания веков: Сказания, легенды, рассказы из «Истории государства Российского». М., 1988.

Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі. Мн., 1977; 1992.

Клаз И. Потомству в пример. Мн., 1978.

Ладинский Ант. Когда пал Херсонес. Анна Ярославна — королева Франции. Мн., 1987.

Лукашев М.Н. И были схватки боевые: Рассказы о неизвестных эпизодах из славного прошлого отечественной борьбы, бокса и кулачного боя. М., 1990.

Мальдзіс А.П. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969.

Масленицына И., Богодзяж Н. Радзивиллы — несвижские короли. Мн., 1997.

Масленицына И. Кавалеры и дамы белорусского ренессанса. Мн., 2000.

Масленицына И. По рыцарским законам. Мн., 2001.

Масляніцына І., Багадзяж М. Слава і няслаўе. Мн., 1995.

Праз смугу стагоддзяў. Мн., 1993.

Радзівіл М.К. Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва Ясна Асветленага Князя Ягамосці Мікалая Крыштафа Радзівіла ў Святую Зямлю // Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994.

Рылеев К.Ф. Глинский // Рылеев К.Ф. Избранное. М., 1975.

Сагановіч Г. Айчыну сваю баронячы. Мн., 1992.

Сагановіч Г. Невядомая вайна. 1654—1667. Мн., 1995.

Сенкевич Г. Потоп: В 2 т. М., 1987.

Скрынников Р.Г. Иван Грозный // Скрынников Р.Г. Далекий век. М., 1989.

Толстой Л.Н. Война и мир (любое выданне).

Чаропка В. Імя ў летапісе. Мн., 1994.

Чаропка В. Храм без Бога. Мн., 1992.

Шишигина К.Я. Музы Несвижа. Мн., 1986.

Шышыгіна К. Чорная дама Нясвіжскага замка. Мн., 1992.

# ЗМЕСТ





# СЫНЫ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Мсціслаў Храбры
Давыд Гарадзенскі
Канстанцін Астрожскі
Міхал Глінскі
Мікалай Радзівіл Чорны
Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка
Януш Радзівіл
Іаахім Літавор Храптовіч
Дамінік Геранім Радзівіл
Аляксандр Казарскі
Генрых Дмахоўскі
Ігнацы Дамейка
Канстанцін Ельскі

ISBN 985-03-0995-4

